Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 47 (4745) 29 лістапада 2013 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Мікалая Дабранравава з 85-годдзем. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што на беларускай зямлі Мікалай Дабранраваў карыстаецца прызнаннем як таленавіты майстар слова, які плённа супрацоўнічае з беларускімі музыкантамі, добры і верны сябар Беларусі. «Перакананы, што Вы і ў далейшым будзеце ўносіць важкі ўклад ва ўмацаванне культурных сувязей паміж нашымі братнімі народамі», — падкрэсліў Прэзідэнт.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Уладзіміра Машкова з 50-годдзем. «Вас па праве называюць адным з яркіх майстроў сучаснага тэатра і кінематографа. Дзякуючы вялікаму таленту, непаўторнай манеры ігры Вы стварылі на сцэне і экране незабыўныя вобразы герояў розных эпох і народаў, заваявалі прызнанне і любоў шматлікіх паклоннікаў не толькі ў Расіі, але і далёка за яе межамі», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ У ходзе 37-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА прынята рашэнне пра ўключэнне юбілеяў Іосіфа Гашкевіча і Міхаіла Клеафаса Агінскага ў Каляндар памятных дат ЮНЕСКА на 2014 — 2015 гады. Ініцыятыва Беларусі пра ўключэнне юбілею І. Гашкевіча была падтрымана Расіяй і Японіяй, пра ўключэнне М. К. Агінскага — Літвой і Польшчай. Падобны крок сведчыць пра прызнанне заслуг дзеячаў беларускай гісторыі і культуры, а таксама падкрэслівае важнасць беларускай культурнай і гістарычнай спадчыны для сусветнага грамадства.

✔ Юныя мастакі Магілёва і Бабруйска сталі пераможцамі міжнароднага этапу адкрытага конкурсна-выставачнага праекта юных мастакоў Беларусі і Расіі «Алімпійская вясёлка», прысвечанага XXII Алімпійскім і XI Паралімпійскім зімовым гульням 2014 года ў Сочы і Чэмпіянату свету па хакеі 2014 года ў Мінску. У адрас аргкамітэта паступіла 80 твораў юных мастакоў Саюзнай дзяржавы. Самымі актыўнымі ўдзельнікамі ад Рэспублікі Беларусь сталі прадстаўнікі Магілёўскай і Брэсцкай, ад Расійскай Федэрацыі — Ленінградскай, Ульянаўскай і Саратаўскай абласцей.

✔ Сёння адбудзецца генеральны прагон на міжнародным дзіцячым конкурсе песні «Еўрабачанне-2013». Прадбачыцца, што на ім будзе прысутнічаць прафесійнае журы. Прадстаўнік Беларусі Ілья Волкаў і танцавальная група *Maxi Briz* ужо апрабавалі сцэну Нацыянальнага палаца мастацтваў «Украіна», дзе 30 лістапада пройдзе фінал міжнароднага конкурсу. Паводле кіраўніка беларускай дэлегацыі, выканаўчага прадзюсара тэлеканала «Беларусь 2» Людмілы Барадзіной, рэпетыцыя прайшла ўдала.

✔ Мінскі абласны фестываль нацыянальных культур пройдзе заўтра ў Маладзечне. Будуць прадстаўлены 10 нацыянальнасцей з 9 раёнаў Міншчыны. Сярод удзельнікаў — беларускае грамадскае аб'яднанне грэкаў «Пелапанэс», маладзечанскае гарадское культурна-асветніцкае таварыства ўкраінцаў «Краяны», грамадскае аб'яднанне «Саюз палякаў на Беларусі» (г. Маладзечна), народнае аматарскае аб'яднанне прадстаўнікоў нацыянальных культур «Шматгалоссе». Прыедуць на фестываль армянскія сем'і з Нясвіжа і ўзбекскія са Старадарожскага раёна.

**Падрыхтавала Ярына РЫТАМІНСКАЯ**



Першы міжнародны! 7



Пра хакей — грунтоўна 9



Ён маляваў словы 13



Пад сярпом… цэнзуры 15

*Фота Міхаіла Несцерава*



*Вялікі тэатр Беларусі прадставіў гледачам балетную прэм'еру — усходнюю філасофскую казку «Сем прыгажунь» на музыку Кара Караева.*

## Пытанне да творцы

# Ці даўно вы былі ў тэатры?



**Алена Мальчэўская, тэатральны крытык:**

— Апошні спектакль, які я паглядзела, а дакладней, пераглядзела, — «Вяселле» ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. У Мінску яго даўно не паказвалі, і мне было цікава, якім стала «Вяселле» пасля напружанага гастрольнага жыцця. Спектаклі ж з цягам часу змяняюцца… Што датычыць апошніх уражанняў, то яны звязаныя з двума фестывалямі — «ТЕАРТ» у Мінску і «Территория» ў Маскве. З абодвух адразу прыгадваю пастаноўкі Дзмітрыя Валкастрэлава. У Мінску паглядзела яго сумесную з Сямёнам Александроўскім працу «Shoot/Get treasure/Repeat» Марка Равенхіла, а ў Маскве — пастаноўку па п'есе беларускага драматурга Паўла Пражко «Тры дні ў пекле» ў Тэатры Нацый. Гэта постдраматычны тэатр, які сёння ўступае ў камунікацыю з досыць герметычным беларускім тэатральным працэсам і, безумоўна, на яго паўплывае. Яшчэ адным прыемным тэатральным уражаннем было ўбачыць у спісе намінантаў на Расійскую нацыянальную тэатральную прэмію «Залатая маска» прозвішчы двух беларускіх рэжысёраў (Алег Жугжда і Аляксандр Янушкевіч) і двух мастакоў (Валерый Рачкоўскі і Людміла Скітовіч) тэатра лялек.



**Віктар Шніп, пісьменнік, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура»:**

— Цяжка і адказаць, калі ў апошні раз быў у тэатры. Даўнавата. Часцей за ўсё хаджу ў Купалаўскі, падабаюцца спектаклі па творах Уладзіміра Караткевіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча — беларуская класіка.

Я заўважыў такі цікавы факт: у тэатр людзі прыходзяць кожны сам па сабе, а выходзяць, як адно цэлае, — пра адно думаюць, пра адно разважаюць — становяцца адным арганізмам. Здараецца, два-тры разы схадзіў у тэатр — і ўцягваешся. А пасля — раз — адышоўся ад гэтага, і здаецца, наступны паход будзе хутка, глядзіш — праляцела паўгода, год, а ты так і не трапіў у тэатр.

І, галоўнае на сёння, білетаў няма! Быў час, калі іх ніхто не купляў, а цяпер — не хапае. Раскупляюць на некалькі месяцаў наперад. Вельмі прыемна заўважаць, што тэатр сёння запатрабаваны, магчыма, болей, чым раней. У людзей з'явіўся інтарэс, жаданне быць далучанымі да культуры. Чалавечая душа не зачарсцвела, яна адгукаецца на тое, што адбываецца на сцэне, а пасля яшчэ доўга суперажывае ўбачанаму.



**Лада Алейнік, выкладчык, літаратурны крытык:**

— У тэатр я хаджу пастаянна. Наведваю ў асноўным традыцыйныя пастаноўкі. Яркае ўражанне засталося ад наведання Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра. Запрасіла мяне туды драматург Алена Папова. Спектакль называўся «Вандроўнікі». Ён, як, дарэчы, і ўсё, што стварае А. Папова, зроблены ў рэчышчы абсурдысцкай эстэтыкі. У гледача гэта выклікае жаданне разабрацца ў сэнсах, у метафорыцы.

Калі дазваляюць матэрыяльныя сродкі, я імкнуся наведваць гастрольныя тэатры (як правіла, яны адбываюцца ў Канцэртнай зале «Мінск») — гэта відовішчныя пастаноўкі! Безумоўна, хацелася б трапляць на такія яркія спектаклі і бачыць знакамітых акцёраў часцей..

# Праўда пра вайну

Міжнародная ваенна-гістарычная канферэнцыя «70-годдзе вырашальных баёў, якія змянілі ход Вялікай Айчыннай вайны», прайшла ў Маскве. Беларусь прадстаўляў вядомы ваенны гісторык, пісьменнік Барыс Далгатовіч.

У канферэнцыі бралі ўдзел ваенныя вучоныя Расіі, Беларусі, Украіны, Казахстана, Таджыкістана, усе, каму дарагая Вялікая Перамога над нямецкім фашызмам. Варта назваць імёны Прэзідэнта Акадэміі ваенных навук, генерала арміі М. Гарэева, заслужанага дзеяча навукі Расійскай Федэрацыі І. Даніленкі, начальніка Цэнтральнага архіва МА РФ І. Пермякова, генерал-палкоўніка В. Баранава, загадчыка Нацыянальнага ваенна-гістарычнага музея Украіны В. Таранца… Кандыдат гістарычных навук, падпалкоўнік у адстаўцы Б. Далгатовіч выступіў з дакладам «Пачатак вызвалення Беларусі (восень 1943 — вясна 1944 гг.)». Выступленне беларускага гісторыка выклікала шырокую ўвагу. Маскоўскія даследчыкі Вялікай Айчыннай вайны сталі ініцыятарамі правядзення навуковай канферэнцыі, прысвечанай 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Барыс Далгатовіч звярнуў увагу на многія «белыя плямы» ў гісторыі вайны, на тое, што грамадскасць забылася на шэраг яскравых фактаў, падзей, якія вялі да Вялікай Перамогі. У прыватнасці, амаль нідзе не згадваецца ўдзел у вызваленні Беларусі, Віцебшчыны, у прыватнасці, 2-га Прыбалтыйскага фронту. Наш зямляк расказаў на канферэнцыі, імёнам якіх ураджэнцаў Беларусі — вайскоўцаў — прысвечаны назвы маскоўскіх вуліц.

Дарэчы, разам з палкоўнікам у адстаўцы, намеснікам старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ А. Смалянкам Барыс Далгатовіч працуе над укладаннем зборніка мастацкіх і дакументальных твораў да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Сярод членаў СПБ ёсць удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны. І каму, як не ім, сёння прадаставіць трыбуну нашай перыёдыкі з расповедамі і праўдзівымі сведчаннямі.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

*З нагоды*

# Абмяняліся творчым досведам

Беларуска-расійскі форум маладых журналістаў «Агульны погляд у будучыню» адбыўся 26 — 28 лістапада ў Магілёве, сабраўшы больш як 80 прадстаўнікоў нашай краіны і каля 50 замежных гасцей.

Мерапрыемства ладзілася ўжо ў другі раз. Сёлета яго галоўнай адметнасцю стала істотна пашыраная «геаграфія» ўдзельнікаў. Ухіл быў зроблены, як і летась, на рэгіянальныя СМІ з усёй Беларусі, а таксама з Ніжагародскай, Смаленскай, Бранскай абласцей Расіі. Сваіх прадстаўнікоў дэлегавалі Масква, Ліпецк, Разань, Архангельск, іншыя гарады ўсходняй суседкі.

На форум таксама былі запрошаны прадстаўнікі вядучых масмедыя з Казахстана, эксперты з Арменіі — краін, якія актыўна ўдзельнічаюць у міждзяржаўных інтэграцыйных працэсах.

Абмяняцца досведам, набрацца ведаў… Магчымасцей для гэтага было багата. У межах мерапрыемства з моладдзю працавалі вядомыя журналісты, медыяэксперты, палітолагі. Праходзілі майстар-класы, тэматычныя дыскусіі, абмяркоўваліся сучасныя тэндэнцыі ў медыясферы, уручаліся прэміі і прызы.

Удзельнікі і госці наведалі славутае Буйніцкае поле ды іншыя адметныя мясціны Магілёўшчыны.

У якасці арганізатараў форуму выступілі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Пастаянны Камітэт Саюзнай дзяржавы, Беларускі саюз журналістаў, БРСМ, Магілёўскі аблвыканкам.

**Іна ЛАЗАРАВА**

*Прэзентацыя*

# Брава!




Творчасць Алены Брава вядомая далёка за межамі нашай краіны. Яе аповесці «Каменданцкі час для ластавак» і «Дараванне» былі надрукаваны ў расійскім літаратурным часопісе «Сибирские огни». За апошні твор аўтар узнагароджана расійскай літаратурнай прэміяй імя Канстанціна Сіманава і залатым медалём.

Днямі горад Барысаў — радзіма Алены Брава — прымаў гасцей з Мінска. У краме ААТ «Белкніга» «Источник знаний» і Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя І. Х. Каладзеева сумесна з РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» адбылася прэзентацыі кнігі «Дараванне». Павіншаваць пісьменніцу прыйшлі калегі: Людміла Маўчанская, Валянціна Леві, Ала Лапошыч, Анатоль Мазгоў, аўтар кніг пра Барысаў Жанна Гілевіч і інш.

У сваю чаргу, Алена Брава падзякавала за цікавасць да сваёй творчасці, распавяла пра новую кнігу і людзей, якія мелі да яе дачыненне. Гэта перакладчык кнігі на нямецкую мову Андрэ Бём, таленавіты мастак Руслан Найдзен і рэдактар нямецкага тэксту Галіна Скакун. Але ўсё ж галоўную інтрыгу твора аўтар захавала, параіўшы ўсім яго прачытаць.

**Анастасія ЦІХАНЧУК**

# Дыплом беларускай паэтэсе

З 1 па 4 лістапада ў падмаскоўным Перадзелкіне прайшоў X Міжнародны літаратурны форум імя М. Гумілёва «Азоранае слова». У ім узялі ўдзел многія паэты з Расіі, Украіны, Казахстана, Беларусі. Кіраўнікамі творчых семінараў былі вядомыя расійскія паэты Уладзімір Макаранкаў (Смаленск), Таццяна Кандратава, Алена Ісаева і Барыс Лукін (усе з Масквы).

Па выніках работы форуму дыпломам II ступені ўзнагароджана беларуская паэтэса Людміла Клачко — член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Людміла жыве ў Мінску, ёй 23 гады. Піша на рускай мове. Яна актыўная ўдзельніца шматлікіх літаратурных мерапрыемстваў Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, пераможца Агульнагарадскога паэтычнага конкурсу сярод юных аўтараў (2011), стыпендыят Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Павел КУЗЬМІЧ**

*Тэле-Лім*

# Літаратура з экрана

Гледачы тэлеканала «Беларусь 3» у снежні атрымаюць магчымасць сустрэцца з героямі Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Міхаіла Булгакава, Мікалая Гогаля, Жуля Верна і многіх іншых вядомых творцаў.

Пачатак месяца адкрыецца тыднем фільмаў Вячаслава Нікіфарава, кульмінацыяй якога стане меладрама «Высакародны разбойнік Уладзімір Дуброўскі» паводле аповесці А. Пушкіна. У галоўных ролях — Міхаіл Яфрэмаў і Марына Зудзіна. 7 снежня тэлегледачы змогуць ацаніць экранізацыю п'есы «Без віны вінаватыя» А. Астроўскага. У гэты ж дзень, у 20.50, на тэлеканале адбудзецца паказ знакамітага мастацкага фільма рэжысёра Ежы Гофмана «Пракажоная», знятага па матывах рамана Хелены Мнішак. Дзеянне фільма разгортваецца на пачатку XX стагоддзя на тэрыторыі Польшчы. Каханне маладых людзей рознага сацыяльнага стану прыводзіць да трагедыі…

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

# На сустрэчу з героямі

На зыходзе восені ў сярэдняй школе № 2 г. Драгічына пад эгідай рэдакцыйна-выдавецкай установы «Выдавецкі дом «Звязда», Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і пры падтрымцы Драгічынскага райвыканкама адбылася сустрэча педагогаў і старшакласнікаў з героямі кніг «Землякі» і «Стваральнікі». Іх аўтар — Уладзімір Сітуха, ураджэнец вёскі Гутава.

Зрэшты, з Гутава ўсё і пачалося. Менавіта тут, на Драгічыншчыне, нарадзіўся вядомы беларускі паэт Мікола Федзюковіч. Пад яго апякунствам выпрасталі крылы для творчага палёту многія аматары мастацкага слова, у тым ліку і аўтар згаданых выданняў.

На прыстанку, які завецца роднаю старонкаю і да якога заўжды хочацца вяртацца, сабраліся літаратары, дзеячы культуры, прадстаўнікі мясцовай улады, гаспадарнікі і вытворцы. Для кожнага з іх у кнізе Уладзіміра Сітухі, які ўзначаліў рэгіянальнае прадстаўніцтва Выдавецкага дома «Звязда», знайшлося добрае слова. Найстарэйшы ўдзельнік сустрэчы — ветэран Вялікай Айчыннай вайны Васіль Андрыянавіч Літвінчук расказаў прысутным, як ствараў дакументальную кнігу «Там, за Днепрабугам».

Пра імкненне да творчасці распавялі слухачам былы пракурор раёна, аўтар некалькіх самабытных кніг Анатоль Дзенісейка, мастак Пётр Мыслівец, выстаўка новых работ якога адкрылася ў гарадскім Доме культуры.

Удзел у сустрэчы бралі землякі-літаратары: старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, рэдактар іванаўскай райгазеты «Чырвоная звязда» Анатоль Крэйдзіч, паэт, стваральнік літаратурнага альманаха «Гоман» Мікалай Трафімчук, аўтар некалькіх твораў, прысвечаных беларускім касманаўтам, журналіст, пісьменнік Мікалай Панасюк. Завітаў і мастак-эмальер, лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне», ураджэнец вёскі Вулька Антопальская (Драгічынскі раён) Мікалай Кузьміч, якому наканавана было аднавіць страчаную святыню беларусаў — крыж Еўфрасінні Полацкай.

Ёсць надзея, што падобныя сустрэчы стануць традыцыйнымі.

**Галіна ШАФРАН**

# Розныя, але родныя

У літаратурным музеі Максіма Багдановіча адбылася вечарына «Леў Багдановіч — малодшы брат Максіма Багдановіча», прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння брата вялікага паэта.

Леў Адамавіч Багдановіч нарадзіўся 14 лістапада 1894 года. Малодшы сын, заўзяты вясялун, быў зусім не падобны па характары да сур'езнага, разважлівага Максіма. Рознымі былі і інтарэсы братоў. Максіма заўсёды вабіла літаратура, да якой Леў быў практычна абыякавы. Ен цікавіўся дакладнымі навукамі і марыў стаць матэматыкам.

Архіўныя дакументы і фотаздымкі распавядаюць пра Льва Багдановіча як пра выдатнага вучонага, таленавітага матэматыка, а таксама шчырага і добрага чалавека. Калі пачалася вайна, Леў Адамавіч, нягледзячы на хваробу, добраахвотна пайшоў на фронт.

Сустрэча была прысвечана сям'і — галоўнай каштоўнасці ў жыцці кожнага чалавека. На імпрэзе прысутнічалі беларускія пісьменнікі і паэты: Адам Глобус, Віталь Рыжкоў, Уладзь Лянкевіч. Госці вечарыны атрымалі ўнікальную магчымасць апынуцца ў атмасферы сям'і Багдановічаў, а таксама паразважаць пра ўзаемаразуменне з родзічамі і сёстрамі, сямейнае выхаванне. Кожны з творцаў распавёў пра свае стасункі з братамі і сёстрамі.

Браты Максім і Леў Багдановічы захавалі цёплыя братэрскія адносіны, нягледзячы на рознасць жыццёвых поглядаў і інтарэсаў, на тое, што знаходзіліся далёка адзін ад аднаго.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Тут часу не марнуюць

Слоган Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу студэнтаў гучыць так: «БрамаМар — першы крок да мары». Мару можна спраўдзіць розным чынам, таму «БрамаМар» не толькі збірае творчыя працы школьнікаў і студэнтаў, але...

Увечары 22 лістапада на «БрамаМары» не чыталі вершаў і не ладзілі літаратурных майстар-класаў. Тыя, хто завітаў на імпрэзу ў Інстытут журналістыкі, са здзіўленнем адзначылі, што тут яшчэ і танчаць.

Імпрэза распачалася прэзентацыяй студэнцкага этнаграфічнага таварыства. Яго старшыня Аляксей Глушко распавёў пра дзейнасць арганізацыі.

Госці з задавальненнем узялі ўдзел у майстар-класе па беларускіх народных танцах для пачаткоўцаў, які праводзіла Анастасія Кухарэнка, сябра таварыства. Трэба было бачыць, з якім задавальненнем студэнты вывучалі танцавальныя «па» пад жывую музыку капэлы «Дзвіна»!

Наперадзе — лірычна-музычная вечарына ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (6 снежня) і літаратурныя Каляды на журфаку.

**Анастасія КАПЦАВА**



Святлана Дзянісава і Віктар Лупасін.

# Скрозь «Маладосць»? Сапраўды скрозь!

**Інстытут журналістыкі і філалагічны факультэт БДУ, педагагічны, лінгвістычны, медыцынскі. Сярэдняя школа, бібліятэка, музей… У сталічных установах ладзяцца не зусім звычайныя прэзентацыі адной кнігі.**

Той, хто прачытаў кнігу «Скрозь “Маладосць”», добра памятае месца, у якім Ягор Конеў распавядае пра сваю першую «маладосцеўскую» фотасесію. Як славуты майстар Валянцін Ждановіч сфатаграфаваў маладзенькага, няўпэўненага ў сабе аўтара — і такое добрае атрымалася фота, што аўтар гэты здолеў набыць унутраную сілу. «Такім, якім мяне сфатаграфаваў Ждановіч, я і ўяўляў сябе наступныя дваццаць гадоў — пакуль аднойчы ў люстэрку не заўважыў, што зрабіўся тоўстым і пляшывым», — піша Ягор Конеў. На прэзентацыях кнігі, якія ладзяцца на працягу месяца ў самых розных студэнцкіх аўдыторыях сталіцы, гэты ды іншыя эпізоды гучаць у выкананні паэта Віктара Лупасіна ў вершаванай форме.

Распавядаць пра кнігу, напісаную пра часопіс, вершамі пра яе аўтараў — ідэя, якая працуе на поспех — і кнігі, і яе прэзентацыі. Успрымаць гісторыю выдання праз вершы, прачытаныя ў манеры Маякоўскага, — гэта, напэўна, не авангард, але гучыць па-сапраўднаму «крута» і ўвагу прыцягвае. Каштоўнасць у тым, што «Маладосць», створаная некалі для моладзі з яе няўрымслівасцю, нават эпатажам, сёння не толькі працуе над адраджэннем лепшых сваіх традыцый, але і выкарыстоўвае «флэш»-ідэі, што само па сабе перспектыўна і дальнабачна.

Што чакае далей часопіс «Маладосць»? У сувязі з падпісной кампаніяй гэта каманда збіраецца «запускаць» «віруснае відэа». Ці атрымаецца зараздзіць сваім аптымізмам і любоўю да літаратуры ўсіх? Час пакажа.

**Святлана ВОЦІНАВА**

# Дачка сонца

Ці можа быць так, што кожны верш — нібы маленькае жыццё, якое трэба прайсці і адчуць? «Сувязь жыццяў» — такую назву атрымаў першы лірычны зборнік маладой паэтэсы і празаіка Яны Явіч. Яна і стала галоўнай гераіняй чарговага пасяджэння літаратурна-паэтычнага клуба «Парнас» Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, якое адбылося ў бібліятэцы № 5.

Дэбютны зборнік вершаў Яны Явіч некалі даў пачатак кніжнай серыі «Мінскія маладыя галасы». «Паэзію любяць і чытаюць людзі незвычайныя, адораныя. У час, трошкі неспрыяльны для літаратуры, важна, каб кнігі траплялі да чытачоў», — лічыць паэт, празаік Міхась Пазнякоў, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ. Выдавецкі праект стаў добрай падтрымкай юным літаратурным талентам. Не дзіўна, што сярод іх апынулася Яна Явіч. Яе вершы з поспехам друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Літаратура і мастацтва», часопісах «Маладосць», «Полымя», «Бярозка». Яна Явіч уваходзіць у склад Саюза пісьменнікаў Беларусі і з'яўляецца яго стыпендыятам, актыўна піша, удзельнічае ў літаратурна-музычных імпрэзах, чытаннях, святах, вечарынах.

Па словах Міхася Пазнякова, добрая энергетыка вылучае яе вершы. І сапраўды, радкі напоўнены сонечнай цеплынёй, водарам дажджу, ціхай веліччу прыроды, ліхтарамі зорак. Але трапяткое сэрца сутыкаецца і з іншым — слязамі пакут, сумам успамінаў, расчараваннем, адзінотай.

Аднойчы, чароўнай навагодняй ноччу, калі гадзіннік прабіў дванаццаць разоў, 15-гадовая дзяўчынка ўзяла ў рукі аловак і пачала маляваць... вершы! Крыху наіўныя, юнацкія, з цягам часу яныператварыліся ў сур'ёзную лірыку, вартую захаплення. Яна Явіч аддае перавагу гарадскім матывам, бо, як кажа сама, менавіта гэтая тэма закранае яе сэрца больш, чым іншыя, паколькі паэтэса нарадзілася і вырасла ў Мінску.

Лепшая вучоба для яе — гэта пераймание досведу старэйшых пісьменнікаў. Але бачанне свету ў яе адметнае, непаўторнае.

Падчас імпрэзы склалася ўражанне, што Яна Явіч — чалавек з моцнай творчай энергіяй. На наступны год запланавана да выхаду яшчэ адна яе кніга. Гэтым разам — дзіцячая і на рускай мове.

Творца лічыць, што натхненне — рэч вельмі ўмоўная, бо галоўнае — гэта жаданне, моцная патрэба пісаць. Усё проста, як і формула шчасця для пісьменніцы — падтрымка сяброў і калег, якія заўсёды побач.

«Нават калі чалавек лічыць сябе звычайным, гэта не значыць, што ён ніколі не здолее пісаць. Галоўнае — захацець, знайсці ў сабе ці навакольным асяроддзі той стымул, які цябе абудзіць», — упэўнена Яна.

За плённую літаратурную працу, актыўны ўдзел у грамадскім жыцці ад Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі творца атрымала ганаровую грамату і пажаданне далейшых творчых знаходак.

**Марыя ВОЙЦІК**

*Спаконвечнае*

## Памятаюць, ганарацца

Да 70-годдзя вызвалення Гомеля ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у дзяржаўнай гісторыка-культурнай установе «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль» ладзяцца адразу дзве выстаўкі: «Вызвалены Гомель і гамяльчане» і «Я памятаю. Я ганаруся!»

26 лістапада 1943 года — незабыўны дзень для кожнага гамяльчаніна, які перажыў нямецкую акупацыю. Прадстаўленыя ў першай экспазіцыі ўнікальныя дакументы і фотаздымкі распавядаюць пра людзей, якія далі гораду новае жыццё, і дазваляюць паглядзець на яго вачамі відавочцаў, адчуць атмасферу пасляваеннага побыту.

Мужнасць савецкіх людзей, воля да Перамогі знайшлі адлюстраванне і ў выяўленчым мастацтве. На выстаўцы «Я памятаю. Я ганаруся!» можна ўбачыць карціны мастакоў на ваенную тэматыку са збораў музея Гомельскага палацава-паркавага ансамбля, Гомельскага абласнога музея ваеннай славы, Светлагорскай галерэі «Традыцыі», Добрушскага раённага краязнаўчага музея і прыватных калекцый.

**Раіса МАРЧУК**

# Паглядзі на Індыю



Фота з сайта modernartmuseum.by

**У галерэі сучаснага мастацтва распачалася выстаўка «Масала», якая прэзентуе фотаработы Алены Філіпавай на індыйскія сюжэты. Масала, традыцыйная індыйская гарбата з малаком і спецыямі, — тое, што трэба напярэдадні зімы. Фотаздымкі ў цёплых тонах — выдатная процівага шэрасці і шэрані наваколля, дзейсныя «лекі» ад суму і дэпрэсій гэтай пары.**

Першае, на што звяртаеш увагу, зірнуўшы на фотаздымкі, — аддаленасць ад цывілізавана-ўрбаністычнай прасторы і турыстычных шляхоў. Для Алены Філіпавай, якая вандруе менавіта па такой Індыі, гэта прынцыпова. «У эпоху глабалізацыі хочацца знаходзіць месцы, дзе захаваныя традыцыі тысячагоддзяў, дзе пануюць натуральнасць, жывасць і прастата».

Здавалася б, аднак, як можа маладая дзяўчына смела вандраваць па выключна «тубільных» мясцінах, і вандраваць досыць працяглы час — два разы па паўгода? Як пачувае сябе ў такім адмысловым асяроддзі? Як увогуле магчымы падобны «адрыў ад цывілізацыі», калі большасць занятыя працай або вучобай, заклапочаныя кар'ерай, прыбыткам, набыткам і г. д.? «Калі вельмі хочацца, то магчыма ўсё, — з усмешкай заўважае Алена. — Да таго ж, Індыя, нават у месцах, найбольш аддаленых ад «цывілізацыі» — надзвычай прыхільная для іншаземцаў. Ты не ведаеш мовы — у Індыі процьма дыялектаў, — але ўсмешкі людзей, іх раўнавага кранаюць да глыбіні душы. Прыкладам, у цягніку, дзе ты — адзіны «белы», будуць проста глядзець на цябе, вывучаючы на нейкім глыбінным узроўні: па тваіх рухах, позірку дазнаюцца, чаго ты варты».

Мясціны, зафіксаваныя фотамастачкай, — Гаа, паўночна-ўсходнія штаты Індыі і, адпаведна, паўднёвы захад Непала. Адсюль разнастайнасць краявідаў: ад спакотнага акіянскага ўзбярэжжа да аксамітных, блакітных, рудых і, урэшце, заснежаных гор. Значная колькасць з 66 фотаздымкаў прысвечаная людзям. Часам яны занятыя сваімі справамі, часам глядзяць у аб'ектыў — сур'ёзнымі і адкрытымі поглядамі. Можна ўбачыць і «эксклюзіў»: мужчыны і жанчыны з аддаленага горнага сяла прыехалі на бераг, каб выкупацца і паглядзець на акіян. Купаюцца, зразумела, у поўным адзенні і выключна стоячы: для індыйцаў немагчымая страта зямлі пад нагамі нават на імгненне.

Парчас працы выстаўкі (да сярэдзіны снежня) у ёй будуць браць удзел музычныя гурты рознага кірунку.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніку Яўгену Іванавічу Каршукову ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю ЖОНКІ.

*Абрысы*

Урок мужнасці «И память сердца говорит...» прайшоў у Беларускім дзяржаўным музеі Вялікай Айчыннай вайны. Ён быў арганізаваны ў межах рэспубліканскай грамадска-культурнай акцыі «Дарогамі вызваліцеляў» і прысвячаўся 70-годдзю вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў першага абласнога цэнтра Беларусі горада Гомеля. У імпрэзе ўзялі ўдзел ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, Узброеных Сіл, курсанты ваенных факультэтаў БДУ, БНТУ, супрацоўнікі музея. Гледачам прадэманстравалі хранікальна-дакументальны фільм «На Гомельскім напрамку», у актавай зале музея разгарнулася выстаўка дывізійных лістовак і партызанскіх газет восені 1943 года, архіўных фотаздымкаў.

Лірычны канцэрт памяці Я. Янішчыц і А. Пяхота адбыўся ў сталічным Доме літаратара. «Восеньскія карункі» — такую назву мела імпрэза, арганізаваная пры падтрымцы Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, Беларускага саюза музычных дзеячаў, Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Узгадвала біяграфіі паэтэс і дэкламавала іх пранізлівыя радкі вядучая — артыстка эстрады Вольга Багушынская. Паэтычныя словы гучалі пад акампанемент раяля і гітары. Лаўрэат міжнароднага конкурсу імя Ганны Герман (Польшча) Надзея Бронская ажывіла словы Яўгеніі Янішчыц. Алена Грыцкевіч выканала песні на вершы Алены Пяхота. Аляксандр Ільевіч узнёсла прачытаў лірычны твор «Помніш» (музыка Валерыя Фяцісава, словы Міхася Пазнякова).

Сіманаўскія чытанні гэтага года праходзілі пад знакам падрыхтоўкі да святкавання 70-годдзя вызвалення Магілёва і Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Грамадскае аб'яднанне «Рускае культурна-асветніцкае таварыства» ў якасці асновы літаратурных сустрэч 2013 года прапанавала творчасць К. Сіманава, М. Ісакоўскага, А. Твардоўскага, А. Куляшова, М. Блантэра, М. Шумава. Чытанні адбыліся ў Магілёўскім бібліятэчным каледжы, гарадской бібліятэцы імя К. Маркса, у гарадскім цэнтры культуры і адпачынку, бібліятэцы № 5 імя Янкі Купалы, Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна і інш.

Творчы вечар паэта-песенніка Івана Цітаўца «Жыццё маё, песняй спавітае» ў мінскім Доме літаратара распачаўся выступленнем беларускага дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі «Свята». На рахунку аўтара чатырыста песень, восем паэтычных зборнікаў. Асабліва ганарыцца паэт творамі ў выкананні Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Цітовіча. Кампазітары Ігар Лучанок, Алег Чыркун, іншыя выступоўцы падкрэслілі: вершы Івана Цітаўца прываблівають дабрынёй. Нездарма іх з задавальненнем выконваюць дзеці.

## Ніна МАЕЎСКАЯ



Ніна Маеўская нарадзілася 4 снежня 1938 года ў г. Любань. Скончыла БДУ (аддзяленне журналістыкі). Працавала ў перыядычных выданнях, штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», была загадчыцай рэдакцыі выдавецтва «Юнацтва», рэдактарам аддзела публіцыстыкі часопіса «Беларусь».

У 1969 годзе выйшла яе першая кніга апавяданняў для дзяцей «Ляці, верабейка». Потым з'явіліся зборнікі прозы «Агата», «Такая позняя вясна», «Холад доннай вады», «Шчасце», «Трывожна шумяць ясакары» ды інш., кнігі паэзіі: «Падаюць даспелыя ранеты» і «Мая ўлюбёная краіна».

Яе творы светлыя, простыя для ўспрымання і разам з тым — узнёслыя, праўдзівыя. Пісьменніца пакінула пасля сябе багатую літаратурную спадчыну. Да апошніх дзён яна не парывала сувязі з Любаншчынай, якую ўслаўляла ў сваіх творах.

Шмат старонак у паэтычных кнігах Ніны Маеўскай прысвечана каханню, паэтэса застаецца вернай адкрытаму і шчыраму стылю пісьма, пранікнёным лірыкам і разам з тым па-філасофску роздумным чалавекам.

**Таццяна АСТРЭЙКА**

***

*Затоенай, ціхай была я дзяўчынай,*
*Ды ключык ад роднага дому згубіла...*
*Бязмоўныя тайны ў душы я насіла.*
*І моўчкі спявала, і моўчкі любіла.*
*І размаўляла найболей вачыма.*

*З тае шматпакутнай*
*і прыкрай прычыны*
*Так многа не сказана, не ўразумета.*
*Мяцеліцай слоў мне не выказаць гэта,*
*Чароўных, нібыта крыштальныя кветкі,*
*Што падарыла мне мова Айчыны.*

***

*Азірніся! Свет прыгожы!*
*Ён такі, што проста дзіва!*
*Усхвалюе, растрывожыць..*
*Трэба ўмець тут быць шчаслівай.*
*У аквапарку жыць даволі*
*Залацістай краснапёркай.*
*Адпусці сябе на волю,*
*Ў свет шырокі, часам жорсткі.*
*Будзеш плаваць сабе ў моры,*
*А ці, можа, ў акіяне,*
*Куды неба сыпле зоры,*
*Сцеле месяцава ззянне.*
*Толькі ведай — там не лёгка:*
*Трэба скрозь асцерагацца.*
*І пры тым — не ныць, не вохкаць,*
*А за шчасце — пазмагацца.*

***

*А сонца... сонца так паліла!*
*Стаяла спёка дзень каторы...*
*Я капялюшык свой забыла,*
*І не было дарогі торнай.*
*Ты гаварыў: бярыся ценем,*
*Бо сквар — то згуба для лілеі.*
*Парады мы тады не цэнім,*
*Як на сябе адна надзея.*
*Але я вытрымаць здалела*
*Слату і спёку, золь і вецер...*
*Як цяжка ўсё ж я разумнела*
*І жыць вучылася на свеце.*
*Паразумнела, пасталела,*
*Ды штосьці важнае забыла.*
*І толькі квет лілеі белай*
*У сэрцы спаленым насіла.*

***

*Да новага*
*звярнуся пакалення...*
*О, Божа мой!*
*Ваш лёт такі высокі!*
*Я ж — на зямлі ўсё,*
*поўнай утрапення.*
*А кожны з вас —*
*як не арол, дык сокал.*
*Ляцець і мне*
*неапазнаным птахам*
*Над вашаю рэальнасцю*
*і сненнем,*
*Над вашым,*
*спадзяюся,*
*мірным дахам,*
*Ляцець не насамрэч,*
*а — лёгкім ценем.*

***

*Ветрана, ветрана...*
*Люты мароз.*
*Як перайсці*
*Скразняковае поле?*
*Там, у лагчынцы,*
*Ля белых бяроз,*
*Мусіць, зацішна, а тут —*
*Ветру воля...*
*Можа, вярнуцца?*
*Ды перачакаць...*
*Следу няма...*
*Хтосьці пройдзе, ён — будзе.*
*...Трэба мець смеласць,*
*Каб след пакідаць.*
*След, якім пойдуць*
*Упэўнена людзі!*

***

*Азірніся, вясна ты мая маладая!*
*Па лясах, пералесках цябе я гукаю,*
*Да празрыста-гаючых крыніц прыпадаю.*
*Па імклівых праспектах і парках чакаю.*
*Азірніся, вясна ты мая маладая!*

*Красавіцкае сонца падсвечвае вечар,*
*У які ты на крылах ляцела сюды.*
*Не палохалі — помню — тут нас халады.*
*Як мне хочацца новай,*
*жаданай сустрэчы!*
*Пачакай, цёплы шалік накіну на плечы...*

## Казімір КАМЕЙША



На свой 70-гадовы юбілей Казімір Камейша ў прамым сэнсе выйшаў з Налібоцкай пушчы, па волі нябёс стаўшы ці не адзіным яе першаадкрывальнікам і песняром. Тут, у лясной вёсцы Малыя Навікі, ён нарадзіўся 4 снежня 1943 года, што і вызначыла далейшы творчы лёс выдатнага паэта. Казімір Вікенцьевіч скончыў філфак БДУ, працаваў у рэдакцыях газет і часопісаў, на Беларускім радыё, і ўвесь гэты час ён не забываў родны прынёманскі край. Вандроўніцкая кайстра сённяшняга юбіляра ўмясціла добрыя тры дзясяткі тамоў лірыкі, прозы, зборнікаў вершаў і паэм для дзяцей. Адна з лепшых яго паэтычных кніг «Пярэймы дня» ўганаравана Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова. Менавіта цудоўная прырода налібоцкага краю надзяліла пісьменніка непаўторнай здольнасцю бачыць наваколны свет у адлюстраванні яркіх, сакавітых метафар і алітэрацый, уменнем асэнсоўваць убачанае вобразна-мастацкімі сродкамі, уласцівымі толькі яму аднаму. У справядлівасці гэтай высновы чытачы пераканаюцца самі, прачытаўшы сённяшнюю паэтычную падборку Казіміра Камейшы «Юбілейнае».

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

## Юбілейнае

*Два акенцы лічбаў*
*Адчыніць я мушу.*
*Паляцяць і знікнуць*
*Сем дзясяткаў птушак.*

*Першая — лябёдкай,*
*Ластаўкай — другая...*
*І шкада апошняй,*
*Што імя не мае.*

*Як яна хацела*
*Цеплыні і ладу!*
*Ды ніякі вырай*
*Сёння ёй не рады.*

*Час імкне за мною*
*Хітрым птушкаловам.*
*У сіле ягоным*
*Знік і дзень мой новы.*

*Зніклі ў ім без следу*
*Сцежка баравая.*
*Як яшчэ ў ім смутак*
*Даўні мой трывае?*

*Як яшчэ ў ім слова*
*Не зайшлося з болю?..*
*Не, не сем дзясяткаў,*
*Пэўна, жыў я болей.*

*Болей зімаў грозных*
*З вёснамі насватаў.*
*Болей перад часам гэтым*
*Вінаваты.*

*Можа, я, і праўда,*
*Столькі меў багацця?*
*А таму і бедны,*
*Што яго растраціў...*

***

*Гэта грэх з маладосці —*
*Што сябе дакараць?! —*
*Птаху я пазайздросціў*
*І надумаў спяваць.*

*Пра вышыні я мроіў,*
*Даставаў іх рукой*
*І згубіўся ў дуброве,*
*Дзе зашмат спевакоў.*
*Дзіўна часам бывае,*
*Калі спыніць няўзнак:*
*— Ты не тое спяваеш!*
*Ты спяваеш не так!..*

*Тут і крыўды ніякай,*
*Бо спяваць мне нясцерп.*
*Так спяваць, каб хтосьці плакаў,*
*Я заўсёды хацеў.*

*Я хацеў надта многа,*
*Сам гарэў і згасаў,*
*А слязы — ані ў кога,*
*Плакаў вечна я сам.*

*Знікла ўсё, і за далечу*
*Дзён былых не відаць.*
*Я не жыў прыпяваючы,*
*Бо не ўмеў падпяваць.*

***

*За сіняй шыбінай ільдзіны —*
*Жыцця прыдоннага намёк.*
*Гуляе там і мой адзіны*
*З вясны далёкай акунёк.*

*Ён лашчыць вус травінкі тонкай*
*І песню даўнюю прадзе,*
*Пакуль дарэмна моліць донку*
*У кажушку сівенькі дзед.*

*Пад пары воблачкам, як глянеш,*
*Ён заінеў, ён ледзь жывы.*
*Мільготкі ўвесь, як марсіянін,*
*Каля кустоў берагавых.*

*Пара дамоў даўно ўжо дзеду.*
*У пінцы дражніцца агонь,*
*І штось сваё згугніць нядзеля*
*У белай барадзе яго.*

*Зноў неба хмурыцца, злуецца,*
*Мукой цярушачы з аблок.*
*І ўсё гуляе, не даецца*
*У рукі даўні акунёк.*

## Стары певень

*Дзень гэты цягнецца ніцую дзівоснай,*
*Пушча дурманіць вясной,*
*Але маўчаць мае дзверы і вокны,*
*Пеўня майго не чутно.*

*Грэбнем яго новы дзень дагарае,*
*Шыбай трымціць у касцёле старым.*
*Дзе ён, з якім свае вёсны звяраў я,*
*Можа, заснуў у двары?*

*Можа, каршун яму выклеваў вочы —*
*Жыў тут разбойнік адзін?*
*Можа, ля той, што ад ранку сакоча,*
*Грэшнік стары, заблудзіў?*

*Думаў, ён выскачыць, стрэне ля ганка*
*І заспявае сваё, пеюнок.*
*Многа праспаў ён сустрэч і світанкаў,*
*Нават — жыццё не адно.*

*Вунь ён ступае між мною і летам,*
*Крылы, як сцяг, на ўвесь двор разгарнуў.*
*Як і мая, яго песня не спета,*
*Як і мая, і яго пра вясну.*

*Песні вясёлай у нас не выходзіць,*
*Хмелю замала для песні, ці што?*
*Ну, а ўсе сумныя сёння не ў модзе,*
*Іх не пачуе ніхто.*

*Сумна згадзіўся з маёй сівізною:*
*— Хай будзе так, як было.*
*Сумна падаўся сцяжынай лясною*
*Пушчы самой пад крыло.*

## Зорка Агнешка

*Я пастушком быў пры бацькавым хлебе*
*І закаханы па вушы ў вясну,*
*Пасвіў адну толькі зорку на небе*
*І на зямлі толькі ведаў адну.*

*Зорку вясна ахрысціла Агнешкай,*
*Зорка гарэла найдзіўным святлом,*
*Зорка здалёку глядзела з усмешкай,*
*Калі мне смуткам ля сэрца пякло.*

*Думаў, у высях ёй холадна недзе*
*І ўсё хвіліны найлепшай чакаў,*
*Калі ўпадзе яна, ясная, з неба*
*І апячэ даланю хлапчука.*

*Потым крычалі застольнае «Горка!»,*
*Іншы шчаслівец яе абдымаў.*
*Ціха згарэла самотная зорка,*
*Пасвіў якую даўно і чакаў.*

*Зорак гарачых нямала я ведаў.*
*Ах, як гарэзна гарэлі яны!..*
*Дзе яны? Нават не бачна і следу,*
*Толькі на сэрцы — апёкі адны.*

*Часам успыхне маланкай, прысніцца,*
*Вочы, і сэрца, і твар апячэ.*
*Гэта Агнешка праз далеч агніцца,*
*Кліча і тут жа знікае з вачэй...*

## Беларускае «І»

*У алфавіце айчынным маім*
*Кропкай агеньчык над свечкай міргае.*
*Свечкай гарыць беларускае «І»*
*І... не згарае.*

***

*Навальніца зблытала ўсе карты,*
*Сцежкі ўсе заблытала наўздзіў,*
*Нібы нейкі чорт вадзіў упарты,*
*Я па крузе па адным хадзіў.*

*Плач, крычы, галёкай, колькі ўлезе,—*
*Не пачуюць. Глуш густая спрэс.*
*Распаліць агонь у мокрым лесе*
*Хто мне дапаможа? Толькі лес.*

*Пры карчы, нібыта пры камінку,*
*Кусцік адхінаючы рукой,*
*Выдзімаў дымок з сырой галінкі,*
*І п'янеў, і плакаўся з дымком.*

*За дымком і полымя нясмела*
*Мільганула, пырхнула ў цямры.*
*Што ж, калі сухое ўсё згарэла,*
*Весела і мокрае гарыць.*

## Двое

*Згадай, было гэта калі,*
*Ужо такое не паўторыш:*
*Мы, як два воблакі, плылі,*
*Не адчуваючы прасторы.*

*Плыла з тваёй мая душа,*
*Так светла не было ніколі.*
*Ужо канчалася імша*
*У Рубяжэвіцкім касцёле.*

*І вострых вежаў два крыжы*
*У дзве рукі наш рай жагналі.*
*На вострым часу рубяжы*
*Дзве весткі нас з табой дагналі.*

*Яны ляцелі напрасткі,*
*Каля Ячонкі і Засулля.*
*Яны ў два розныя бакі*
*За дзве рукі мяне цягнулі.*

*Адна — што грэшны выбар мой,*
*Што трэба зноў назад вярнуцца.*
*Другая — звабаю самой*
*Маліла шчасцю прыўсміхнуцца.*

*Адно я ліха выбраў з двух,*
*Хоць і з другім не размінуўся.*
*За лес садзіўся сонца круг,*
*І болю круг за мной замкнуўся.*

*І колькі раз яшчэ праз сон*
*Мне тая, першая, крычала.*
*Ляцела рэхам наўздагон,*
*Сарвала голас у адчаі.*

*Цыганкі з Дражні колькі ёй*
*Пра лёс мой сумны варажылі.*
*Плылі аблокі ўслед за мной*
*І боль мой новы варушылі.*

*Усё мінулася даўно,*
*Хоць зрэдку ў памяці ўсплывае.*
*І не пачнеш усё наноў.*
*Так не бывае.*



# Сяргей БЕЛАЯР

# Адзін шанс на мільён

## *Навукова-фантастычнае апавяданне*

За пяць дзён да Калядаў надвор'е ў Сіэтле канчаткова сапсавалася. Неба над горадам зацягнула цяжкімі, падобнымі да брудных, злямчаных пасмаў ваты хмарамі. З іх сыпала ледзяная дробка. Злы пранізлівы вецер пастаянна мяняў кірунак. З фіёрдаў патыхала вільгаццю. Слупок тэрмометра не падымаўся вышэй за адзнаку ў дзевятнаццаць градусаў па Фарэнгейту. Да пары брыдкаму надвор'ю быў і настрой мужчыны.

Карл стаяў каля акна і, прыціснуўшыся лбом да шкла, разглядаў свінцовыя воды П'юджэт-Саўнд. Снег біў у шкло злосна, але прабіць не мог і толькі пакідаў на ім вадзяныя разводы. А яшчэ снег дарыў холад, які дапамагаў спраўляцца з пажарам у галаве. Варта было толькі дакрануцца скурай да шкла, як полымя ліхаманкі адразу слабела. На жаль, холад прыносіў толькі часовае палягчэнне. Справіцца з міеладысплазіяй ён не мог. Як і лекары Цэнтра даследаванняў у галіне анкалогіі імя Фрэда Хатчынсана.

Праклятая хвароба, нібы галодны звер, угрызалася ў плоць, рвала жылы і ламала косткі. Боль прымушаў скрыгатаць зубамі. Было вельмі цяжка звыкнуцца з думкай, што нічога нельга зрабіць для таго, каб перамагчы хваробу. Карл імкнуўся не здавацца, з аптымізмам глядзець у будучыню, але імклівая прагрэсуючая хвароба без літасці выдзірала нясмелыя парасткі веры, вымушала ўсё глыбей апускацца ў чорны вір адчаю і безвыходнасці.

Лёгкія гарэлі агнём, у галаве шумела, перад пачырванелымі ад недасыпання вачыма мільгалі рознакаляровыя іскры. Кашаль душыў, прымнажаючы пакуты. Кожны выдых хваравітым рэхам аддаваўся па ўсім целе. Урачы рэкамендавалі пасцельны рэжым, аднак Карл не звяртаў увагі на іх парады. Яго прыгнятала бяздзейнасць, лянота і марнаванне часу.

Увесь жыццёвы шлях Карла ўяўляў сабой барацьбу. З уласнымі страхамі і трывогамі. З шэрасцю натоўпу. З хлуснёй і падманам. Знаходзіцца ў пастаяннай баегатоўнасці было цяжка, часам зусім невыносна, але Карл ніколі не апускаў рук. Сапраўдную асалоду дарыла толькі навука, якая па ступені ўздзеяння на ўяўленне пераўзыходзіла любую фантазію.

Холад рассейваў каламутны туман, што клубіўся ў галаве. Шкада, вярнуць былую яснасць думкі не мог. А Карлу як ніколі патрабавалася светлая галава. Яшчэ так шмат хацелася зрабіць. Адведзенага чалавеку тэрміну мала, каб спазнаць свет і праз яго разуменне рэалізаваць сябе. Прырода не раскрывае свае таямніцы адразу і назаўжды. Разгадку яшчэ трэба заслужыць. А здабыць веды можна толькі з дапамогай пастаяннага самаўдасканалення і няспыннага іх пошуку. Веды — галоўны рэсурс цывілізацыі. Навука ў яе розных гістарычных формах ёсць адзіная гарантыя існавання чалавека.

Шум у галаве перашкаджаў засяродзіцца.

Два гады пакут, бескампраміснай барацьбы з болем. Нязначныя перамогі на фоне агульнага згасання арганізма. А Карлу ўсяго шэсцьдзясят два... Замест таго, каб аддацца навуцы, Карл вымушаны марнаваць час і сілы на супрацьстаянне міеладысплазіі.

Вецер узмацніўся. Трымценне шкла перадавалася Карлу, але ён не адымаў галаву ад шыбы. Варта толькі зрабіць гэта, як гарачка адразу нагадае пра сябе. Думкі пачнуць блытацца, а гэта злуе.

Карл жыў Кантактам. Не мог здрадзіць Джону Картэру. Некалі «барсумская» серыя Эдгара Райса Бероўза пра Марс выклікала ў душы дзевяцігадовага бруклінца веру ў сустрэчу з пазаземным розумам. Асабліва моцна ўразіў Карла выраз «імклівыя месяцы Барсума». Менавіта ён адкрыў магчымасць існавання светаў, казачна непадобных да абрыдлага бескаляровага Брукліна. Дзіцячае захапленне з часам узмацнілася, трансфармавалася ў новы напрамак — экзабіялогію.

Карл балансаваў на мяжы класічных лабараторных метадаў і смелых здагадак навуковай фантастыкі. Як балюча параніла адсутнасць канкрэтных доказаў існавання пазаземнага жыцця. Як моцна непакоіла, што экзабіялогія заставалася на становішчы навуковай тэорыі з магутным прысмакам рамантыкі. Як горка было з-за насмешак калег…

Часам даводзілася адстойваць свой пункт гледжання і адбівацца ад нападкаў. Для прапаганды ўласных поглядаў давялося шмат ездзіць па краіне, яшчэ больш выступаць перад людзьмі. Уменне прышчапіць чароўную прыцягальнасць зорак народным масам раздражняла многіх. Карлу зайздросцілі, яго баяліся, з яго пасмейваліся. Карл знайшоў сілы вытрымаць усе выпрабаванні, даказаць права на валоданне Праўдай.

Карла вяла надзея. Пры ўсякім зручным выпадку ён нагадваў сабе, што адкрыццё жыцця на іншай планеце стане самай узрушальнай падзеяй у навуцы. Пры адной толькі думцы пра тое, што пазаземныя цывілізацыі паставяцца да людзей добразычліва, Карл адчуваў поўны глыбокай пашаны страх.

Захапленне Космасам набыло рысы рэлігіі. З той толькі розніцай, што месца Бога займалі іншапланецяне. Карл быў перакананы, што ў глыбінях Космасу існуюць цывілізацыі з больш доўгай гісторыяй, чым людская, што яны валодаюць настолькі развітай тэхнікай, што зямлянам яна будзе здавацца чараўніцтвам. Нават у само слова «Універсум» Карл укладваў куды больш глыбокі сэнс, чым проста «касмічная прастора». Для Карла Космас быў усеагульным парадкам рэчаў, выведзеным з хаосу першабытных адчуванняў працай дапытлівага інтэлекту і метадамі навукі.

Карл палюбіў Космас у раннім дзяцінстве, калі ўпершыню зірнуў на зорнае неба. Усеяны серабрыстымі іскрынкамі вугальны купал запаліў у сэрцы агонь цікаўнасці, настолькі ўразіў, што хлопчык даў сабе слова даведацца пра Сусвет усё. Усяго спазнаць не атрымалася, але зачэрпнуць жменю ведаў Карл усё ж здолеў. Калі доўга слухаеш зоркі, рана ці позна касмічныя шумы складуцца так, што сэрца мімаволі заб'ецца ва ўнісон са светам. Вакол дастаткова падстаў для здзіўлення. Прырода куды больш вынаходлівая ў дачыненні да цудаў, чым чалавек.

Вера ў наяўнасць пазаземных цывілізацый п'яніла Карла. Ён спаў і бачыў, як іншапланецяне працягваюць зямлянам руку. Мара была падобная да трызнення, аднак Карл не спяшаўся адмаўляцца ад яе. Працаваў з раніцы да вечара. Усё дзеля таго, каб наблізіць мару.

Мара пра Кантакт падарыла Карлу ідэю паслання іншапланетнаму розуму. Дарэчы прыйшлася дапамога Лінды — жонкі, прафесійнай мастачкі. Ад нараджэння ідэі да ўрачыстага прымацавання шыльды з сімвалічным пасланнем у Космас да борта «Піянера» прайшло ўсяго тры тыдні!

Быццё Карла і самага блізкага яму чалавека было напоўнена чаканнем цуду, хоць яго верагоднасць з'яўлялася нікчэмна малой. Адзін шанс на мільён, што «браты па розуме» ўсё ж адгукнуцца.

Па меры таго як Карл адкрываў для сябе Космас, яго вера ў Кантакт толькі мацнела. Вобразы, навеяныя Барсумам, прымушалі зноў і зноў накіроўваць свой погляд у неба. Карла ніколькі не палохала тое, што навукоўцы лічылі магчымым занятак вырашэннем пытання пра наяўнасць пазаземных цывілізацый толькі ў аддаленай будучыні.

Карл не дазваляў сабе сумнявацца. Верыў, што чалавецтва не адзінокае ў Сусвеце, што існуюць іншыя цывілізацыі і магчымасці жыцця. І не проста верыў, а быў перакананы ва ўласнай праваце. Лічыў, што любыя тэхнічныя цывілізацыі могуць знайсці агульную мову. Думка пра Кантакт ператваралася ў дакучлівую ідэю. У ёй было так шмат звышнатуральнага, што Карл нават спалохаўся. Ён паспрабаваў адмовіцца ад мары, але перамагчы не здолеў.

Пачатак касмічнай эры і стварэнне магутных радыётэлескопаў дазволілі звузіць міжзоркавую прорву. Але дадзеныя даследаванняў выключалі магчымасць выявіць іншапланетны розум у Сонечнай сістэме. Таму ў пошуках неабходна было арыентавацца на іншыя зоркі. Чалавецтва пакуль яшчэ не магло дабрацца да аддаленых светаў. Адзінай рэальнай магчымасцю Кантакту быў абмен электрамагнітнымі сігналамі.

SETI і METI…

Два праекты, на якія Карл ускладаў вялікія надзеі. І абодва яны не прынеслі нічога... Цішыня палохала. Людзі забіраліся ўсё далей і далей у Космас, аднак нідзе так і не знайшлі слядоў прысутнасці чужога розуму. І гэта турбавала ўсё больш. Усё часцей Карла наведвала думка пра тое, што адзіным пэўным фактам, які паказвае на магчымасць наяўнасці разумнага жыцця ў Галактыцы, ёсць факт быцця чалавецтва.

«Няўжо ў гэтым грандыёзным свеце з яго квінтыльёнамі сонцаў знайшлося месца толькі зямлянам?..»

Было ў думцы пра людскую адзіноту ў Сусвеце такое, што халадзіла душу.

Як ні спрабаваў Карл даць рады сумневам, аднак брыдкі чарвячок упарта грыз душу. Прымушаў перабіраць варыянты маўчання зорак. На жаль, самай праўдападобнай была версія пра адсутнасць пазаземных цывілізацый. Істасць Фермі раздражняла.

«Быць можа, Зямля проста яшчэ не гатовая да кантактаў з чужымі цывілізацыямі?..»

Нават сам факт наяўнасці розуму, пераўзыходзячага чалавечы, патрабаваў разумовых намаганняў некалькіх пакаленняў. І гэта нягледзячы на тое, што многія людзі з вялізным натхненнем ставяцца да думкі пра Кантакт, ускладаючы на іншапланетны розум надзеі на вырашэнне адвечных праблем.

Не варта хвалявацца, бо аб'ём пошукаў пакуль быў зусім мізэрны. Да таго ж для патрэб праграмы пошуку «братоў па розуме» так і не створана спецыялізаванай прылады. Усе даследаванні праводзіліся на звычайных радыё- і аптычных тэлескопах. Тым не менш нават яны маглі выявіць хоць якія-небудзь сляды. А тыя адсутнічалі.

Ад адчаю Карл быў гатовы расплакацца.

«Дзе ўзяць доказы існавання іншапланетнага розуму? Чаму не чуваць сігналаў пазаземных цывілізацый, не відаць праявы іх астраінжынернай дзейнасці? Чаму ў Космасе не назіраецца ніякіх цудоўных з'яў, якія гавораць на карысць таго, што існуюць іншыя расы?»

Магчыма, больш развітыя цывілізацыі даўно ўжо сталі нямымі для чужых вушэй. Чалавецтва нічога не ведае пра спосабы перадачы сігналаў, якімі могуць карыстацца іншапланецяне. Можа стацца, што Космас працяты мноствам пасланняў, але людзі з-за недасканаласці зямной тэхнікі не могуць прыняць і зразумець іх. Верагодна, пасланні ўжо прысутнічаюць у нашым штодзённым жыцці, а людзі не прыклалі дастаткова намаганняў ці зрабілі нешта не так для таго, каб спасцігнуць іх. Што, калі пасланне будзе складзена зусім не на ўніверсальнай мове матэматыкі і адпраўлена не ў выглядзе радыёсігналу? Мы нічога не ведаем ні пра прыроду чужога розуму, ні пра матывы яго носьбітаў.

«А ці не залішне антрапацэнтрычныя нашы пасланні? Ці не неймаверна цяжкія для расшыфроўкі? Ды й незразумела, каго мы збіраемся шукаць, сваіх двайнікоў ці ж высокія культуры?»

Не варта забываць, што цывілізацыя, якая займаецца выключна пошукам, знаходзіцца ў менш выйгрышным становішчы, чым тая, што сама паралельна з пошукам дасылае пасланні. Каб зразумець, што Кантакт адбыўся, цывілізацыі, якая перадае, досыць атрымаць адказ на адно з іх. А вось прыняўшы адказ, трэба пасылаць зваротны сігнал, дачакацца пацвярджэння яго прыёму, і толькі пасля можна будзе казаць пра Кантакт.

Калі хуткасць развіцця людской тэхналагічнай цывілізацыі з'яўляецца агульным правілам, перыяд часу, на працягу якога розныя цывілізацыі знаходзяцца на блізкай стадыі развіцця і здольны тэхнічна і зразумела ўвайсці ў кантакт адна з другой, вельмі кароткае. Перыяды з блізкай тэхналогіяй, што доўжацца не больш як стагоддзе, павінны супасці ў часе, нягледзячы на магчымасць адрознення ўзростаў цывілізацый у мільярды гадоў! Верагоднасць гэтага вельмі малая. Пошукі сігналаў нават ад тых, хто блізкі да людзей і ў прасторы, і па ўзроўні развіцця, могуць быць паспяховымі, толькі калі іншапланецяне самі займаюцца актыўным распаўсюджваннем ведаў. Пазаземныя цывілізацыі могуць быць недаўгавечнымі — не дасягнуць такога развіцця, пры якім іх праявы назіраліся б з Зямлі.

Нават Шклоўскі, першапачаткова вялікі энтузіяст пошуку «братоў па розуме», у канцы жыцця не выключаў, што чалавецтва можа аказацца адзінай цывілізацыяй у Млечным Шляху, калі не ва ўсім Сусвеце. Выходзіць, мае рацыю мэтр, і людская раса не знаходзіць слядоў пазаземнага розуму менавіта таму, што іх папросту няма каму пакінуць? Хоць ува Універсуме — каласальнае мноства тэрападобных планет.

Карл памасіраваў пальцамі скроні. Стала крыху лягчэй. Дапушчальна, што зямная цывілізацыя не адзіная, аднак яна самая перадавая, самая развітая ў Сусвеце. Версія папахвае крайнім антрапацэнтрызмам, так што прыняць яе Карл не мог, бо памятаў словы вальтэраўскага Мікрамегаса: «Бясконца малыя істоты валодаюць бясконца вялікай гардыняй».

Карл нагадаў сабе пра тое, што свяціла Сонечнай сістэмы не з'яўляецца самай старой зоркай. Мноства іншых утварылася значна раней. Недарэчна думаць, што разумнае жыццё на Зямлі магло з'явіцца раней, чым у іншых абласцях Універсума.

Расчараванне пагражала зацягнуць у бяздонны чорны вір. І з кожнай хвілінай супраціўляцца ціску станавілася ўсё цяжэй. Але сэрца не хацела здавацца. «Чалавек разумны» толькі ў самым пачатку шляху. З адсутнасці сігналаў ад пазаземных цывілізацый зусім не варта рабіць выснову пра адсутнасць іх саміх. Людзі павінны чакаць і верыць!

Маўчанне не азначае крах усіх надзей. Ні ў якім разе нельга спяшацца з высновамі. Кантакт — гэта толькі пытанне часу!

«Шкада, што да гэтага моманту мне не дажыць!..»

Карл глядзеў на П'юджэт-Саўнд, але бачыў зоркі і шаравыя навалы ды думаў пра Кантакт.

З прастораў Карла вывеў званок тэлефона — рэзкі, патрабавальны.

Карл з неахвотай адарваўся ад шкла. Зірнуў на апарат у надзеі, што той замоўкне. Але тэлефон працягваў надрывацца.

Карл вылаяўся і падышоў да тэлефона:

— Спадар Саган? Вас турбуюць з НАСА... ЯНЫ адказалі!..

# Solus Cum Sola



Наста Кудасава — выбітная маладая паэтэса, што адчуваеш па першых радках наступнага верша: *Вышывала аркушы вершамі, // Пакалола словамі пальцы.*

Далікатнасць, жаноцкасць гучання выразна, хоць і падсвядома, кантрастуе з сысоўскім «Мне на сэрцы золатам вышывалі краты» (у Насты — *вычытай, што на сэрцы вышыта*), і гэтае супрацьпастаўленне як мага выразней падкрэслівае адметнасць творчай манеры, светаадчування і светаўспрымання маладой паэтэсы. Паэзія Н. Кудасавай — гэта вышыўка на белым полі сэнсу жыцця, а вышыўка — гэта спрадвечна жаночы занятак. І ў гэтай велічнай справе яна зусім не адзінокая ў сусвеце. Згадаем, што ва ўсе вякі менавіта жанчыны нараджалі дзяцей і песні (Настасся мае два зборнікі паэзіі і дваіх дзетак).

Узорам у справе служэння Слову для нашай землячкі становіцца Марына Цвятаева. Сведчаннем таму не толькі радкі з твораў вялікай рускай паэтэсы, узятыя ў якасці эпіграфаў да ўласных вершаў, прысвячэнні ёй, але і цвяцізмы — выразы ў духу паэтэсы і нават арыгінальна-адкрытае прызнанне:

*заМАРЫНАваная Вашымі вершамі,*
*мая першая.*

Часам спрадвечная Марына набывае ці незямныя рысы (уважаю за настаўнікаў і абсалютных Паэтаў),ператвараючыся ў нейкае ўзнёслае ўвасабленне гуру (каб не сказаць болей), бо бачыцца мажлівасць самастойнага ўваскрашэння болем у тыя хвіліны, калі плён становіцца попелам, а сумесны выхад на мяжу пытанняў дазволіць застацца заўсёды жывымі. І калі *птици, летающие по воздъуху*, са славутага выказвання Ф. Скарыны, *ведають гнезда своя*, то веданне Н. Кудасавай ці не блюзнерскае:

*Ведаю крокі твае,*
*Ведаю рукі твае,*
*Ведаю гукі твае —*
*Вечныя рухі волі.*

Няўжо жанчына настолькі дасканала-самадастатковая ў гэтым сусвеце — зямным, узвышаным, паэтычным? Наста Кудасава завочна палемізуе з М. Багдановічам, які ўвесь свой кароткі век шукаў адказ на пытанне: ці дае насалоду жанчына? Вось чаму ў свядомасці паэтэсы ўзнікае вобраз Саламеі, як тое не здасца дзіўным, з галубіным сэрцам, у выглядзе лілеі, белакрылай кветкі. Выразы *самлею ад чырвонага хмелю, пераспелыя вусны, ап'янелая поўня на нямым небасхіле* сведчаць пра выключнае паяднанне ў целе і душы жанчыны *жыццядайнай годнасці і смертаноснай сілы*, якія жывуць у адзінстве і вечнай барацьбе, і невядома, у якое імгненне перамога канкрэтны пачатак. Бойся (і чакай!) яе грэшнай увагі, салодкай жарсці пацалунка, застылай навечна пячаткі адчаю з ракавым «кахаю, кахаю, кахаю». Яна сама да канца не ўсведамляе, што гэта такое: яе ўнутраная прырода ці проста выбуховая здрада аднастайнаму свету? Біблізмы ў значнай ступені дапамагаюць паэтэсе ўвасобіць вобраз Жанчыны. Творчае перастварэнне паэткі «Песні Песняў» вызначае структуру і тропіку шасцічасткавага верша «Багіня». І не толькі ў рэмінісцэнцыях: *Ханаанам кахання сэрцу сырому. Ты Зямля Абяцаная, добрае дома*, але, галоўнае, у самім гучанні, манеры, настраёвасці. Нібы старазапаветная гераіня, што не знаходзіць месца ў пошуках кахання, беларуска трэцяга тысячагоддзя перадае адвечнае жаночае ўспрыманне непазбежнага: *Сэрца нямее ад страху… і хочацца // Вуснамі вуснаў, далонямі далонямі.* І тут дарэчы не толькі ўрок прабабулі (*увайсці ў беззаганную першаснасць Евы*), але варта і згадаць няўдалы боскі эксперымент, у выніку якога жаноцкасць дамінавала ў першым варыянце створанай сяброўкі першамужчыны (*Мне салодкі палын Тваёй моцы, Ліліт*), што і прывяло да яе знішчэння, бо не адпавядала ўяўленням пра светабудову. Ці не адсюль апісанні, якіх яшчэ не было ў цнатлівай беларускай любоўна-эратычнай традыцыі: *рот — пацалункаў куфар, плечы — хачу-пастка, вусны — спакуса. Выцалавала бы з маскі гэтыя вусны.* У апісанні прыгажосці спалучаецца класічнае антычнае (*мармуровы арамат цела белага*) і рэальна-народнае (*выабдымаць бы рукі — неба галіны*). У гэтым велічным акце быцця не трэба баяцца *шоргату сораму*, спрабаваць закрыцца ад агню шырмай. Позна! Яна, гераіня, па-іншаму глядзіць на свет, бо яе новыя вочы носяць ягонае імя.

Ніхто так смела і прыгожа не згадваў у нацыянальнай традыцыі Сафо, падкрэсліваючы і градуючы тыя асацыяцыі, што ўзнікаюць у многіх, калі акцэнтуецца назва яе роднага вострава:

*а на Лесбасе сёння восень*
*і на росстанях нашых сцёгнаў*
*агаломшана млеюць стогны*
*і хмялее радок рукі*

Асабліва гэта заўважна ў цыкле вершаў «Solus cum sola», для назвы якога Наста Кудасава выкарыстала пачатак лацінскага крылатага выслоўя «Solus cum sola, *in loco remote*, non cognitabuntur orare «Pater noster». Наста свядома апускае выпучанае намі словазлучэнне з кананічнага выразу, што дазволіла ёй крыху змяніць сэнс класічнай фразы. Калі ў арыгінале падкрэсліваецца: пра мужчыну і жанчыну, якія сустрэліся ў патаемным месцы, ніхто не падумае, што яны чытаюць разам «Ойча наш», — то паэтка падкрэслівае не верагодную мажлівасць учынку, а само дзеянне (ён і яна ніколі не будуць маліцца ў падобных абставінах). Хаця рытміка і сутнасць твора нагадваюць калі не малітву, то ў крайнім выпадку заклінанне: *Вачыма прачытай жаданне і будзь са мной да развітання — да скону ночы будзь са мной.* У гэтым сусвеце ёсць толькі ён, ім запоўнена бяссонніца, ім гучыць маўчанне, толькі з ім хочацца застацца назаўсёды — да світання. Раніца прынясе пакаранне за салодкі грэх, але гэта будзе калісьці, а ноч ніколі не скончыцца. Ва ўсялякім разе, у гэта імгненне. І няхай на карту пастаўлена душа — жанчына таксама можа стаць антыподам Клеапатры, таксама здольная аддаць жыццё за радасць кахання. Тым больш калі ён *мой нязведаны дар*, якому можна і трэба аддаць усе свае пакутлівыя вершы і нават на сконе спяваць: *«Люблю»*. Лірычная гераіня паэткі, здольная абагомліць, абанёліць яго, праспяваць яму калыханку, усклікнуўшы: *Беззаконне маё… Беззаганне!..* І за такое велічнае каханне ніхто не толькі не пакарае, але і нават не папракне.

*«Я магістр філалогіі, удзельнік рэспубліканскіх і міжнародных навуковых канферэнцый, аўтар шэрагу навуковых артыкулаў. Падчас навучання паспела палюбіць і разлюбіць розныя з'явы і імёны ў сусветнай культуры. Нязменна дарагімі ў паэзіі застаюцца XVII стагоддзе і пачатак XX. З набытых літаратурных сімпатый — Фрыдрых Гёльдэрлін, Поль Верлен, Пауль Цэлан, Веніямін Блажэнны, Уладзімір Маякоўскі, Роберт Фрост. Кніга, якая са мной заўсёды, — Біблія, асабліва люблю Эклезіяста, Кнігу Іова, Псалмы, Эвангеліі».*

Наста Кудасава — асоба, што засвоіла этычна-эстэтычны ўрок развіцця чалавечай эвалюцыі, яна адчувае сябе звяном у гэтым спрадвечным крузе нараджэнняў, у якім усемагутныя не толькі насалода, але і боль:

*Нізкімі нотамі, нізкамі Ротмана*
*Я зашываю маўчанне адчаю.*
*Цацка без сэрца, ваўчыца бязродная,*
*Кінутая ў чалавечую зграю.*

*Ночы чароўныя выраслі здрадаю,*
*Рукі ўлюбёныя выраслі здзекам…*
*Госпадзе! Я была б казачна радая*
*Не нарадзіцца сюды чалавекам…*




Перыфраз цвятаеўскага «Бог, не суди! — Ты не был // Женщиной на земле» ўзмацняе "вселенскую грусть", якая так уласціва маладым паэтэсам. Наста Кудасава любіць гэтае жыццё і ўдзячная, што яна жанчына, бо толькі ў такой іпастасі можна спасцігнуць шматколернасць сусвету.

Зведаўшы таямніцы быцця, дакрануўшыся да мудрасці чалавечай, наша зямлячка заўсёды памятае, што і ў яе ёсць малая радзіма, горад маленства і юнацтва — Рагачоў.

*«Бацькі паходзяць з вёскі Рыскоў Рагачоўскага раёна. Маці Наталля Іванаўна працуе ў дзіцячым садзе кіраўніком фізічнага выхавання. Бацька Фёдар Цімафеевіч памёр, калі мне было 10 гадоў. Ёсць малодшы брат Дзіма. Сваім паходжаннем ганаруся і дагэтуль лічу Рагачоў самым чароўным з усіх гарадоў, што мне даваліся пабачыць. Лепшае ў душы і паэзіі — з дзяцінства, астатняе — ад складанасцей досведу, адукацыі, памылак, расчараванняў і пакаянняў».*

Несмяротнасць роду чалавечага сцвярджае аўтар у вершы, прысвечаным яўрэйскім могілкам горада Рагачова, якія ёй уяўляюцца крылом нерухомых пер'яў каменных пліт, нерухомым пер'ем сыноў Давіда, што адляцелі ў залаты шалом. І толькі адзіны наведнік у іх — Бог, што прынёс бяссмерце. Нешта падобнае можна сустрэць у версэце А. Разанава «Габрайскія могілкі»: яны зрасліся з няпамяццю і нябытам. Але вобраз Насты больш узнёслы, лятучы, хоць абодва навейваюць светлую тугу.

Перыфраз цвятаеўскага «Бог, не суди! — Ты не был // Женщиной на земле» ўзмацняе «вселенскую грусть», якая так уласціва маладым паэтэсам. Наста Кудасава любіць гэтае жыццё і ўдзячная, што яна жанчына, бо толькі ў такой іпастасі можна спасцігнуць шматколернасць сусвету.

Як хораша Наста Кудасава прызнаецца ў любові да роднага мястэчка:

*Пахне вежай, пахне жніўнем свежым,*
*Шмурдзяка гарэзліваю мовай,*
*Пахне незабыўным Рагачовам —*
*Бездання, бяздумнасцю, бязмежжам…*

*Тут сышліся з вечнасцю бясконцасць,*
*Цела з небам, белае з чырвоным.*
*Хай жа будзе вечна благаславёны*
*Горад, найцудоўнейшы пад сонцам!*

*Ці ў вясну сыду, ці ў дамавіну,*
*Ён заўсёды будзе крочыць поруч.*
*Рагачоў… І гарачынь, і горыч…*
*Мой чароўны рай дняпрова-сіні…*

У антычнасці лічылася, што возера Авернскае ля горада Кум было ўваходам у падземнае царства (Facilis descensus Averni). Герой Уладзіміра Караткевіча знайшоў такі ўваход ля Рагачова. Ці не таму Наста па прыкладзе свайго вялікага земляка абагаўляе Дняпро, якім марыць сыходзіцца па паперы? Нібы Аліса са славутай казкі, яна ў нямым захапленні сплывае ў вечнасць, каб *на дзяўчынкавых крылах* у імгненне даляцець да Конга ці Парагвая. Яна трапляе (ці стварае?) ва ўласны сусвет, дзе ўсё жыве па яе законах. У гэтай дарозе Наста сустракае хворага на дэжавю Харона; у вобліку Эўрыдыкі знаходзіць *неактуальнага Арфея*; Майсей успрымаецца велічным сейбітам; жыццёвыя лёхі выходзяць да яснага Стыкса; *Сланы ляцелі з Індыі абдоймаў да краёў свіных-качыных-конскіх; так хутка і шпарка ўвіхаецца Парка.* А над усім гэтым *пасміхаецца Адзіны ў сваім ніколі і нідзе.* Таму яна, зусім маладзенькая жанчына, стварае і свой уласны тастамент:

*А калі нітка дапрадзецца,*
*як схопіць іншая пара,*
*вазьмі маё жывое сэрца*
*і пахавай на дне Дняпра.*

*Там скрозь празрыстыя сялібы —*
*з пакоя ў царстве́нны пакой —*
*верлібрамі сплываюць рыбы*
*ў бясконцай прастаце сваёй!..*

Тут паэтэса не імкнецца да эксперымента, слоўнай эквілібрыстыкі, хаця апошняе цудоўна ўдаецца нашай зямлячцы. Дастаткова згадаць, што яе асобныя вершы складаюцца толькі з аднаго, двух, трох радкоў або з двух ці трох слоў:

*Бездакорны радок.*

*Крок за крокам*
*Іду ў шматкроп'е…*

*Партрэтаў рэбры*
*На сухой сцяне.*
*Гісторыя.*

*Sum —*
*Сум.*

*Вясна.*
*Вуснам*
*Цесна.*

Згадаем, што ў апошнія гады жыцця Ганна Ахматава лічыла, што верш з дванаццаці, нават з васьмі радкоў вельмі доўгі, а таму трэба пісаць карацей. У адной кроплі бачыцца сусвет, у дзвюх — расплываецца. Аднак кольkасць — не эстэтычная мера. Галоўнае для паэтаў — быць заўсёды з Богам, марыць пра той час, калі *Слова было Бог.*

**Іван ШТЭЙНЕР**

# уМоўныя паралелі




У новым нумары часопіса сабраныя творы сталых, добра вядомых аўтараў: проза Івана Капыловіча, Лідзіі Адамовіч, Івана Канановіча, вершы Васіля Макарэвіча і Валерыя Максімовіча. Адны з гэтых пісьменнікаў маюць паважаны ўзрост, іншыя належаць да сярэдняга літаратурнага пакалення, але галоўнае, што ўсе яны паходзяць з вёсак, тым часам як многія маладыя літаратары нарадзіліся ў сталіцы ці буйных гарадах. Адпаведна, «Полымя» чытаецца зусім не так, як «Маладосць» альбо «Тэксты», і справа не толькі ў праблематыцы і стылі, але і — шырэй — у мове.

Многія аўтары адзначаюць, што мова прызнаных майстроў слова сёння прыкметна адрозніваецца ад мовы маладых беларускіх аўтараў. Наўрад ці магчыма адмовіць сучаснай літаратурнай моладзі ў піетэце да мовы, але яе гарадскі варыянт шмат у каго выклікае непрыхільнасць. Змены ў мове і іх прычыны вартыя асобнага абмеркавання, а тэмай гэтага агляду будуць не столькі асобныя творы згаданых пісьменнікаў, колькі назіранні за іх мовай — з пункту гледжання ўрбанізаванага беларуса, якому ёсць чаму павучыцца…

*Шчырунне, ціхмяніца, гаспадарніца, стараннiца* — вось якія добрыя словы можна сказаць пра жанчыну. *Няўдалік, няўклюдка* — гэта ўжо мужчынскія персанажы. Адно слова замяняе працяглае апісанне і адначасова характарызуе героя. Багата і іншых словаўтваральных і словазменных фармантаў, якія дапамагаюць ашчаджаць словы (параўн. *са страхам, з шумам* і *палахліва, шумліва*; *вельмі ціхі, поўны-поўны* і *ціхуткі, паўнюткі)*.

У аповесці І. Капыловіча «Правінцыялка» знаходзім такія цікавыя словы і выразы: *лапціплёт, хамхадэра-п'яніца, закацілі страгача, жаніхайла жаніхайлам*. Іх няма ў нарматыўных слоўніках, але лічыць іх аўтарскімі неалагізмамі таксама не выпадае: здаецца, пісьменнік проста прыгадаў тое, што можна пачуць на вясковым падворку. Калі наватворы маладых аўтараў заўсёды вылучаюцца ў тэксце, то такія словы і выразы падаюцца больш сціплымі, непрыкметнымі — і больш арганічнымі. Старэйшыя аўтары нібы падладжваюцца пад мову, тым часам як маладыя пісьменнікі імкнуцца да максімальнага самавыяўлення.

Трапныя словы найчасцей сустракаюцца, калі героі разважаюць на пабытавыя ці сямейныя тэмы, калі пісьменнік апісвае будзённае жыццё ці характарызуе персанажа. Калі ж справа датычыць працы, горада, сучаснага адпачынку (баль у дзелавым свеце ці "гарашчая пуцёўка" на мора), сталыя пісьменнікі часам літаральна губляюць *дар мовы*: добрыя беларускія слоўцы палохаюцца, хаваюцца, рассыпаюцца. Маладым аўтарам у гэтым выпадку дапамагае інтэрнэт-слэнг, наватворы і розная спецыфічная лексіка. Але нават яны час ад часу зазіраюць у вёску: у гарадскім антуражы не заўсёды ёсць месца для *грушаў-хунтовак, сэрцайка* ды *шчасцейка*, і без вясковай тэмы не атрымліваецца напоўніцу выкарыстоўваць стылістычныя магчымасці нашай мовы.

Заканамернымі падаюцца змены не толькі ў лексіцы, але і ў вобразным ладзе беларускай паэзіі. Зварот да прыродных з'яў, сялянскай працы і побыту сёння падаецца зусім звыклым, але праз паўстагоддзя вершы, дзе *пожня ў пракосах ляжыць, / Як з субтропікаў збеглая зебра* ці *воз маны / Ў мой бок ідзе, паўзе / І тоне ад цяжару аж па ступіцы* (В. Макарэвіч), магчыма, будуць успрымацца як выштукаваныя, адмысловыя.

У рэчышчы «сялянскай паэзіі» чытаюцца і вершы Кім Со Воля, перакладзеныя М. Мятліцкім. Яго героі аруць зямлю, ловяць рыбу, думаюць пра Радзіму і чысцяць замест бульбы каштаны, але снег нагадвае карэйскаму паэту «чыстую белую цыноўку», а каханне засціць вочы «шоўкавым туманам».

Самыя цікавыя публікацыі нумара — артыкулы А. Марціновіча і У. Ліўшыца, прысвечаныя адпаведна маладому празаіку 30-х гадоў У. Кандраценю і вядомаму расійскаму пісьменніку Льву Разгону.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Мінскі каравай. З разынкамі




Часцей за ўсё нумар літаратурна-мастацкага часопіса сярод сваіх «разынак» мае адну асаблівую. Кастрычніцкі «Нёман», прысвечаны Міншчыне, адметны адразу дзвюма такімі рэчамі.

Першая — аповесць Алены Брава «Рай даўно перанаселены». Чарговы твор пісьменніцы чытач сустрэне з тым жа пачуццём, з якім чытаў «Каменданцкі час для ластавак», «Менаду і яе сатыраў», «Дараванне». Маўляў, адкуль што ўзялося? Няўжо наша? З Барысава? Дык чаму яна там сядзіць замест таго, каб з бляскам прэзентаваць свае, без перабольшання, шэдэўры, быць зоркай ток-шоу і г. д.? Але, магчыма, таму і «сядзіць», што «тавар» — «не для ўсіх». Для каго ж?

Для тых, каму праўда не коле вочы. Калі ты жанчына, то вымушаная скарыцца адной з чатырох стандартных роляў: хатняя гаспадыня, якая не працуе; гаспадыня, якая працуе; адзінокая маці; актывістка (у шырокім сэнсе). Лепш, зразумела, трапіць на рэдкі першы варыянт, хаця ў такім выпадку блізкія могуць бачыць у табе выключна механізм па іх абслугоўванні. Далёка не кожнаму «механізму» з добрым, але хворым сэрцам (занадта шмат яно бездапаможна трывае), пашанцуе з унучкай, якая створыць табе помнік у прозе. Менавіта так успрымаецца звышзадача аповесці.

Яшчэ адна жорсткая праўда ў тым, што індывід мусіць падпарадкоўвацца заведзеным-складзеным «матрыцам» сацыяльных паводзін і іх «маралі». І тут ужо за правінцыяльным планам — усюды і заўсёды існая заканамернасць.

Не толькі надрукаваную аповесць, але і ўсю творчасць Алены Брава ўспрымуць людзі з пачуццём літаратурнага стылю. У дадзеным выпадку яны адчуюць кранальную абвостранасць успрымання рэчаіснасці, адпаведную напружанасць фразы, яе асацыятыўнасць — вышуканую, але цалкам, так бы мовіць, лагічную. Не «плынь свядомасці», а менавіта канцэнтрацыя: аповед (цяперашняе) — кантэкст (папярэдняе) — сімвалічна-асацыятыўны скразны каментарый (агульны досвед аўтара).

Другая «разынка» — аповесць Алега Буркіна «Горш за вайну». Больш сціплая па стылі, памеры, яна таксама каштоўная ўвагай да «адвечнага» і нязмушаным аповедам. Ён якраз такі, што «зацягвае». Да таго ж, «афганская» тэма з тых, якія не пакідаюць абыякавымі: у ёй — гісторыя, псіхалогія, даніна павагі і памяці загінуўшым суайчыннікам. У дадзеным выпадку — яшчэ і пэўная сацыялогія «абмежаванага кантынгенту», у якім былі мужчыны і жанчыны, штабныя чыны і ўдзельнікі баявых аперацый, «зялёная» моладзь і сталыя вайскоўцы — кожны са сваёй драмай патраплення ў пекла, выжывання або пагібелі ў ім. Асноўную ўвагу А. Буркін надае не баявым дзеянням і не «героіцы» (ёй у абсурднай вайне па вызначэнні не было месца), але цяжкасці, амаль немагчымасці захавання на вайне чалавечага сумлення, годнасці. Яшчэ Хемінгуэй назваў гэта «горшым за вайну».

Сярод паэтычных твораў, змешчаных у нумары, больш за ўсё імпануюць вершы Янкі Лайкова. Раздзел «Сусветная літаратура» адметны нават «мега-разынкай» — навеламі Германа Гесэ. Крытыкі, гісторыкі, увогуле дасведчаныя асобы (Барыс Батура, Алесь Марціновіч, Галіна Багданава, Мая Гарэцкая, Кірыл Ладуцька, Зінаіда Краснеўская) знаёмяць з выбітнымі старонкамі літаратуры, культуры, гісторыі Мінска і Мінскай вобласці.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Хто размалюе наша неба?




Сёлетні дзясяты нумар «Маладосці» мусіў стацца незвычайным. Папершае, ён традыцыйна берасцейскі і адкрываецца прывітальным словам губернатара, але ў тым і справа, што — традыцыйна. Сапраўдная ж нагода вылучыць гэты нумар — яго міжнароднасць (гэта «па-другое»).

Што хаваецца пад гучным азначэннем? Адразу зробім агаворку: «Маладосць» № 10 не толькі міжнародная, але і міжрэгіянальная. На вокладцы бачым пазнаку: Брэст — Роўна — Бяла-Падляска. Што само па сабе адказвае на пытанне пра міжнароднасць: у часопісе мы чытаем творы не толькі беларускія, але і ўкраінскія, польскія. Аднак гэтага мала. Павінна быць зваротная сувязь. Так, у нумары змешчаныя вершы беларускі Марыі Кобец, перакладзеныя на ўкраінскую мову Адамам Шостакам. Нашто беларускаму чытачу гэты пераклад? Іншая справа, калі б ён быў змешчаны ва ўкраінскім літаратурным часопісе. Магчыма, так яно і сталася. Магчыма, зваротная сувязь наладжаная. Але чаму пра гэта ні слова? У прадмове ад рэдакцыі чытаем: «Нумар, што прадставіць беларусам творчасць літаратараў-замежнікаў — жывую, толькі-толькі з-пад пяра суседзяў, палякаў і ўкраінцаў. Цікава, як у іх з верлібрамі і эпатажам? […] Нашы — ці будуць удзячнымі? Мы — ці ўразім замежнікаў?» Адны пытанні. Спадзяёмся, што адказы з'явяцца ў наступных нумарах.

Беларускі «блок» адкрываецца мемарыяльным артыкулам Анатоля Крэйдзіча «Яе запавет — быць адзіННымі». Прысвечаны тэкст Ніне Мацяш. Мы чытаем ліставанне між пісьменнікамі. Як нешта патэнцыяльна цікавае, інтымнае, як і бывае з лістамі, матэрыял гэты анансуецца вялікімі літарамі на вокладцы часопіса. Натуральна, між радкоў тут можна прачытаць пра кулуарныя пісьменніцкія справы, але ці тое было патрэбна? Чытач падсвядома чакае ад паэта (паэтэсы), які сышоў з гэтага свету, запавет. Відаць, спадар Анатоль сам гэта разумеў і вынес сутнасць запавету ў загаловак — «быць адзіННымі». А вось у лістах пра тое — ні слова.

Упершыню ў «Маладосці» друкуецца Настасся Сідорка. Адсылкі да барадулінскіх «лілеяў», традыцыйныя, добрая мова, але галоўнае, што ёсць у яе вершах, — паэзія. Шчыра раю спадарыні Настассі меней пісаць пра афганскія войны і болей — пра дзяцінства ці нешта гэтаксама добра ёй вядомае.

І вось мы дабраліся да прыўкраснага. «Я размалюю для цябе неба» — гэта «казка для дарослых дзяцей», як тлумачыць у падназе аўтар твора Валерый Гапееў. Спадар Валерый, верагодна, замучыўся ад параўнанняў, а калі і не, то наўрад ці ўзрадуецца, але не сказаць пра гэта не магу: «Я размалюю для цябе неба» вельмі нагадвае раман Яўгена Замяціна «Мы» (галоўнага героя завуць Яўген, дарэчы). Можна нават сказаць, што гэта беларуская версія антыўтопіі, крыху спрошчаная — бо ў цэнтры ўвагі дзіця — і падкарочаная. Людзі жывуць пад Купалам, асвечаным штучным Сонцам. За Купал — ні кроку, інакш — смерць. Людзі носяць празрыстае адзенне, сцены дамоў — таксама празрыстыя. Да таго ж, усіх яднае адзінае эмацыянальнае поле, так што калі нехта і задумае ліхое, яго адразу знаходзяць. Аповесць жывая, напісаная натуральнай мовай, яна не стамляе і не павучае. І песня «Горад залаты», вядомая ў выкананні Барыса Грабеншчыкова, не проста ўжываецца ў твор, ператвараючыся ў гімн свабоды і чысціні, але нібыта вырастае з яго.

Зрэшты, «Я размалюю для цябе неба» — гэта твор, пра які не казаць трэба, — яго трэба чытаць.

Украінскую сучасную літаратуру ў гэтым нумары прадстаўляе Ровеншчына. Пятнаццаць маладых аўтараў, збольшага — з вершамі, збольшага — вольнымі. Карацей, усё як у нас. І калі б загадзя не ведаў, што аўтары — украінцы, лёгка прыняў бы іх за сваіх. Натуральна, такое ўражанне ствараецца праз тое, што перакладчыкі добра пастараліся. І ўсё ж маладосць паўсюль аднолькавая. Рамантычнасць, расчараванне ў жорсткім свеце, слёзы, енкі і малітвы, трагічнасць інтанацый, роздумы і спробы філасофіі. Таксама — бунт. І, канечне ж, благаславёнае — бо ці сапраўдны ты без яго паэт? — няшчаснае каханне. Спрэс — туманы, прастуджаныя горлы, снегапады, кава раніцай ды іншая абавязковая атрыбутыка. Проза ў маладых ровенскіх творцаў таксама лірычная. Калі не — набліжаная да эсэ.

Палякі, як водзіцца, больш канкрэтныя. Хоць і ў іх вершах хапае дажджу і плачу. Вельмі цікавая аўтарка Катажына Саўчук. Прачытаўшы тры яе вершы, змешчаныя ў польскай частцы «Маладосці», я зразумела, што хачу пазнаёміцца з яе зборнікам «Час кідання камянёў», з якога і былі выбраныя творы. Гэтаксама зачапілі «Вельмі неэлегантны верш» Аляксандры Пенькош і кранальны твор Яцэка Хомюка «Падарожжа на месяц». Але першы сярод палякаў у гэтым нумары — аўтар сталы — Збігнеў-Влодзімеж Фрончак. Чытаць яго невялічкія апавяданні, вельмі падобныя па настроі да народных казак, вясёлых, трапных, — адно задавальненне.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# «Збягаюць дні, але жыве надзея…»



Іван ПЕРАВЕРЗІН

Расійскі паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч. Старшыня Выканкама Міжнароднай супольнасці пісьменніцкіх саюзаў, кіраўнік Літаратурнага фонду Расіі.

## Я вярнуся…

*Маё жыццё амаль дайшло
да краю, ці — да донца.
Аб тым званы гудуць ужо,
адлітыя бы з сонца.*

*Бары звіняць пра гэта скрозь,
звініць самотна рэчка.
І звон мне чуецца з нябёс
аб гэтым жа, дарэчы.*

*Тугі шчымлівай не суняць,
аднак я не заплачу.
Ды і ў каго цяпер спытаць
за боль і ўсе няўдачы?*

*Сыду, але не назусім:
калісьці, можа, з неба
вярнуся я к палям сваім
травою, вершам, хлебам.*

* * *

*Тамы жыцця няспешна я гартаю,
і мары запаветныя, і сны…
Як некалі ў маленстве, не лятаю,
ды помню адчуванне вышыні.*

*Збягаюць дні, але жыве надзея,
з якою я на месцы не стаю:
хоць птушкаю лятаць ужо не ўмею,
а птушкай па-ранейшаму пяю.*

## Кувае зязюля…

*Кувае позняя зязюля.
Навокал ціха, ні душы.
Царква — старэнькая бабуля —
вышэй імкнецца ўзняць крыжы.*

*Свае гады лічыць не стану:
пакуль жывы — шчаслівы я.
Пайду на дальнюю паляну —
мо там пачую салаўя?*

*Мне зорка першая міргае, —
бы просіць тут заначаваць.
Свой лік зязюля не спыняе —
жыццелюбівая, відаць.*

## Шматслоўе

*Я зноў шматслоўя не магу суняць,
няглёдзячы на ўсё маё старанне.
Мне штосьці не ўдаецца
зацугляць,
як дзікага каня, вершаскладанне.*

*Мо Бог прабачыць верніка свайго,
бо ёсць грахі куды цяжэй на свеце.
Шматслоўе — гэта сведчанне таго,
што стаў стары, а як —
і не прыкмеціў.*

* * *

*Я месца ведаю,
што Бог прыкмеціў.
Такі спакой і цішыня кругом,
нібы адзін застаўся на планеце,
забыты ворагам і сябруком.*

*Знайду я рай той
у таёжнай цішы,
дзе родныя пачую галасы:
спявае птах і
снег свідруюць мышы,
гарыць пад елкай
рыжы хвост лісы.*

*А недалёка,
нібы ў іншым свеце,
за паваротам бурнае ракі,
рваў сосны з каранямі вецер
і білі з ружжаў качак мужыкі.*



Алег ЧУПРОЎ

Расійскі паэт, член Саюза пісьменнікаў Расіі, член Праўлення Санкт-Пецярбургскага аддзялення СПР, прафесар Міжнароднай Славянскай акадэміі, акадэмік Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў.

***

*Выйшаў ноччу
ў яблыневы сад.
Бы планеты,
яблыкі вісяць.
Тут упаў адзін з іх
на далонь, —
Пэўна з неба
кінуты быў ён —
Абярнуўся дзеўчынай-красой
З русай, аж да пояса, касой.
Паманіў, павёў мяне пагляд…
Гэта ўсё было —
жыццё назад!*

***

*Абяднела рэчка зорная:
Добрых рыбін не відаць.
Спахапіўся, мабыць,
позна я,
Засталося мне — чакаць.*

*Ды пакуль журыцца
нечага —
Недзе ўлоў паблізу мой.
Мо злаўлю
русалку-дзеўчыну
Вечароваю парой?*



Уладзімір БАЯРЫНАЎ

Расійскі паэт, намеснік старшыні выканкама Міжнароднай супольнасці пісьменніцкіх саюзаў, першы намеснік старшыні Маскоўскай гарадской арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі. Сакратар Праўлення СПР.

## Набат

*У рытме песні словы б'юць
Жалезам па жалезу.
Больш за два вякі пяюць
Французы «Марсельезу».*

*І я крычу як завадны,
Нібыта маю права:
«Наперад, мужныя сыны,
Чакае смелых слава!»*

*І кожны раз, калі пяю,
Удзячны я дэ Лілю.
Хачу, Айчыну каб маю
Ніколі не дзялілі.*

*Як маці, ёю даражым,
Таму з набатнай песняй
Стаім на важным рубяжы
Мы грамадою цеснай.*

## Пагарачыўся

*Я гэту жанчыну любіў,
Таму што мяне не кахала.
Словы лепшыя гаварыў…
Яна ж іх, здаецца, праспала.*

*Я ўстаў, страсянуўся, бы пёс:
Ашыйнік, ці што, мне надзелі?
Куды мяне вецер занёс,
Куды мае вочы глядзелі?*

*Дык ты не кахаеш? І я.
Мне больш не трапляйся
на вочы.
Не твой я, а ты — не мая.
Кацiся адсюль, куды хочаш!*

*«Ужо вылятаеш? Адна?»
Мой жар
пакрысе астудзіўся.
А як дабярэцца яна,
А каб самалёт не разбіўся…*

*Эх, мабыць я… пагарачыўся.*



Барыс АРЛОЎ

Расійскі паэт, старшыня Санкт-Пецярбургскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі, сустаршыня Праўлення СПР, член Грамадскага савета па культуры пры Урадзе Санкт-Пецярбурга.

## Душа Расіі

*Душой дабрэйшыя
у вёсцы людзі —
Шкадуюць звяр'яцелых і калек.
І падарожнік тут
не ў крыўдзе будзе:
Паслухаюць, пакінуць на начлег.*

*Няма бязродных тут.
Усе — як роўня.
Не прывячаюць толькі
сквапных, злых.
І запаветы продкаў
добра помняць.
Ды берагуць заўжды
цярпліва іх.*

*Тут гарманіст і песеннік —
месія,
А ў віхры танца
не шкадуюць ног...
Ты, вёска руская,
душа Расіі,
Бо ў кожным доме
пасяліўся Бог.*

## Маці

*Цёплы поўдзень.
Сонца, хмаркі ў небе.
Паўз дарог —
стракаты травастой.
Маці пасвіць коз,
а калі трэба —
Лечыць чарцянят...
святой вадой.*

*Цішыня.
Стракоча толькі конік.
Дом наводдаль —
быццам Боскі дар.
Спіць на Біблії
Там, пэўна, коцік —
Акурат лянівы той шкаляр.*

*Мне куточак
кожны тут знаёмы,
Край азёр,
рачулак і бяроз.
Як заплюшчу вочы —
каля дома
Бачу маці я
з чародкай коз.*

**Пераклад з рускай Паўла САКОВІЧА**

# Па вуліцах Гарадка



Ігар ГРЫГОР'ЕЎ

Паэта Ігара Грыгор'ева я памятаю са школьных гадоў. Ён быў зяцем нашага класнага кіраўніка Васіля Захарава. Статны, маўклівы і задумены, ён нетаропка хадзіў па вуліцах нашага старажытнага і шматпакутнага Гарадка, напэўна, на хаду складаючы вершы. Потым, калі я ўжо вучыўся ў Рыжскім вышэйшым інжынерна-авіяцыйным ваенным вучылішчы, ён прыслаў мне газету (не памятаю, якую) са сваімі перакладамі маіх вершаў, якія былі надрукаваны ў нашай раённай газеце. Толькі праз шмат гадоў я пераклаў і надрукаваў у газеце «Чырвоная змена» яго «Беларусь» і «Вераб'ёвы горы». Сёння хачу пазнаёміць чытачоў газеты «Літаратура і мастацтва» з кранальнымі творамі ў маім перакладзе. Шкада толькі, што іх ужо не прачытае сам аўтар.

Вечар памяці Ігара Грыгор'ева адбудзецца 3 снежня ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна.

***

**Рыгору Грыгор'еву**

Гуляюць цені на гары.
Ніжэй рака пяе.
Лаўлю я рыбу на зары,
А рыба не клюе.

**Грыша Грыгор'еў**

*Ужо зара крыві згубіла шмат.
У прыцемках і поўначы, і поўдні.
Заказы не прымае лістапад.
Трымай усё і аб віхурах помні.*

*Трымай і не ўздыхай.
І з тым ступай.
Ідзі, хоць і далёка да начлегу.
І хоць, магчыма,
толькі дзень да снегу,
Ідзі сабе і цяжка не ўздыхай.*

*Пустыя страсці
з плеч сваіх страсі
І мерай вёрсты крокамі цяпер.
Дабро і вернасць у грудзях нясі
І ў тое,
што да мэты дойдзеш, вер.*

*Хай завірухі лютыя шалеюць.
Ты іх не бойся — і ў паход гайда!
Бо завірухі — весняя вада.
Яны часовыя, яны хварэюць.*

## Лістапад

*Як сцюжна і як шэра на зямлі.
Нямой няласкай
восень апантана.
І мокры снег, як попел той
з вулкана,
І днём, і ноччу ў шэрані палі.
Як сцюжна і як шэра на зямлі.*

*Заган і бед шмат у маіх краях.
Пужлівыя і маладыя вербы.
Паслухаць пошчак салаўя
цяпер бы,
Ды марыць позна ўжо
аб салаўях.
Заган і бед шмат у маіх краях.*

*Хоць сумна, перадзім'ю ўсё адно,
Ці секчы, ці паліць палі пустыя.
Разлука,
цемрадзь,
горыч,
летаргія.
Прасторы,
як закрытае акно,
Ды першаму марозу ўсё адно.*

*Ты іншую лепш песню заспявай.
Што толку ад самотнай,
адыходнай,
Халоднай,
безвыходнай,
непагоднай?
І хоць у хмарах чорных
небакрай,
Ты іншую лепш песню заспявай.*

*Дум нелагодных утаймуй парыў.
Сноп весніх слоў
спалі ў кастры напева.
Палі і не шкадуй.
Яны не дрэва.
Яны ўваскрэснуць,
толькі б не астыў
Ад прымаразкаў першых
іх матыў.*

* * *

**Дзіне Грыгор'евай**

*Дзённыя астылі страсці.
Заціхае лог.
Месяц,
як чужое шчасце,
Выплыў з-за аблок.*

*Сыпле з берага крутога
Ў завадзь пятачкі.
Побач сэрца дарагога
Гучныя штуршкі.*

*Ад пазна да новай рані
Міласэрны час —
Дзённыя залечваць раны
Ноч прымусіць нас.*

*А зямлі ажно да ранку
Стоена чакаць,
Калі зноў зара заранку
Змусіць заспяваць.*

*Да світання, да разлукі
Месяцу гарэць
І сваёй каханай рукі
Мне дыханнем грэць.*

* * *

*Зара, зараначка, зарушка,
Чырванакрылы небакрай.
Мая журботная жар-птушка,
Не адгарай, не адлятай.*

*Як мне адлюстраваць сутонне?
Хачу спяваць, а ў горле ком.
Мой голас ціхі, ломкі сёння,
Ды я заплакаў над радком.*

* * *

*Між днём і ноччу меж няма.
Заход — світанне,
поўдзень — цьма.*

*Дождж, завіруха, пекла, стынь —
Прасветлы свет, жывая сінь.*

*А горыч восеньскіх разлук
Вяснее з поціскамі рук.*

*Той шлях, што не зарос травой,
Злучае ганкі два сабой.*

*Журба і радасць — дзве сястры,
Людскія яркія кастры.*

*Прыпеўку або гімн узяць.
Раз ёсць душа, дык песняй зваць.*

*А быль і казка — сваякі,
Лісты ў наступныя вякі.*

*Радзіма ёсць у нас. Яна,
Як і зямная вось, адна.*

**Пераклад з рускай Уладзіміра СКАРЫНКІНА**

# Кніжны свет



*Унікальны праект*

# Усё пра хакей

Калі вы лічыце сябе спартыўным заўзятарам, з задавальненнем наведваеце хакейныя матчы, ведаеце рэйтынгі каманд на самых буйных чэмпіянатах, пазнаеце ў твар вядомых хакеістаў і з нецярплівасцю чакаеце Чэмпіянату свету па хакеі, які пройдзе ў нашай сталіцы ў маі 2014 года, то навіна пра выхад гэтых кніг стане для вас насамрэч добрай весткай.

У выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі» пабачылі свет «Энцыклапедыя беларускага хакея» і «Энцыклапедыя Беларускага фізкультурна-спартыўнага таварыства «Дынама». Іх прэзентацыя прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Спартыўная тэматыка не новая для беларускіх энцыклапедыстаў. Як распавяла падчас прэзентацыі галоўны рэдактар «БелЭн імя П. Броўкі» Ларыса Языковіч, «ужо ў 12-томнай «Беларускай савецкай энцыклапедыі» былі артыкулы, прысвечаныя выдатным спартсменам і відам спорту, якія атрымалі развіццё ў нашай краіне. У 18-томнай «Беларускай энцыклапедыі» спартыўная тэматыка таксама знайшла сваё адлюстраванне, як і ў 7-томнай энцыклапедыі «Рэспубліка Беларусь». У 2005 годзе была выдадзена «Беларуская спартыўная энцыклапедыя», а ў 2011-м з'явіліся сумесныя выданні з федэрацыямі хакея Швецыі і Беларусі. Гэта пераклад шведскіх кніг «Азбука хакея з шайбай», а таксама «Дзённік варатара». Ідэя ж «Энцыклапедыі беларускага хакея» ўзнікла гады тры таму. Меркавалася рэалізаваць праект, прысвечаны сусветнаму хакею, але вырашылі, што больш важным і патрэбным было б спачатку сканцэнтравацца на развіцці гэтага віду спорту ў Беларусі. Адметна, што кніга ўключана Міністэрствам інфармацыі краіны ў спіс сацыяльна значных выданняў. Гэта значыць, яе можна будзе набыць па ніжэйшых коштах і ў хуткім часе энцыклапедыя з'явіцца ў бібліятэках».

Яшчэ больш актуальным робіць выданне той факт, што напрыканцы сёлетняга сезона Федэрацыя хакея Рэспублікі Беларусь падвядзе вынікі сваёй 20-гадовай дзейнасці. Энцыклапедыя ўключае кароткі нарыс гісторыі беларускага хакея, артыкулы пра майстроў гэтай гульні: ігракоў, трэнераў, кіраўнікоў федэрацый хакея. Тут можна даведацца і пра ўдзел беларускіх клубных каманд і нашай нацыянальнай зборнай у кубках, зімніх Алімпійскіх гульнях, чэмпіянатах свету, Еўропы, Савецкага Саюза. Дзякуючы намаганням Ігара Мартынюкоўскага мы цяпер можам цалкам узнавіць гісторыю нашага хакея за 72 гады: з 1940-га, калі адбыўся першы матч, да 2012-га. У выданні шмат фотаздымкаў найлепшых беларускіх спартыўных фатографаў Аляксандра Шычко і Генадзя Сямёнава.

Старшыня Федэрацыі хакея Рэспублікі Беларусь, дырэктар дырэкцыі па правядзенні Чэмпіянату свету па хакеі 2014 года Яўген Ворсін, які з'яўляецца таксама аўтарам прадмовы да «Энцыклапедыі беларускага хакея», падкрэсліў: чэмпіянат свету па хакеі — гэта сусветны форум, за права правядзення якога змагаюцца ўсе самыя лепшыя хакейныя краіны свету. Вельмі важна, што Беларусь такое права заслужыла. Выхад «Энцыклапедыі беларускага хакея» — не проста спроба захаваць памяць мінулых гадоў, але і напамін нашчадкам пра ўсіх, хто рабіў першыя крокі ў развіцці хакея, працягваў шлях, удасканальваючы гэты від спорту ў наш час.

Што да другой значнай кнігі, якая прэзентавалася ў Нацыянальнай бібліятэцы краіны — «Энцыклапедыя беларускага фізкультурна-спартыўнага таварыства «Дынама», — то яна прысвечана 90-годдзю заснавання гэтай арганізацыі. Адметна, што «Дынама» ўзнікла як Усесаюзнае спартыўнае таварыства і ў постсавецкай гісторыі працягнула сваё існаванне ўжо ў выглядзе асобных нацыянальных ФСТ былых савецкіх рэспублік. «Энцыклапедыя БФСТ «Дынама» пабудавана на аснове тэматычнага і алфавітнага прынцыпаў. Выданне змяшчае гістарычны нарыс развіцця арганізацыі, а таксама расповед пра сучаснае «Дынама», і вось гэтая частка энцыклапедыі складаецца з асобных артыкулаў, прысвечаных розным аспектам дзейнасці спартыўнага таварыства. Аўтарамі выдання сталі Яўген Паўлоўскі, заснавальнік музея БФСТ «Дынама», і кандыдат філасофскіх навук Аляксандр Мушта.



«Энцыклапедыя БФСТ «Дынама» ў некаторай ступені перагукаецца з «Энцыклапедыяй беларускага хакея», бо вядучая хакейная каманда нашай краіны таксама ўваходзіць у гэтае спартыўнае таварыства. Падчас прэзентацыі кніг прэс-сакратар Нацыянальнага Алімпійскага камітэта Беларусі Анастасія Марыніна зазначыла:

— Выданне гэтых дзвюх кніг вельмі важнае, бо яны непарыўна звязаныя з развіццём спорту і алімпійскага руху ў Беларусі. Калі казаць пра гісторыю БФСТ «Дынама», то спартсмены таварыства заваявалі 120 узнагарод на Алімпійскіх гульнях, а гэта больш як палова ўсіх медалёў, якія беларускія спартсмены маюць па выніках Алімпіяд.

Скептыкі сцвярджаюць, што хакей — досыць малады від спорту і пра значныя вынікі тут казаць не даводзіцца. Але ёсць надзея, што і выхад новай энцыклапедыі, і, зразумела, правядзенне Чэмпіянату свету па хакеі-2014 у Мінску стануць новымі яркімі старонкамі беларускага спорту, якія прынясуць папулярнасць нашай краіне на міжнароднай арэне.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Старажытны спеўнік

**3 снежня 2013 г. у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН Беларусі адбудзецца прэзентацыя выдання «Феномен беларускага музычнага мастацтва XVII ст.».**



*Старонка з кнігі «Псалтирь рифмотворная» 1680 г. Гравюра з выявай цара Давіда.*

Аўтар кнігі — доктар мастацтвазнаўства, прафесар кафедры правазнаўства Віцебскага філіяла Міжнароднага ўніверсітэта «МІТСО» Людміла Сідаровіч.

Манаграфія прысвечана вывучэнню рукапіснага зборніка «Полацкі сшытак», створанага ў беларуска-польскім рэгіёне ў канцы XVI — пачатку XVII ст. Ён уяўляе сабой невялікі нотны сшытак у 64 аркушы са старадаўнімі песнямі (кантамі) і танцамі невядомых аўтараў. Вытокамі вакальнай і інструментальнай музыкі сшытка былі народныя песні ўсходнеславянскага рэгіёна і старажытны знаменны распеў.

Лёс гэтага рукапісу поўны прыгод. У гады Вялікай Айчыннай вайны яго вывезлі з тэрыторыі Беларусі ў Польшчу, дзе ён доўгі час захоўваўся ў адным з кнігасховішчаў. Дарэчы, музычны рукапіс быў уклеены ў вокладку рукапіснай богаслужэбнай уніяцкай кнігі сярэдзіны XVII ст. У сярэдзіне 1960-х гг. быў знойдзены ў бібліятэцы Ягелонскага ўніверсітэта Кракава музыказнаўцам Ежы Голасам, які даследаваў і апісаў гэты ўнікальны нотны помнік. Мікрафільм з копіяй «Полацкага сшытка» ў 1980-я гады прывёз з Польшчы вядомы беларускі даследчык, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс і перадаў яго ў фонд акадэмічнай бібліятэкі.

З нагоды прэзентацыі кнігі, прысвечанай унікальнаму рукапісу, у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН Беларусі падрыхтавана выстаўка «Старонкі гісторыі музычнай культуры Беларусі». На ёй прадстаўлены дакументы XVII — XXI ст. з фондаў бібліятэкі. Асаблівую ўвагу прыцягваюць псалтыры XVII ст. — «сучаснікі» «Полацкага сшытка»: «Псалтирь с восследованием» (Масква, 1640), «Псалтирь с толкованием» (Кіеў, 1697).

Сярод старадрукаў прадстаўлены і вершаваны пераклад псалтыра «Псалтирь рифмотворная» (Масква, 1680) — адно з найлепшых і найпапулярнейшых выданняў вядомага дзеяча ўсходнеславянскай культуры, багаслова, паэта і драматурга Сімяона Полацкага. У экспазіцыі — даследаванні айчынных і замежных навукоўцаў. Сярод выданняў XIX ст. — працы рускага філолага і мастацтвазнаўца Фёдара Буслаева, даследчыка гісторыі рускай літаратуры Леаніда Майкава. На некаторых асобніках можна ўбачыць пячаткі і рукапісныя запісы вядомых дзеячаў гісторыі і культуры: беларускага гісторыка, этнографа, фальклорыста і эканаміста Мітрафана Доўнар-Запольскага, расійскага літаратуразнаўца, кнігазнаўца Паўла Беркава.

**Алена ЦІТАВЕЦ**

# Родам з лістападу

**Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа НАН Беларусі ў межах праекта «Апякункі паэтычных нябёсаў» запрасіла сваіх чытачоў на вечарыну «А ўсё таму, што родам з лістападу...», прысвечаную 65-годдзю вядомай беларускай паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.**

У памяці многіх яна засталася «непрыручанай птушкай», загадкавай, непрадказальнай. Талент Яўгеніі Янішчыц уздымаўся высока ў неба, у той час як душа была злучана з бацькоўскім краем, роднымі і сябрамі. У айчынным літаратурным асяроддзі заўсёды з вялікай прыхільнасцю казалі пра яе здольнасці, глыбіню лірычных перажыванняў, увагу і любоў да чалавека. Па словах Васіля Быкава, Яўгенія Янішчыц была самай таленавітай з усіх таленавітых паэтэс Беларусі.

Даверлівае «дзіця Палесся» пазірала на свет зачараванымі вачыма, сэрца было раскрыта насцеж, насустрач жыццю. Менавіта такой убачыў 18-гадовую дзяўчынку беларускі пісьменнік Васіль Жуковіч на дасланым яму фотаздымку падчас сяброўскай перапіскі. «Творчасць Яўгеніі Янішчыц — гэта сапраўдны, глыбінны народны талент. Паэтэса жыла народам, прысвячала безліч твораў сваім землякам і зямлячкам. Старонкі яе кніжак густа заселеныя імёнамі блізкіх ёй людзей. Я ганаруся, што быў з Жэняй у самых добрых, сяброўскіх стасунках, неаднойчы выступаў у друку з шырокім аповедам пра тое, што значыць Янішчыц для нашай літаратуры. Ды і ў вершах звяртаўся да гэтай цудоўнай, абаяльнай постаці», — шчыра адзначыў Васіль Аляксеевіч.

Да мерапрыемства бібліятэка падрыхтавала выстаўку, названую радком знакамітага верша Янішчыц, — «Пачынаецца ўсё з любві…». Паэтычныя зборнікі, апошнія і самыя першыя, публікацыі ў літаратурных часопісах, пераклады на беларускую мову твораў рускіх, украінскіх аўтараў, літаратурна-крытычныя артыкулы. Асобны раздзел прадстаўляе фотаздымкі, лісты, віншавальныя паштоўкі, асабістыя рэчы паэтэсы.

Яўгенія Янішчыц жыла паэзіяй. Шмат вершаў яе прысвечана бацьку і матулі, але самыя шчымлівыя і трапяткія — сыну Андрэю. Ён прыйшоў на вечарыну разам са сваёй сям'ёй. «Колькі б часу ні прайшло, цяжка гаварыць. Але я памятаю маці, калі мы жылі яшчэ на вуліцы Ульянаўскай. Яе кабінетам была вялікая кухня ў сталінцы. Яна магла пісаць нават ноччу, а раніцай ісці на працу. Колькі ж сіл на гэта павінна быць!» — падзяліўся ўспамінамі сын паэтэсы.

Праз яе вершы выразна праступае жаночая існасць, у іх ёсць усё — міласэрнасць, чуласць, спагада, каханне. Паэзія Яўгеніі Янішчыц заваарожвае чытачоў і прыцягвае даследчыкаў.

Святлана Калядка, дацэнт, кандыдат філалагічных навук, адзначыла: «Яўгенію Янішчыц не проста ўспамінаюць, а чытаюць. Кожны раз, калі бярэш у рукі кніжку, адкрываеш паэтэсу нанова».

У 2012 годзе Святлана Калядка разам з Таццянай Аўсяннікавай распачалі вялікую працу — падрыхтоўку збору ўсіх твораў Яўгеніі Янішчыц. Казаць пра колькасць тамоў яшчэ рана, прыкладна — чатырыпяць кніг. У іх будзе ўключана паэзія, у тым ліку вершы, якія раней нідзе не публікаваліся, звесткі пра родных амаль з 1800 года, хроніка жыцця і творчасці, успаміны сяброў, аднакурснікаў, калег, родных, артыкулы, рэцэнзіі, выступленні, пераклады, лісты і шмат іншага.

«Усё гэта рэдкія матэрыялы, якія варта падымаць, публікаваць і папаўняць жыццяпіс паэтэсы. На наступны год, спадзяюся, першы том будзе падрыхтаваны. Праца аб'ёмная, але Яўгенія Янішчыц вартая такой памяці», — лічыць Святлана Калядка.

**Марыя ВОЙЦІК**

*З успамінаў*

# «Бомбачкі» Фёдара Янкоўскага

Сёлета споўнілася 95 год з дня нараджэння выдатнага вучонага, пісьменніка, педагога, прафесара Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага (21.09.1918 — 13.11.1989). Нядаўна ў БДПУ імя М. Танка, з якім ён звязаў усё сваё творчае жыццё, прайшла прысвечаная яму трэцяя міжнародная навуковая канферэнцыя «Нацыянальная мова і нацыянальная культура: аспекты ўзаемадзеяння». Менавіта гэтыя падзеі навеялі мне колькі старонак успамінаў…

Адразу скажу: знаёмства з Фёдарам Міхайлавічам, якое затым перарасло ў шматлікія афіцыйныя і неафіцыйныя сустрэчы, асабістыя і нават сямейныя кантакты (скажам, у Ракаве, на нашым з Таццянай Кабржыцкай вяселлі, або ў Мінску, на вяселлі яго дачкі Іны), было аплоднена шчырым і даўгалетнім сяброўствам з Янкоўскім майго роднага дзядзькі Антося Рагойшы. Яны ў адзін і той жа складаны пасляваенны час вучыліся ў Гродзенскім педагагічным інстытуце (дзядзька — на фізіка-матэматычным факультэце, Янкоўскі — на філалагічным), жылі ў адным пакоі студэнцкага інтэрната, дзе і пасябравалі шчыра. І іх узорнае пажыццёвае сяброўства абарвала толькі смерць Фёдара Міхайлавіча ў 1989 г. (дзядзька, маладзейшы за свайго сябра на 7 год, памёр у 2008 г.).

У сямейным архіве, які дбайна аберагае дзядзькава жонка Марыя Іванаўна, захоўваюцца, бадай, усе кнігі Янкоўскага з цёплымі дарчымі надпісамі свайму «самаму блізкаму сябру», асобныя яго лісты, здымкі. Менавіта дзядзька Антось і пазнаёміў мяне з Фёдарам Міхайлавічам яшчэ ўлетку далёкага 1956 г. Тады ён прывёз Янкоўскага ў Ракаў да свайго старэйшага брата, майго бацькі Пятра. Аднак была і мэта больш празаічная: парыбачыць на рацэ Іслач, у якой вадзіліся стронгі. Нам, падлеткам, «жывыя, з мазаікай каляровых крапінак стронгі» (Ф. Янкоўскі) часам нават у звычайныя кашы траплялі. Заядлы рыбак, Фёдар Міхайлавіч не мог прапусціць такой нагоды. Помніцца, у памочнікі да яго былі накіраваны я і муж цёткі Сяргей, рыбак гэтаксама апантаны, які ведаў кожны рыбны вір на Іслачы. Але ў той раз нам не пашанцавала. Фёдар Міхайлавіч прыехаў са спінінгам, з якім на бруістай вузкай рацэ не было дзе разгарнуцца. Кручок нярэдка чапляўся за карчы, нам з Сяргеем даводзілася раз-пораз плюхацца ў сцюдзёную крынічную плынь. І хоць мы прайшлі ўніз па рацэ ледзь не да Падневіч, ніводная рыбка так і не спакусілася на спінінгавую блясну. «Было хоць ты нырні ды падчапі якую рыбіну!» — з карпатарыўным рыбацкім спачуваннем гаварыў пазней Сяргей свайму калегу з Мінска. Ды Фёдар Міхайлавіч яго заспакойваў: «Нічога, сёе-тое я падчапіў». І ківаў на свой нататнік, куды запісваў невядомыя яму слоўцы, прыказкі і прымаўкі, показкі. Адну з іх, якую тады расказаў дзядзька Антось, з часам я прачытаў — зразумела, у літаратурнай апрацоўцы Янкоўскага — у абразку «Цо то за лясэк»…

Годам пазней я пайшоў у апошні, дзясяты клас Ракаўскай СШ. Вершы мае даволі часта змяшчала радашкаўская раённая газета «Сцяг Ільіча», куды пасля заканчэння філфака БДУ адказным сакратаром прыехаў працаваць Адам Мальдзіс. Падчас аднаго з пасяджэнняў раённага літаратурнага аб'яднання Мальдзіс параіў мне паступаць на беларускае аддзяленне філфака БДУ. Настаўнік жа матэматыкі М. У. Мяцельскі (свой жыццёвы і навуковы шлях ён закончыў доктарам навук, прафесарам БДУ) «ляпіў» з мяне матэматыка. За тое, каб я стаў матэматыкам, быў і дзядзька Антось, школьны настаўнік, а затым і выкладчык матэматыкі Гродзенскага педінстытута. Тым не менш дзядзька не стаў адразу рэзка пярэчыць парадзе Мальдзіса, а захацеў параіцца «з самім Янкоўскім». І вось у кастрычніку 1957 г. я прыхапіў з сабой усе апублікаваныя і яшчэ неапублікаваныя вершы, і мы адправіліся ў Мінск. Скрозь імглу часу прыгадваецца той чатырохпавярховы дом з невялікім палісаднікам на вуліцы Чырвонай, дзе жылі ў той час Фёдар Міхайлавіч і яго мілая, самаадданая сужаніца Серафіма Андрэеўна, доўгія прыступкі лесвічных пралётаў, маё — з хваляваннем, ажно перахоплівала дыханне, — чытанне вершаў і адказы на нейкія пытанні гаспадара кватэры… На мяккі запыт майго дзядзькі: «У хлопца добра матэматыка ідзе. Як ты глядзіш, Федзя, каб ён на матэматычны паступаў?» — Фёдар Міхайлавіч адрэагаваў адразу і даволі востра: «Хопіць для Рагойшаў і аднаго матэматыка. А вось хто Косцю заменіць?» Меўся на ўвазе яшчэ адзін родны брат майго бацькі, Кастусь, малады таленавіты паэт, былы настаўнік роднай мовы і літаратуры Пугачоўскай няпоўнай сярэдняй школы, якога ў канцы1940-х — пачатку 1950-х гг. перамалолі жорны сталінскіх рэпрэсій… Як вынік тае паездкі — захаваная ў мяне кніга «Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі» з дарчым надпісам: «З пажаданнем поспехаў і шчырасці ў працы на роднай ніве. В. Рагойшу — Ф. Янкоўскі. Мінск, 19/X — 57 года». Што да дзядзькі Антося, то з тае пары ён ані словам не абмовіўся пра матэматычны факультэт.

Сёння я добра разумею, чаму Янкоўскі падтрымаў маё жаданне працаваць «на роднай ніве», пажадаў «поспехаў і шчырасці» ў гэтай працы. Пазней у адным з абразкоў я вычытаў, што і ў яго таксама «хораша ішла матэматыка», што колішнія яго аднакласнікі нават дзівіліся, чаму ён не стаў матэматыкам. Ды ён рана зразумеў: матэматыкаў незаменных не бывае, а вось добрых беларусістаў і беларускіх пісьменнікаў замяніць няма каму… Толькі чаму Фёдар Міхайлавіч не схіляў мяне паступаць на філфак тагачаснага Мінскага педінстытута імя Максіма Горкага, дзе сам працаваў? Здаецца, маю адказ і на гэта пытанне. Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна быў тады адзіным універсітэтам у Беларусі, флагманам усёй вышэйшай школы БССР. Гэта бралася пад увагу, відаць, найперш, але не толькі гэта. На філфаку БДУ існавала пад кіраўніцтвам прафесара Міхася Рыгоравіча Ларчанкі (дарэчы, адначасова і тагачаснага дэкана філфака) кафедра беларускай літаратуры — найлепшая з аналагічных кафедраў ва ўсёй рэспубліцы. І далёка не кожнаму са студэнтаў, будучых літаратараў і літаратуразнаўцаў, магло выпасці шчасце трапіць пад крыло гэтай кафедры. А я меў усе падставы трапіць…

Праз пэўны час у адным са сваіх абразкоў Фёдар Янкоўскі напісаў пра Ларчанку і кафедру беларускай літаратуры БДУ наступнае: «Калі б Міхась Ларчанка не напісаў нават аднае кніжкі, не быў навуковым рэдактарам і аднае манаграфіі, ён усё адно заслужыў бы нашу ўдзячнасць... Міхась Ларчанка гадаваў і выхоўваў, ствараў і стварыў цэлы вялікі калектыў, дружны і працавіты, літаратараў-літаратуразнаўцаў, гісторыкаў літаратуры, крытыкаў, вучоных-педагогаў». І Фёдар Міхайлавіч прывёў даволі вялікі спіс прозвішчаў выкладчыкаў, якіх, пакуль быў загадчыкам, прытуліў на сваёй кафедры прафесар Ларчанка: С. Александровіч, Дз. Бугаёў, Н. Гілевіч, С. Гусак, В. Казлова, А. Лойка, І. Навуменка, У. Навумовіч, Р. Семашкевіч, Л. Тарасюк, К. Хромчанка, М. Яфімава... Трапіла ў гэты спіс і маё прозвішча.

Фёдар Янкоўскі — выдатны вучоны-лінгвіст, пра што неадвойчы пісалася і гаварылася. Але не толькі. У нас, на шчасце, было, ёсць і будзе нямала выдатных вучоных. Аднак да крыўднага мала было і ёсць мовазнаўцаў, якія б пафасам сваёй дзейнасці абралі не толькі даследаванне роднай мовы, але і шчыры, актыўны беларускі патрыятызм. Патрыятызм, які ў Янкоўскага-лінгвіста арганічна спалучаўся з абаронай беларускай мовы (а значыць — і ўсёй беларускай культуры) ад гвалтоўнай асіміляцыі, у выяўленні народных вытокаў мовы, ва ўзбагачэнні яе адметнага літаратурнага аблічча. Прычым, у абароне, выяўленні вытокаў і ўзбагачэнні мовы ўсімі мажлівымі, прыдатнымі для свайго часу сродкамі. Ад працягу



прыпыненага рэпрэсіямі 1930-х гг. збору і выдання народных прыказак, прымавак, фразеалагізмаў, дыялектызмаў, крылатых слоў і афарызмаў і да даволі позна распачатай уласнай пісьменніцкай працы, у якой народнае лексічнае і фразеалагічнае багацце заззяла ўсімі сваімі яскравымі фарбамі, значна ўзбагаціла скарбніцу літаратурнай мовы (маю на ўвазе некалькі кніг ягоных абразкоў). Пра адну з кніг — навукова-папулярны нарыс «Роднае слова» (1967), якім распачалася выдавецкая серыя «Бібліятэчка студэнта-філолага», — я надрукаваў водгук у газеце «Літаратура і мастацтва» (05.01.1968 г.), дзе паспрабаваў сказаць пра спалучэнне аднаго (сапраўднай навуковасці) і другога (сапраўднага патрыятызму) у творчасці Янкоўскага.

«У кожную сваю кнігу я закладваю бомбачку», — сказаў мне аднойчы Фёдар Міхайлавіч. Сапраўды, кожная яго кніга была «бомбачкай». Але — не супраць савецкага ладу ці ідэалогіі камунізму. Ён сам быў камуністам, змагаўся за гэты лад з фашыстамі, якія жывымі спалілі яго першую жонку і дачку. Наколькі я зразумеў яго падчас шматлікіх даверлівых гутарак, ён, як і колішнія нацыянал-камуністы кшталту У. Ігнатоўскага ці Цішкі Гартнага, да драбніц ведаючы народнае жыццё і псіхалогію беларусаў, катэгарычна не прымаў толькі паасобныя палітычныя «перакосы», «загібы» бальшавікоў: неабгрунтаваныя рэпрэсіі, неабачлівае змаганне з г. зв. «рэлігійным дурманам», «фанатызм класавай барацьбы, дзікасць контрбеларусізацыі» (словы У. Калесніка). Кожная яго кніга была своеасаблівай «бомбачкай» найперш супраць абрусіцеляў у час г. зв. «актыўнага зліцця нацый», «стварэння адзінага савецкага народа», калі М. Хрушчоў афіцыйна расхвальваў беларусаў за тое, што яны, быццам бы, «отказались от своего языка»… Праўда, як былы разведчык (у час вайны Янкоўскі камандаваў разведкай партызанскага атрада) ён дзейнічаў разважна, асцярожна, улічваў час і абставіны. Гучных узрываў ад тых «бомбачак» не было, ён заўсёды ўжываў «глушыцелі». Але моц выбуховай хвалі ад таго меншай не станавілася.

Абаронай роднага слова, беларушчыны ў той нялёгкі час Янкоўскі займаўся, несумненна, і падчас выкладчыцкай працы ў Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце, чытаючы студэнтам лекцыі, праводзячы практычныя заняткі. Пра што, зрэшты, могуць дакладна расказаць (часткова і расказалі ўжо) яго былыя выхаванцы. Я ж хачу згадаць яшчэ адну форму выхаду вучонага на прасторы грамадскай працы.

Чалавек мудры, прадбачлівы, тонкі дыпламат, Фёдар Міхайлавіч арганізаваў у Мінскім педінстытуце ў другой палове 1960-х гг. выключна папулярны клуб аматараў беларускай мовы, які назваў «Жывое слова». Сама назва клуба гучала выклікам тым, хто лёс беларускай мовы нітаваў з лёсам мёртвай латыні. Для іх клуб быў косткай у горле, пра яго закрыццё неаднойчы ўздымалася пытанне на парткаме інстытута, але зрабіць з клубам нічога не маглі: арганізатарам і шэфам яго быў чалавек выключнай рэпутацыі, да таго ж камуніст, былы партызанскі разведчык. Пасяджэнні клуба (неўзабаве яго ўзначаліў выкладчык кафедры беларускай мовы Андрэй Каляда) збіралі пад сваё крыло не толькі філолагаў і не толькі студэнтаў з педінстытута, але і з іншых мінскіх ВНУ. Прыгадаю адну з акцый клуба, што прайшла 7 студзеня 1967 г. і ў якой я ўдзельнічаў. Тады на сустрэчу са студэнтамі быў запрошаны Рыгор Шырма.

Гэта быў пярэдадзень 75-годдзя Рыгора Раманавіча (нарадзіўся ён 20.01.1892 г.) і якраз — дзень праваслаўных Каляд. У тыя атэістычна-камуністычныя часы Каляды афіцыйна не толькі не святкаваліся — забаранялася нават упамінаць «перажытак мінулага». А тут — сапраўднае свята. Свята сустрэчы з народным артыстам СССР, старшынёй праўлення Саюза кампазітараў БССР, сівагаловым саваофам беларускага адраджэння. І не толькі з ім. Фёдар Міхайлавіч у дзень Нараджэння Хрыстова дыпламатычна-прадбачліва запрасіў на сустрэчу са студэнтамі — будучымі настаўнікамі — і перспектыўных (на яго думку) маладых прадаўжальнікаў справы Шырмы: Арсеня Ліса (цяпер — доктар філалагічных навук, вядомы фалькларыст і пісьменнік), Янку Саламевіча (пазней — кандыдат філалагічных навук, знаны фалькларыст і энцыклапедыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа) і мяне (тады я, аспірант БДУ, якраз заканчваў працу над кандыдацкай дысертацыяй пра паэтыку М. Танка).

Натуральна, на сустрэчы тэма Каляд, якія ў народзе сімвалізуюць нараджэнне нечага новага, добрага, гучала ўвесь час. Хоць бы таму, што калядкі — адзін з цікавейшых жанраў беларускай народнай песеннай лірыкі. Зрэшты, з характарыстыкі калядак Шырма і пачаў сваё выступленне. Потым перайшоў да народных песень увогуле:

— Вышэй і прыгажэй за народную песню, калі гэта сапраўдная народная жамчужына, а не падробка пад яе, няма і быць нічога не можа! Песня — душа народа. Але не толькі. Песня творыць народ, збліжае людзей. Паглядзіце на прыбалтаў, на іх шматлюдныя святы песні. Тысячы людзей яднаюцца ў адным парыве — словамі роднай мовы, блізкай сэрцу мелодыяй. Усе яны становяцца як бы адной раднёй, якую не раз'яднаць, не пасварыць, не адолець. І ўсё гэта — дзякуючы песні. Таму мы павінны ўсімі сіламі і сродкамі захоўваць і ахоўваць яе.

Цёплыя словы Рыгор Раманавіч сказаў пра настаўнікаў, якія, нягледзячы ні на якія складанасці жыцця, перашкоды, «сеюць прыгожае, добрае, вечнае», «аддаюць свае сэрцы дзецям — будучыні радзімы». Нехта спытаў: «Што, на вашу думку, трэба зрабіць, каб не толькі захаваць, але і ўзняць на новы ўзровень родную культуру?» І пачулася ў адказ:

— Найперш — рыхтаваць адукаваныя, таленавітыя, працаздольныя кадры, дарэшты аддадзеныя гэтай культуры. Як рыхтуе іх у вашым інстытуце паважаны Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі. Менш трэба агульна разважаць пра неабходнасць уздыму асветы і культуры, у тым ліку і культуры роднага слова, а больш — дбаць пра належную падрыхтоўку прапагандыстаў роднай мовы, стваральнікаў нацыянальнай культуры.

Зерне Шырмавых слоў падала, канечне, не на камень. Я бачыў, як радасцю і ўпэўненасцю свяціліся вочы студэнтаў, якія слухалі Рыгора Раманавіча. А ён жа праўду сказанага выпакутаваў усім сваім нялёгкім жыццём, перажыўшы некалькі ўлад, сацыяльна-палітычных рэжымаў. Хораша свяціліся і вочы Фёдара Міхайлавіча. Спрацоўвала яшчэ адна яго «бомбачка», знішчаючы ў свядомасці маладых людзей парасткі няўпэўненасці, страху.

Такім я бачыў Фёдара Янкоўскага. Такім ён застаўся ў маёй памяці.

**Вячаслаў РАГОЙША**

# Амерыканская мара навыварат

Раман «Прыгожыя і праклятыя» амерыканскага пісьменніка Фрэнсіса Скота Фіцджэральда нельга назваць добра вядомым айчыннаму чытачу. Магчыма, уся справа ў рускамоўным перакладзе, які ўпершыню пабачыў свет у «Выдавецкім Доме Мешчаракова» толькі ў 2008 годзе. Сама ж кніга, хоць яе і не называюць у шэрагу самых яркіх у творчай спадчыне Фіцджэральда, правальным праектам таксама не была. Яна выйшла па частках у 1921 годзе ў часопісе *Metropolitan*, а ў 1922 годзе пабачыла свет асобным выданнем. Першы тыраж склаў 20 тысяч асобнікаў і разышоўся досыць хутка, тым самым гарантаваўшы аўтару дадатковы наклад — ужо 50 тысяч копій. Але, думаецца, не варта засмучацца, што раман «прыйшоў» да нас так позна, пабачыўшы свет пры падтрымцы ААТ «Харвест» (адметна, што цяпер вядзецца гаворка пра новы варыянт перакладу, адрозны ад таго, што выйшаў у 2008 годзе). Мы ўсё ж маем магчымасць пазнаёміцца з другой па ліку кнігай Фіцджэральда, а магчыма, і даведацца пра асобныя моманты гісторыі шлюбу самога пісьменніка з яго жонкай Зэльдай. Даследчыкі сцвярджаюць, што раман можна лічыць у некаторай ступені аўтабіяграфічным. Магчыма, праўнікліва чытач зразумее, дзе праўдзіва паказаныя абставіны жыцця аўтара, а дзе выдумка.

Фота з сайта myliteraryquest.wordpress.com



Фрэнсіс Скот Фіцджэральд.




## … І «ШЭРЫ ДОМІК» У ПРЫГАРАДЗЕ

Прыхільнікі амерыканскага кіно і літаратуры, дзе распавядаецца пра падзеі ў ЗША пачатку XX ст., напэўна, добра знаёмыя з такім паняццем, як «амерыканская мара». І Джэк Лондан, і Тэадор Драйзер, і нават сам Фіцджэральд (але крыху пазней) прысвяцілі свае бліскучыя раманы гэтай тэме. Калі шмат працаваць, мала спаць, не шкадаваць уласных сіл, то ёсць шанц зарабіць сабе на прыстойнае жыццё і «выбіцца ў людзі». Прыкладна так можна сфармуляваць сутнасць гэтай усеагульнай «мары». Амерыка, новая краіна з моцнай эканомікай, сапраўды дае і давала ў той час чалавеку такія магчымасці (здзейсніць «мару» немагчыма было хіба толькі ў час Вялікай Дэпрэсіі 1930-х гадоў). Таму маладыя людзі імкнуцца атрымаць добрую адукацыю, каб працягваць справу бацькоў ці больш выгадна «прадаць сябе» на рынку працы: атрымаць лепшую пасаду і большы заробак, быць здольнымі канкурыраваць з мноствам прэтэндэнтаў.

Але… Такі настрой зусім не характэрны для галоўнага героя рамана Фіцджэральда «Прыгожыя і праклятыя» Энтані Пэтча. Гэты малады чалавек — з багатай і паважанай сям’і. Аўтарытэт і вялікія грошы калісьці зарабіў яго дзядуля. Здзейсніўшы сваю «мару», стары Пэтч і цяпер з’яўляецца ўзорам дасягнення мэты для цэлага пакалення амерыканцаў, апроч… уласнага ўнука. Энтані расце разумным хлопчыкам, шмат чытае, заканчвае Гарвард, як вядзецца, падарожнічае па Еўропе, а па вяртанні на радзіму пераязджае з прыгарада, дзе жыве дзед, у Нью-Ёрк, здымае кватэру і пачынае самастойнае жыццё. Не, ён не ўладкоўваецца на працу, не піша кнігу, не пачынае ўласную справу, як гэта робяць яго сябры і аднакурснікі. Ён паціху траціць грошы, што яму засталіся ў спадчыну пасля смерці маці, весела бавіць час з сябрамі і… марыць. Пра часы, калі дзядуля памрэ, сам Энтані атрымае ад яго вялікую спадчыну і стане сапраўды багатым.

Праз некаторы час Энтані ажэніцца з Глорыяй, вельмі прыгожай маладой жанчынай, якая, аднак, таксама не будзе здольная натхняць мужа на цалкам самастойнае жыццё. Яны разам пачнуць траціць яшчэ больш грошай з асноўнага капіталу, завядуць плойму сяброў, ну і, натуральна, будуць марыць пра часы, калі для іх пачнецца сапраўдны рай, — пасля смерці дзеда Энтані. Паступова долар будзе абясцэньвацца, выдаткі — расці, начныя пагулянкі стануць даўжэйшымі і больш затратнымі для маладой сям’і. Энтані паспрабуе ўладкавацца на працу, але пратрымаецца там усяго некалькі дзён, напіша толькі адзін сапраўды добры нарыс, пойдзе на вайну і дэмабілізуецца з войска, завядзе маладую палюбоўніцу, пакіне яе і зноў стане верным і адносна добрым мужам. Глорыя ж з нарцысічнай зацятасцю будзе захапляцца ўласнай прыгажосцю, зачароўваць мужчын, планаваць кар’еру ў кіно. І толькі амаль у 29 гадоў яна пойдзе на першыя пробы, дзе яе планам будзе наканавана цалкам разбіцца аб скалы ўзросту, адсутнасці таленту і нежадання працаваць.

І — адна вельмі важная дэталь: праз колькі год, калі дзядуля Энтані, прыхільнік рэформаў і ўвядзення «сухога закону», памрэ і праз разгульнае жыццё ўнука не пакіне яму ў спадчыну ні цэнта, маладая пара ўсё роўна будзе… марыць пра грошы, стараючыся аспрэчыць апошняе рашэнне старога Пэтча ў судзе і выплачваючы велізарныя ганарары адвакату. Так юнацкая дэкадэнтшчына ператворыцца ў поўны заняпад сям’і Пэтчаў.

Магчыма, праблема хаваецца ў асаблівасцях натуры Энтані, у тым, што ён, як піша Фіцджэральд, «рэдка прымаў рашэнні, а калі падобнае ўсё ж здаралася, гэта былі блізкія да істэрычнасці парывы ў стане панікі». А можа, маладыя людзі адпачатку выбралі для сябе няправільную мэту і мару жыцця. Замест яркага зялёнага агеньчыка (менавіта яго Гэтсбі, герой адной з самых паспяховых кніг Фіцджэральда, будзе атаясамліваць з марай) яны бачылі… шэры дамок у прыгарадзе — «Так-так! Менавіта шэры дамок, а вакол — усё белае, і многа-многа клёнаў, карычневых і залацістых…»

## НЬЮ-ЁРК — ДЭКАРАЦЫЯ І ПЕРСАНАЖ

Але давайце адцягнемся ад сюжэта, пакінем маладых Пэтчаў з іх фінансавымі цяжкасцямі ў спакоі і крыху пашпацыруем па вуліцах Нью-Ёрка 1910-х гадоў. Цэнтральны парк, 5-я Авеню, атэль «Рытц», Брадвей у яркіх фарбах малююцца Фіцджэральдам на старонках рамана «Прыгожыя і праклятыя». Нават падаецца, што гэты горад тут не проста выконвае ролю дэкарацый, аўтар не толькі ўмоўна пазначае месца, дзе адбываюцца падзеі, а робіць Нью-Ёрк адным з персанажаў. Як піша Фіцджэральд, гэта «горад раскошы і таямніцы, бессэнсоўных надзей і мудрагелістых жаданняў». Ён паўстае на старонках кнігі ў розных касцюмах, паказвае чытачу розныя рысы свайго характару, і, як сапраўдная дзеючая асоба, зусім па-рознаму ўспрымаецца аўтарам і кожным з галоўных герояў кнігі.

«Міма з ціхім шоргатам праязджалі таксі, чуўся незмаўкальны смех, хрыплы, як карканне варон, зліваючыся з гулам падземкі. І над усім гэтым панаваў кругаварот агнёў, якія то станавіліся ярчэйшымі, то гаслі, разлятаючыся жамчужным россыпам, утвараючы бліскучыя кругі і палосы, складаючыся ў выродлівыя гратэскныя фігуры, што пакрывалі неба гратэскнай разьбой», — такім Нью-Ёрк нам паказвае аўтар.

Фота з сайта www.vintag.es




5-я Авеню ў Нью-Ёрку, 1913 год. На такім аўтобусе здзяйснялі прагулку па вуліцах горада закаханыя Энтані і Глорыя.

Адной з самых прыгожых і рамантычных сцэн кнігі я назвала б прагулку Энтані і Глорыі па горадзе на аўтобусе, які «гіганцкай платформай узвышаўся над натоўпам». Яны ўжо вырашылі ажаніцца, проста селі ў аўтобус і едуць без усялякай мэты, атрымліваючы асалоду ад суменснага баўлення часу і сузірання навакольных краявідаў. Для Энтані Нью-Ёрк — гэта амаль родны дом. Але тым не менш, ён досыць скептычна ставіцца да горада: «Мне горад падаецца танным фігляром. Увесь час пыжыцца, імкнучыся адпавядаць уражлівай свецкасці, якую прыпісваюць жыццю вялікіх гарадоў. Са скуры вылузваецца, удаючы гэткі рамантычны сталічны бляск».

Але так ён кажа сваёй каханай. Насамрэч Энтані, натура досыць адчувальная, чуе зусім іншы голас Нью-Ёрка: «З глыбіняў ночы ў пакой з высокімі сценамі ішоў настойлівы, раствораны ў паветры шум, нібыта горад, як дзіця, якое гуляе, падкідвае ўверх і зноў ловіць мяч. У Гарлеме, Бронксе, Гамерсі-парку, у раёне порта ў цесных гасцёўнях і на пасыпаных жвірам залітых святлом месяца дахах гэты гук утваралі тысячы закаханых, выплёскваючы яго часцінкі ў паветра. У сінім змроку ўвесь горад гуляў з гэтым гукам, падкідваючы яго ўверх і клічучы назад, абяцаючы, што зусім хутка жыццё стане цудоўным, як чароўная казка, абяцаючы шчасце і ўжо даючы яго гэтым абяцаннем. Сваёй доўгачасовасцю гук дарыў надзею на каханне. Ці можна зрабіць больш?..»

## РАМАН І СЦЭНАРЫЙ

Дзіўна, але дагэтуль выйшла толькі адна экранізацыя кнігі Фіцджэральда «Прыгожыя і праклятыя». Нямая стужка рэжысёра Уільяма Сэйтэра з’явілася амаль адразу пасля публікацыі кнігі, у 1922 годзе. Чаму дзіўна? Ды таму, што сам раман па сваёй арганізацыі, стратэгіях развіцця сюжэта ў многім нагадвае сцэнарый фільма. Пісьменнік тут нібыта выступае і ў ролі рэжысёра. Вось аўтар па рэпліках распісвае ключавыя гутаркі, ператвараючы прозу ў драму, а рэакцыі герояў і іх манеры паводзін пазначаючы толькі рэмаркамі. Вось ён нібыта буйным планам паказвае героя: звяртае ўвагу на яго пачуцці, засяроджваецца на перажываннях, дае ім магчымасць досыць доўга выказвацца ў маналогу. Вось ён прыпыняецца на пэўным эпізодзе, нібыта карыстаючыся прыёмам *slow motion* (запавольвання руху), узнаўляе ўсе дэталі ці, наадварот, пасля пэўнай главы піша: «Прайшло паўгода» — і пераносіць герояў у зусім іншую абстаноўку. Фіцджэральд смела манціруе кадры, дэманструючы чытачу важныя кавалкі жыцця персанажа, ці «адмотвае» стужку часу назад, прадстаўляючы падзеі, якія адбываліся паралельна з асноўным сюжэтам.

У гэтым рамане Фіцджэральд карыстаецца і прыёмам адасаблення ад асноўнага сюжэта, мыслення ў галіне «чыстых паняццяў», такіх, як, да прыкладу, Прыгажосць. Яна, кіруемая невядомым Голасам, пасля своеасаблівага настаўлення ўвасабляецца на зямлі ў вобразе Глорыі. Пазней, прыкладна праз 60 гадоў, менавіта на аснове гэтай стратэгіі англійскі пісьменнік-постмадэрніст Джон Фаўлз створыць свой вядомы раман «Мантыса».

Адметна, што і сам раман «Прыгожыя і праклятыя» досыць кінематаграфічны — з пункту гледжання яркасці дэкарацый і разнастайнасці паваротаў сюжэта. Каханне, грошы, вайна, жыццё маладых людзей «пакалення джаза», шыкоўныя інтэр’еры атэляў, новыя аўтамабілі, прыгожыя жанчыны, развіццё кінематографа, нарэшце, вуліцы Нью-Ёрка… Пагадзіцеся, адразу вымалёўваецца надзвычай шырокая патэнцыяльная аўдыторыя такога кіно. Магчыма, пасля гучнага вяртання на паліцы чытачоў рамана «Вялікі Гэтсбі» Фрэнсіса Скота Фіцджэральда і з’яўлення яго новай экранізацыі, пільная ўвага (у тым ліку і рэжысёрская) будзе звернута і на кнігу «Прыгожыя і праклятыя». Кнігу пра каханне, Нью-Ёрк, мары і расчараванні, кнігу пра жыццё амерыканскай моладзі пачатку XX ст.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Графічны знак памяці



Экслібрыс Валерыя Славука.

**Школа сучаснага беларускага экслібрыса, калі гаварыць пра апошнія два-тры дзесяцігоддзі, уражвае. Мікола Селяшчук, Арлен Кашкурэвіч, Юрый Якавенка, Генадзь Вяль, Раман Сустаў… Свой пошук вялі і вядуць прыроджаныя майстры кніжнай графікі, таленавітыя, дзеяздольныя празорліўцы магчымасцей, усе шматабсяжнай палітры мініяцюрнага выкладання Сусвету.**

Часам кніжныя знакі выяўляюць праз сябе такое велізарнае і фундаментальнае бачанне мастакамі навакольнай прасторы, што дзіву даешся! Несападзеў думаеш, як жа гэта ўдалося зрабіць на невялікай і не такой, здавалася б, усямернай «дзялянцы». Ды, відавочна, уся справа ў таленце, у здольнасцях аўтараў агледзець навакольнае жыццё, адчуць душы персанажаў, асэнсаваць кніжныя зацікаўленні тых, для каго робіцца экслібрыс.

Мікола Рыжы — з экслібрысістаў, якія развіваюць свой талент першнаперш у выразнай нацыянальнай прасторы кніжнай графікі. І справа зусім не ў адсутнасці фантазіі альбо адсутнасці ведання сусветнага досведу. Экслібрыс Міколы Рыжага натуральна дыхае роднымі кветкамі, беларускімі краявідамі, шматколернасцю нашай прыроды, настроямі беларускай душы. Глядзіш на кніжныя знакі таленавітага майстра — і адкрываеш для сябе і гратэск, і жарт. Камічнае часам вылучае эстэтычныя і этычныя прынцыпы, якія ідуць ад аўтарскага волевыяўлення.

У экслібрысах Міколы шмат дзеяння. Мастак не баіцца складаных кампазіцый. Відавочна, спрацоўвае вопыт, атрыманы і ў рабоце над паштовымі мініяцюрамі. Мікола Рыжы — знаны філатэлістычны графік. Паштовыя маркі, канверты, выкананыя ім, надоўга застаюцца ў памяці.

Досвед мастака з Барысава, якога сёння ведаюць далёка за межамі Беларусі, уражвае. Аўтар кніжных знакаў, здаецца, прачытвае лёсы сваіх герояў, тых кніжнікаў, якія замовілі яму экслібрысы, унікліва сягае ў іх зацікаўленні па зборы бібліятэк. Відаць гэта і па работах, прысвечаных кнігазборам агранома А. Зінкевіча, мастацтвазнаўца М. Раманюка, доктара П. Шыбекі, майстра-друкара Анатоля Крывенкі, калекцыянера Ю. Арго і інш. Цеплыня, мілосць энергетычна вылучаюцца з экслібрысаў, зробленых Міколам Рыжым для сваіх калег — сучасных беларускіх мастакоў. Мне падаецца, што гэта не проста сяброўскія жэсты, а выключна сур'ёзнае пранікненне ў свет мыслення яркіх, вядомых не толькі ў нашай краіне творцаў.




Некаторыя экслібрысы, відавочна, зроблены на памежжы зацікаўленняў Міколы Рыжага супольнай беларуска-літоўскай гісторыяй. Гэтаму спрыялі і самі замовы. Бо кніжныя знакі выканаresны для гісторыка Антанаса Гірчыса, мастака Альфонса Чапаўскаса з Вільнюса. Дарэчы, адрасатамі работ Міколы Рыжага з'яўляюцца кніжнікі і грамадскія кніжныя зборы Масквы, Кіева, Львова, Чыкага. І гэтая акалічнасць накладвае на работу беларускага майстра пэўныя характэрныя рысы.

Знаёмства з кніжнымі знакамі таленавітага барысаўскага мастака ў чарговы раз нагадвае пра пытанне ўвагі беларускіх выдавецтваў да тыражавання рэпрадукцый беларускага экслібрыса. Несумненна, манаграфічнае даследаванне, проста альбом беларускага экслібрыса апошніх дзесяцігоддзяў маглі б стаць праявай увагі да кніжнай культуры ўвогуле. І чаму б не апекавацца гэтым клопатам якому-небудзь з дзяржаўных кніжных выдавецтваў? Руплівасць айчынных мастакоў на ніве экслібрыса гэтага вартая.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# З лёгкім перагарам!




Сезон адпачынкаў скончыўся, і цяпер многія да наступнага лета пра падарожжы могуць толькі марыць… Але не супрацоўнікі адной баранавіцкай арганізацыі, якія вырашылі, што вандраваць трэба часцей, чым раз на год, ды яшчэ і за службовы кошт — у Фінляндыю, Галандыю, Швецыю… Казка! Ну, а які ў гэтай цудоўнай гісторыі фінал, чытач даведаецца з рубрыкі «Іголкатэрапія» ў лістападаўскім нумары «Вожыка». Дарэчы, адпачываць з розумам варта і дома, інакш можна трапіць у такую ж сітуацыю, як герой аднаго з матэрыялаў рубрыкі «Навіны з МУС: матай на вус…». Хто б мог падумаць, што новае знаёмства на дыскатэцы будзе мінчаніну так дорага каштаваць! Так што чытайце «Вожык» і не паўтарайце чужых памылак!

Мастакі-карыкатурысты не стамляюцца выклікаць усмешкі чытачоў ды падымаць ім настрой. Так, у сваіх коміксах Аляксандр Каршакевіч заўважыў, што нават урача-неўрапатолага можна «давесці» (ён жа таксама чалавек!), Алег Гуцол расказаў «Казку нанач», добра знаёмую ўсім жанчынам, а Аляксандр Ціханаў пасмяяўся з няўдачлівага жартаўніка. Далучыліся да гэтай вясёлай кагорты Пётр Козіч, Алег Папоў, Аляксандр Булай, Мікола Гіргель, Уладзімір Чуглазаў і іншыя, стварыўшы цэлы калейдаскоп гумарыстычных малюнкаў на самыя розныя тэмы. Мастакі падгледзелі, як жывуць «Сямейныя людзі», выканалі «Канцэрт па заяўках», паказалі «Грымасы рынку» і прыдумалі некалькі новых рэкламных ролікаў. Дзякуючы аўтарскай назіральнасці і дасціпнасці чытач пазнаёміцца з сучасным метадам аблейвання вокнаў, даведаецца, што гэта за звер — катафот, які сродак ад галаўнога болю самы дзейсны, як выглядае найноўшы прадукт на рынку мыйных апаратаў і што прымусіла ката чытаць Дастаеўскага. Фотавернісаж Анатоля Клешчука пакажа, як бабуля дае майстар-клас гульні ў баскетбол і як бароняцца ад спёкі жанчыны «ў трэндзе». І гэта толькі частка сюжэтаў, якія абавязкова палепшаць ваш настрой!

Разбавіла гумарыстычную хвалю кропелькай лірыкі Наталля Кульгавая ў фельетоне «Гісторыя сям'і коткі Сняжынкі». Пазнаёміўшыся з маналогамі дзетак галоўнай гераіні — Ночкі, Філімона і Ірыскі, — чытач абавязкова паспрабуе па-новаму адказаць на пытанне, пастаўленае аўтарам напрыканцы фельетона: «*А што робіце вы, калі бачыце на вуліцы нас, бяздомных?..*»

Рубрыка «Кнігарня «Вожыка» прадстаўляе аматарам «гумару з кіслінкай» новую кнігу гумарыстычных мініяцюр Міхася Слівы «Клюква по знакомству». Сюжэты аўтара нібы напісаны з натуры, выкладзены лаканічна і даступна, заўсёды маюць нечаканую развязку. Чытач не-не ды ўбачыць у іх сябе ці кагосьці са знаёмых, шчыра ўсміхнецца, а часам і задумаецца: «*Пятровіч, у цябе такія вялікія вусы. Яны не перашкаджаюць табе есці ці піць?*» — «*Пачастуй — убачыш!*»; «*Як завуць новага Наташынага мужа?*» — «*Сяргей*». — «*Дык яна ж — аднолюбка! Гэта ўжо трэці муж і зноў — Сяргей!*» Спадабалася? Яшчэ больш мініяцюр — у нашым часопісе і, вядома ж, у кнізе!

Паглядзеўшы на жыццё «Пад вуглом 40°», «Вожык» зразумеў, што многіх пасля наведання лазні трэба віншаваць «З лёгкім перагарам». Відаць, менавіта такія аматары «гарачых напояў» пасля прыходзяць да ўрачоў з вельмі нестандартнымі скаргамі, якія запісаў Віктар Лоўтач: «*Не чую бакавым вухам*», «*Храпу толькі, калі сплю*», «*Ногі сталі ў бакі разбягацца*» і інш. Нашы аўтары шчодра дзеляцца і іншымі гумарыстычнымі назіраннямі, напрыклад, пра тое, што злы сабака прападае разам з хлявом, да якога ён прывязаны (Павел Саковіч), а ў пагоні за грашыма не варта перавышаць хуткасць (Барыс Кавалерчык). Упэўнена, што вам ужо карціць пагартаць новы нумар. То спяшайцеся!

**Вераніка МАНДЗІК**

# Кніга лёсаў

**Людміла Рублеўская вядомая не толькі як празаік і паэтэса, але і як публіцыст, які старанна, метадычна (я б нават сказала, утрапёна) вяртае з небыцця забытыя імёны, імёны расстраляныя. А калі і не вяртае, то бок, калі імёны гэтыя і былі вядомыя, яна надае ім жывы выгляд: «малюе» партрэт чалавека, а не копію яго забранзавелай постаці.**

Шэраг такіх партрэтаў сабраны ў кнізе «Рифма ценою в жизнь», якая пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». Мова кнігі руская, бо артыкулы, што склалі яе змест, друкаваліся раней у газеце «СБ. Беларусь сегодня», дзе і працуе Людміла Рублеўская.

Прэзентацыя кнігі адбылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі імя Якуба Коласа. Чаму менавіта ў Доме Коласа? Як патлумачыла дырэктар музея Зінаіда Камароўская, у выданні змешчаныя артыкулы пра людзей, што былі вельмі блізкія Коласу, напрыклад, пра Янку Маўра.

Алесь Бадак слушна заўважыў, што кніга «Рифма ценою в жизнь» — незаменная ў жыцці школьніка. «У ёй так цікава напісана пра беларускіх пісьменнікаў, што хочацца альбо ўзяць з паліцы кнігу таго ці іншага і перачытаць, або, калі ты яшчэ не знаёмы з творчасцю гэтага пісьменніка, хутчэй з ёю пазнаёміцца». Сапраўды, эсэ Людмілы Рублеўскай не толькі лёгка чытаюцца. Яны надзвычай карысныя.


*Фота Уладзіміра Сіза*

Яны самі па сабе нагадваюць вельмі сціслы раман, зазвычай — прыгодніцкі і, на жаль, драматычны. Пісьменніца сама не раз адзначала, што многія постаці заслугоўваюць асобнага рамана. Але тое, напэўна, спраўдзіцца пазней, у наступных літаратурных пакаленнях. А пакуль трэба насычацца фактамі, якіх поўна ў кнізе «Рифма ценою в жизнь».

І было б проста цудоўна, калі б разам з (што тут паробіш) сухаватым падручнікам па беларускай літаратуры школьнікам выдавалі падобныя зборнікі белетрызаваных біяграфій.

— Артыкулы пісаліся гадоў восем, — распавядае Людміла Рублеўская. — І для мяне вельмі важна, каб такія артыкулы з'яўляліся, менавіта таму, што знаёмства з гэтымі імёнамі дазваляе па-іншаму зірнуць на ўсю нашую гісторыю. Вядома, я карысталася навуковымі напрацоўкамі, так што гэта не навуковая праца, але папулярызатарская. І буду проста шчаслівая, калі мае эсэ стануць для каго-небудзь падставай для ўласных росшукаў. Ахоп асоб тут вялікі — пачынаючы ад XVI стагоддзя, беларускага паэта Андрэя Рымшы, які пісаў на лацініцы пра паходы Радзівілаў, і заканчваючы Яўгеніяй Янішчыц, з якой я была знаёмая асабіста. Калі мы не будзем памятаць тых, хто жыў раней, то хто будзе памятаць нас?.. І мяне перш за ўсё цікавяць лёсы літаратараў расстралянага пакалення, чые імёны выкрэсліваліся з падручнікаў і чыя творчасць доўгі час дасюль малавядомая: Шукайла, Пушча, Дубоўка… Некаторыя з іх выжывалі, вярталіся ў Беларусь — і вярталіся да творчасці. Але што б яны маглі стварыць, калі б лёс іх склаўся інакш, — застанецца пытаннем.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Пра дабрыню — дасціпна

Каб заслужыць давер маленькіх чытачоў, трэба быць з імі нароўні і валодаць такой жа шчырай і адкрытай душой. У гэтым упэўніліся члены Уздзенскага літаратурнага аб'яднання «Нёманец», падчас пасяджэння якога адбылася прэзентацыя кнігі Таццяны Цехнябедзінай «Таямнічы дамавічок».

Пісаць для дзяцей можа не кожны. «Іх не зацікавіш стракатапышнымі фразамі, надуманымі, далёкімі ад жыцця героямі, ласкальна-памяншальным панібрацтвам…», — адзначыў у рэцэнзіі да новай кнігі члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Таццяны Цехнябедзінай галоўны рэдактар уздзенскай райгазеты «Чырвоная зорка», член СПБ Віктар Сабалеўскі.

«Таямнічы дамавічок» — зусім невялічкае выданне, усяго чатырнаццаць старонак, і чытаецца хутка і лёгка. У кнізе — тры павучальныя гісторыі і казка з філасофскім падтэкстам.

Спрытная, здагадлівая бабуля з «Таямнічага дамавічка» ведае, як уздзейнічаць на непаслухмяную ўнучку, — дасціпнай гульнёй! Казка «Чатыры сястры» сцвярджае тое, што кожны павінен рабіць сваю справу на славу. Тады і атрымаеш сапраўднае задавальненне.

Член літаратурнага аб'яднання Валянціна Шытыка зазначыла, што, дачытаўшы кнігу да канца, хочацца пазнаёміцца і з іншымі гісторыямі, створанымі пісьменніцай.

**Ліана ТАПАДЗЕ**

# Ціхая паэзія пейзажаў

Жывапіс — гэта паэзія, якую бачаць. Паэзія — гэта жывапіс, які чуюць.

**Леанарда да Вінчы**



Фота Кастуся Дробава

*Падчас адкрыцця выстаўкі.*

Выстаўка жывапісу і графікі «Мастак. Рэаліст. Рамантык», прысвечаная 90-годдзю заслужанага работніка культуры Беларусі Аляксандра Казлоўскага, адкрылася ў Мінскай гарадской ратушы. У экспазіцыі прадстаўлена каля 30 работ мастака з прыватных калекцый — жывапісныя палотны і графічныя малюнкі. Экспануемыя работы складана аб'яднаць агульнай тэмай. Мастак працаваў у розных жанрах і тэхніках, а храналогія выстаўкі дазваляе прасачыць сур'ёзныя стылявыя адрозненні, што адбываліся з цягам часу ў творчасці майстра. Адзінае, што яднае паміж сабой усе работы аўтара, — гэта натуральная рэалістычная атмасфера.

Вядомы беларускі жывапісец нарадзіўся ў 1923 годзе ў вёсцы Вялікія Труханавічы Віцебскай вобласці. Праз некаторы час сям'я пераехала на сталае месца жыхарства ў Ленінград. Маленькаму Аляксандру было чатыры гады, калі яму ўпершыню купілі каляровыя алоўкі. Дар малявання выявіўся адразу. У школе яго талент заўважыла настаўніца малявання. Па яе рэкамендацыі юнак паступіў у школу выяўленчага мастацтва пры Доме піянераў, дзе пазнаёміўся з асновамі малюнка.

У 1938 годзе ад сухотаў памёр бацька. Гэта прымусіла Аляксандра пайсці вучыцца ў школу мастацкай апрацоўкі будынкаў на аддзяленне штучнага мармуру. Вучоба, зусім не звязаная з мастацтвам, не натхняла юнака, і ён паступіў у сярэднюю школу пры Усерасійскай акадэміі мастацтваў. Затым была армія. Аляксандр добраахвотна пайшоў у лыжны полк. Падчас вайны быў паранены, пасля лячэння ўдзельнічаў у баях на Ленінградскім і Прыбалтыйскім франтах. Дэмабілізаваўся ў 1947 годзе, вярнуўся ў Ленінград і працягваў вучобу. У 1950 годзе быў прыняты на першы курс жывапіснага факультэта Мастацкага інстытута жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Я. Рэпіна.

Хлопцу пашчасціла, бо яго педагогам быў лаўрэат дзяржаўнай прэміі В. Сакалоў, вучань П. Іагансона. Пасля трох курсаў вучобы юнага мастака заўважылі і прынялі ў майстэрню лаўрэата дзяржаўнай прэміі СССР М. Авілава (затым — Ю. Непрынцава). У 1956 годзе Аляксандр Казлоўскі на «выдатна» абараніў дыпломную работу — карціну «На працу ў вёску». Ужо ў гэтым палатне многія адзначылі талент маладога мастака да кампазіцыйнай завершанасці, каларыстычнай цэласнасці, псіхалагічнай распрацоўкі вобразаў.

Пасля заканчэння Мастацкага інстытута Аляксандр Сцяпанавіч разам з сям'ёй пераехаў у Мінск, працаваў у мастацкіх майстэрнях. Акрамя таго, з 1956 года ён выкладаў малюнак і жывапіс на старэйшых курсах Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Заняткі праходзілі ў майстэрнях В. Волкава і В. Цвіркі.



*«Дождж у Венецыі», 2007 г.*

Разам са студэнтамі мастак актыўна выязджаў на пленэры, дзе з задавальненнем пісаў пейзажы. Самымі значнымі з іх Аляксандр Казлоўскі заўсёды лічыў карціны «Бетонны завод Васілевіцкай ГРЭС», «Нёман. Вечар», «Стары мосцік», «Сонечны дзень», у якіх яшчэ было заўважна жаданне максімальна аб'ектыўна адлюстраваць рэчаіснасць. Гэта быў час роздуму. Мастаку хацелася пісаць толькі бачанае, у той час як яго калегі шукалі штосьці новае. У некаторых карцінах прасочваецца ўплыў рускіх майстроў пейзажнага жывапісу: В. Паленава, І. Левітана. Аляксандра Казлоўскага цікавіла жыццё беларускай сталіцы, старыя кварталы горада, прырода ваколіц Мінска. Ён перадаваў на палотны ціхую паэзію і прыгажосць мясцін, звязаных са штодзённымі клопатамі чалавека, дабіваўся свежасці і натуральнасці, дадаючы карціне жывую непасрэднасць.

Мастак актыўна ўдзельнічаў у выстаўках, яго творы друкавалі на старонках газет, часопісаў «Огонёк», «Юность», «Беларусь» і інш. Аляксандр Казлоўскі актыўна пісаў артыкулы па праблемах мастацтва выступаў з лекцыямі ў Мінску, Магілёве, Быхаве, Віцебску. Лекцыю на тэму «Імпрэсіянізм» Аляксандр Сцяпанавіч прапанаваў работнікам пасольстваў і супрацоўнікам ЮНЕСКА ў Парыжы.

Менавіта паездка ў 1960 годзе за мяжу і знаёмства з еўрапейскай культурай выразна адбіліся на далейшай творчасці беларускага мастака. Больш як за тры месяцы ён наведаў каля 60 музеяў: Луўр, Музей імпрэсіяністаў, Музей Радэна, Музей сучаснага мастацтва і інш. А. Казлоўскі пазнаёміўся з творамі старажытнага і класічнага мастацтва Італіі, Францыі, а таксама з сучаснымі яму тэндэнцыямі і кірункамі. У Парыжы мастак пабываў у майстэрнях Монікі Матэ, Рамона Амбера, Луі Гранмезона, на выстаўцы ў Ніцы сустрэўся з Маркам Шагалам. Акрамя таго, Аляксандр Казлоўскі пазнаёміўся з удавой слыннага французскага мастака Фернана Лежэ — Надзеяй Лежэ, якая падрыхтавала выстаўку работ для СССР. Істотным з'яўляецца той факт, што пры сустрэчах з замежнымі творцамі Аляксандр Сцяпанавіч знаёміў іх з савецкім выяўленчым мастацтвам.

Пасля камандзіроўкі ў Францыю і Італію творца па-новаму пачаў успрымаць жывапіс. Ён прыйшоў да высновы, што піша дробна, без пабудовы гамы, і пачаў шукаць яе менавіта ў натуры. Аляксандр Казлоўскі з натхненнем занатоўваў на сваіх палотнах цэнтральныя вуліцы і рабочыя кварталы Парыжа:



*«На працу ў вёску», 1956 г.*

«Парыж — вуліца», «Від на Нотр Дам», «Рабочы раён Парыжа». Імкнуўся захаваць у памяці найпрыгажэйшыя куточкі Венецыі: «Від на набярэжную дэ Грэнэль», «Дождж у Венецыі», «Лодкі ў затоне», «Венецыя. Від на Лідо», «Ранак у Венецыі» і інш. Гэтыя работы адрозніваюцца яркімі, смелымі фарбамі, экспрэсіўнасцю вобразаў і майстэрствам у перадачы атмасферы еўрапейскага горада.

У 1970-я гады жыццёвы досвед і назіральнасць творцы абумовілі новыя адносіны да навакольнага свету, прыроды. Мастак стварае больш складаныя па кампазіцыі пейзажы-карціны з абгрунтаваным агульным жывапісна-пластычным вырашэннем: прасякнутая светлай журбою кампазіцыя «Блакітная песня», «Красавіцкі вечар», «Зімовы вечар». Перадача жыццёвых сітуацый, умелае абагульненне ўбачанага адлюстраваны ў карцінах «Апошні аўтобус», «Субота». «Думка пра Радзіму» — філасофскі роздум пра выпрабаванні, якія выпалі на долю Беларусі, пра яе сённяшні і заўтрашні дзень. Як майстар тонкай колеравай гармоніі фарбаў Аляксандр Казлоўскі выявіў сябе ў нацюрмортах «Шклянка соку», «Нацюрморт з кафейнікам», «Жнівень», «Нацюрморт з яблыкамі», «Кветкі для Ірыны» і інш.

Аляксандр Сцяпанавіч не па кнігах зведаў жахі вайны, таму яго зварот да ваеннай тэматыкі заканамерны. Да кожнай выстаўкі, прысвечанай вызваленню Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, мастак ствараў новыя сюжэтна-тэматычныя палотны ў так званым суровым стылі (а па-іншаму і не магло быць!). Перыядычна ён рабіў кампазіцыйныя накіды, а калі пачынаў працаваць над творам, эскізы тэматычна змяняў. Так было, напрыклад, з палатном «Мужнасць», на якім творца адлюстраваў Зою Касмадзям'янскую — дзяўчынусімвал гераізму ў Вялікай Айчыннай вайне. Без залішняга пафасу і драматызацыі А. Казлоўскі перадаваў памяць пра вайну праз карціны «Вяртанне з баявога задання», «Мужнасць», «Успамін», «Вестка пра Перамогу», «9 мая» і інш.

Аляксандр Казлоўскі заўсёды сцвярджаў, што нават самая лепшая рэпрадукцыя не данясе да гледача ўсхваляванасць пэндзля мастака, «духмянасць» твора, яго фактуру. Так, да паездкі ў Італію, як узгадваў сам мастак, ён па альбомах і кнігах ведаў творчасць Мікеланджэла, але ніводны малюнак яго не ўзрушыў. І толькі пасля наведання царквы Святога Пятра ў Рыме і дакладнага «вывучэння» ўжывую статуі Майсея зразумеў, што арыгінал і рэпрадукцыя — неба і зямля. Літаральна да мурашак па скуры ўзрушыла мастака і «Піета Ранданіні» ў Мілане. Прыводзячы гэтыя прыклады, Аляксандр Сцяпанавіч падкрэсліваў думку, што рэпрадукцыя хоць і дае магчымасць у нейкай ступені пазнаёміцца з творчасцю мастака, але ў той жа час яна хавае годнасць твора і, галоўнае, ставіць пад пагрозу глыбіню і інтэнсіўнасць эстэтычнага перажывання.

Адметны факт: Аляксандр Казлоўскі знакаміты не толькі як майстар пейзажнага жанру, свае пачуцці і ўражанні ад шматлікіх паездак ён выказваў і ў паэтычным слове.

*Паспорт «служебный»,*
*Визы за границу,*
*Лечу «каравеллой»*
*В европейскую даль.*
*Буду жить в Париже*
*И, конечно, в Ницце,*
*Где у самой дороги*
*Цветёт пахучий миндаль...*

Але прагу вяртання на Радзіму не спатоліць еўрапейская прырода. Гэта і паказваў беларускі мастак як у сваіх карцінах, так і ў вершах:

*Как у всех землян,*
*Есть радость и печали,*
*Но многое мне стало и ближе,*
*и милей.*
*Но если б можно было*
*Жизнь начать сначала,*
*Родиться я хотел бы всё же*
*На земле своей.*

**Галіна ФАТЫХАВА**

# Берасцейская асветніца

**Адметнай рысай сапраўднага беларускага вучонага з'яўляецца яго беларуская элітарнасць. У народзе, і найперш сярод інтэлігенцыі, жыве досыць стойкае ўяўленне пра эліту як адукаваных, духоўна і культурна выбітных асоб з высокімі патрыятычнымі ідэаламі. Сваім жыццём і нястомнай літаратурна-асветніцкай дзейнасцю годна ўвасабляе беларускую элітарнасць Вера Якаўлеўна Зарэцкая (Ляшук), якая адзначыла 80-гадовы юбілей.**

Прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі адукацыі Беларусі, заслужаны работнік вышэйшай школы, уладальніца медаля імя Францішка Скарыны, Вера Якаўлеўна была і застаецца гонарам Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна, дзе вучылася з 1954 па 1959 гг., а затым і працавала — больш як сорак год.

Ва ўніверсітэце яна стварыла адну з лепшых навукова-педагагічных школ, якая перамагала і працягвае перамагаць у конкурсах распрацоўкі падручнікаў па роднай літаратуры для агульнаадукацыйных устаноў Рэспублікі Беларусь. Пад кіраўніцтвам В. Зарэцкай былі створаны лепшыя за апошнія дзесяцігоддзі, па прызнанні настаўніцтва Беларусі, падручнікі па беларускай літаратуры для вучняў 5 — 11 класаў.

У 1987 годзе Міністэрства адукацыі заказала прафесару В. Зарэцкай і берасцейскаму навуковаму калектыву распрацаваць праграму па беларускай літаратуры для школы. Перыяд дэмакратызацыі акрыляў і натхняў, дазваляў ажыццявіць абноўленыя, гуманізаваныя падыходы да вывучэння моладдзю нацыянальнага слоўнага мастацтва. З 1990-х гадоў пачынаецца цікавая і напружаная праца В. Зарэцкай і яе аўтарскага калектыву. За чатыры гады брэсцкія навукоўцы пад кіраўніцтвам прафесара Веры Якаўлеўны забяспечылі ўсе школы Беларусі не толькі падручнікамі па беларускай літаратуры, але і метадычнымі дапаможнікамі для настаўнікаў, хрэстаматыямі і кнігамі для пазакласнага самастойнага чытання. Сапраўднае навукова-педагагічнае падзвіжніцтва.

Прафесар заўжды была пераканаmake, што патрыёт пачынаецца з любові да малой радзімы, з шанавання гістарычнай памяці і традыцый сваёй сям'і, зямлі, роду, з народазнаўчых ведаў. Да меркавання берасцейскай асветніцы далучыліся вучоныя, метадысты іншых ВНУ, прыслухаліся і кіраўнікі сістэмы адукацыі. Краязнаўчы кампанент заняў належнае месца ў сістэме падрыхтоўкі спецыялістаў-гуманітарыяў. Пры падтрымцы кіраўніцтва ўніверсітэта Вера Якаўлеўна адкрыла кафедру методыкі выкладання беларускай літаратуры і краязнаўства, распрацоўвала берасцейскае краязнаўства, захапляючы гэтай працай настаўнікаў і студэнтаў. У 1999 годзе прафесар Зарэцкая ў суаўтарстве з Галінай Снітко напісала першае ў гісторыі берасцейскага краю сапраўды фундаментальнае даследаванне «Літаратура Берасцейшчыны». Аўтаркі зрабілі навуковы агляд літаратурнага жыцця ў краі, ахапіўшы многія стагоддзі: ад згадак пра берасцейскую зямлю ў старых летапісах, ад фальклору і яго збіральнікаў, ад заходнебеларускага перыяду ў літаратуры краю да знакамітых літаратараў, якія нарадзіліся на Берасцейшчыне ці жылі тут, прозы, паэзіі, драматургіі сучасных пісьменнікаў рэгіёна.

Вера Якаўлеўна расла ў сялянскай сям'і Лешукоў, дзе шанаваліся народныя традыцыі, а бацькі і дочкі любілі спяваць народныя беларускія і ўкраінскія песні. Ад маці ляшчэ ў маленстве яна пачула і запомніла шмат вершаў рускіх паэтаў — Нікіціна, Сурыкава, Някрасава, Кальцова, украінскага «Кабзара» Шаўчэнкі. Па прызнанні В. Зарэцкай, беларускую і рускую чытанкі за ўсе класы амаль цалкам ведала на памяць, а настаўніцай захацела быць з першых дзён школьнага жыцця. Скончыла педвучылішча ў Брэсце, потым — педінстытут. Спачатку з вялікім натхненнем працавала ў Дамачаўскай дзесяцігодцы. Маладая настаўніца кіравала драматычным гуртком, ладзіла літаратурныя вечарыны, экскурсіі і паходы з вучнямі па родных мясцінах. Потым стала завучам у Тамашоўскім дзіцячым доме, выкладала мову і літаратуру ў Камароўскай сярэдняй школе Брэсцкага раёна, а затым на розных пасадах у Брэсцкім райкаме.



А ў 1963 годзе пачалася яе навукова-педагагічная дзейнасць у Брэсцкім педагагічным інстытуце. Тут Вера Якаўлеўна вырасла з маладой выкладчыцы да прафесара, шмат гадоў працуючы дэканам філалагічнага факультэта, загадчыкам кафедры. У маладой і ўдумлівай даследчыцы з'явіліся першыя навукова-метадычныя публікацыі, а затым — кнігі: спачатку ў суаўтарстве са старэйшай калегай Л. Смальянавай, а потым і самастойныя, якія вызначаліся наватарствам і разам з тым — грунтоўнасцю. Неўзабаве яна напісала і паспяхова абараніла кандыдацкую дысертацыю «Краязнаўчы матэрыял на ўроках літаратуры як сродак павышэння вучэбна-выхаваўчай эфектыўнасці ўрокаў літаратуры».

У другой палове 1960-х і ў 1970-я гады ў друку часта з'яўляліся наватарскія публікацыі В. Зарэцкай пра сувязь А. Блока, Э. Ажэшкі, роду Дастаеўскіх з Брэстчынай, пра арганізацыю літаратурных дыспутаў і канферэнцый, пра спецыфіку вывучэння загадак, прыказак на ўроках літаратуры.

Доўгі час даследчыца збірала па фрагментах матэрыялы, аднаўляла даты, падзеі, вывучала лёсы рупліўцаў-педагогаў перыяду нацыянальнага адраджэння і даваеннага часу, якія былі рэпрэсіраваны. Дзеля гэтага звярталася ў архівы Беларусі і Расіі. Так назапашваліся матэрыялы для кнігі «Вывучэнне беларускай літаратуры ў школе: гісторыка-метадычны нарыс».

Важным набыткам стала кніга «Методыка выкладання беларускай літаратуры», якая выйшла ў Мінску ў выдавецтве «Вышэйшая школа» ў 1986 годзе. Дапаможнік быў скіраваны на гуманізацыю працэсу літаратурнай адукацыі, а гэта якраз адпавядала патрабаванням тагачаснай школьнай рэформы.

Пазней з'яўляюцца дапаможнікі для студэнтаў, якіх яшчэ не было ў гісторыі беларускай вышэйшай школы: «Лабараторныя заняткі па методыцы выкладання беларускай літаратуры» (1988), «Літаратурнае краязнаўства ў школе» (1991). В. Зарэцкая пісала, што менавіта нацыянальная літаратура, нацыянальная духоўная і матэрыяльная спадчына — гэта галоўны шлях да самаўсведамлення асобы, яе вытокаў і будучыні, а значыць і да неўміручасці нацыі.

У 1990-я гады склалася навукова-педагагічная школа пад кіраўніцтвам прафесара Зарэцкай. Па заказе Мінадукацыі яна ўзначальвае працу па стварэнні новага, больш поўнага і грунтоўнага вучэбнага дапаможніка для вышэйшай школы «Методыка выкладання беларускай літаратуры» (1999). Суаўтарамі сталі калегі і вучні прафесара В. Я. Зарэцкай: Л. В. Асташонак, Г. С. Гарадко, Г. М. Ішчанка, А. А. Майсейчык, М. І. Мішчанчук, У. А. Сенькавец.

Клопатамі Веры Якаўлеўны было створана яшчэ вельмі шмат дапаможнікаў і падручнікаў, але істотна іншае: працы будуць заўсёды цікавыя і запатрабаваныя філалагамі розных узростаў і пакаленняў, бо на іх старонках аўтар удумліва абагульняе ўласны педагагічны досвед з праніклівым адчуваннем патрэб сучаснасці, новых адукацыйных тэхналогій і, што важна, з разуменнем інакшасці светаспасцікжэння новымі пакаленнямі вучнёўскай моладзі.

Сёння Вера Якаўлеўна ахвотна адгукаецца як літаратурны крытык на кнігі пісьменнікаў-землякоў Н. Мацяш, М. Рудкоўскага, З. Дудзюк, В. Гардзея, А. Каско, М. Купрэева, А. Паплаўскага і іншых.

Пра што б яна ні пісала, адчуваецца досвед мудрага педагога-даследчыка. А між радкамі — думкі і пачуцці асветніцы: любоў да людзей, да тых, хто вучыцца, і тых, хто вучыць іншых.

**Зоя МЕЛЬНІКАВА**



*Фота з сайта ihst.ru*

# Пуцявіны прафесара Замоціна

Сёлета споўнілася 140 год з дня нараджэння выдатнага вучонага Івана Замоціна, асобы неардынарнай, адметнай у гісторыі літаратуразнаўства і педагогікі. У 20-я гады мінулага стагоддзя І. Замоцін актыўна далучыўся да беларускага нацыянаWльнага адраджэння.

Нарадзіўся будучы даследчык у вёсцы Крывуліна Бежацкага раёна Цвярской губерні. У 1897 годзе Іван Замоцін закончыў аддзяленне гісторыі і славеснасці Санкт-Пецярбургскага гісторыка-філалагічнага інстытута. Працаваў выкладчыкам моў у гімназіях Варшавы і Пецярбурга, прыват-дацэнтам Варшаўскага і Пецярбургскага ўніверсітэтаў. З 1908 года — прафесар Варшаўскага, у 1917 — 1922 гадах — Данскога ўніверсітэтаў.

У 1922 годзе І. Замоціна запрасілі на пасаду прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. І вучоны з ахвотай згадзіўся пераехаць «у аднуўленую Беларусь для дружацкага супрацоўніцтва». Пачаў чытаць курс методыкі выкладання літаратуры.

У 1931 годзе Іван Іванавіч стаў прафесарам Мінскага педагагічнага інстытута. Адначасова працаваў у Інстытуце беларускай культуры, затым у АН БССР.

І. Замоцін дасканала вывучыў беларускую мову і літаратуру, заслужыў славу аднаго з вядучых вучоных Беларусі таго часу, выдатнага даследчыка творчасці Максіма Багдановіча, Якуба Коласа і іншых пісьменнікаў. Асаблівую ўвагу член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР, доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік Акадэміі навук БССР І. Замоцін надае творчасці Якуба Коласа, які сам быў вельмі ўдзячны даследчыку за глыбокі і грунтоўны аналіз.

І сапраўды, у 20-я гады, калі пачала браць верх вульгарызатарская крытыка, на старонках часопіса «Полымя» з'явіўся артыкул І. Замоціна пра Якуба Коласа. Гэты артыкул Уладзімір Конан у прадмове да кнігі «І. Замоцін. Творы» («Мастацкая літаратура», 1991) называе мікраманаграфіяй, дзе паэма «Новая зямля» разглядалася як магістральная «пуціна беларускай літаратуры». Парадокс у тым, што якраз не мясцовыя крытыкі, а рускі вучоны аказаўся «прарокам не ў сваёй айчыне», пранікліва заўважыў у Коласавай паэме этапны твор, мастацкае падсумаванне цэлай эпохі ў жыцці народа.

Як адзначае даследчык, неабходнасць даць сваім рэальнабытавым назіранням адпаведную форму вывела Якуба Коласа на пуціну мастацкага сінтэзу сродкаў жывой народнай гутаркі. Перш за ўсё яму трэба было знайсці для сваіх назіранняў адпаведны літаратурны жанр. Паказваючы народны побыт, ён рызыкаваў упасці як мінімум у тон сентыментальнага народніцтва. Аднак перамог гэтую небяспеку тым, што ўзяў для паэмы сюжэт без усялякіх эфектных эпізодаў, пераказаны роўным і спакойным тонам. У паэме адчуваецца амаль што эпічны спакой Калевалы.

З восені 1923 года, калі вучоны здаў у «Полымя» сваю першую працу на беларускай мове «Пуціны беларускай літаратуры (Якуб Колас. «Новая зямля»)», пачаўся новы этап у яго творчасці. Застаецца падзвіжніцтва, з якой прафесійнай кампетэнтнасцю гісторык рускай літаратуры «ўваходзіў» у свет новай для яго нацыянальнай літаратуры.

Увогуле, пяру вучонага належыць больш як 140 навуковых прац — артыкулаў, манаграфій, нарысаў, рэцэнзій, прысвечаных рускай і беларускай літаратуры. Спектр праблем, якія разглядаў вучоны, быў даволі шырокі. Да многіх з іх ён звярнуўся першым сярод беларускіх даследчыкаў і крытыкаў.

Многія думкі Замоціна знайшлі далейшае развіццё ў працах беларускіх літаратуразнаўцаў. Аднак гэта не азначае, што ўсе высновы вучонага бясспрэчныя. Нельга, напрыклад, пагадзіцца з выказанай ім думкай, што Янку Купалу не ўдалася справа стварэння драмы і сатырычнай камеды. Выпрабаванне часам вытрымала даследаванне «Паэма Якуба Коласа «Сымон-музыка» як аўтахарактарыстыка». І па сённяшні гэта адна з лепшых прац, прысвечаных ліра-эпічнай паэме, якая, паводле меркавання У. Конана, не мае аналагаў у еўрапейскай літаратуры.

Цікава, што на падставе аналізу паэмы «Сымон-музыка» І. Замоцін даследаваў таямніцу ранняга фарміравання спецыфічна «мастакоўскай душы» ў дзіцяці.

І яшчэ адно. Усведамляючы, што беларускае літаратуразнаўства 20-х гадоў мінулага стагоддзя не магло падняцца на новую ступень без неадкладнага разгортвання тэксталагічных даследаванняў, Замоцін становіцца заснавальнікам беларускай тэксталогіі. Самым важным дасягненнем гэтай галіны яго навукова-арганізатарскай і даследчай працы лічыцца двухтомнае акадэмічнае выданне «Творы М. Багдановіча (1927 — 1928)» і манаграфія пра творчасць паэта.

Замоцін пісаў на рускай і беларускай мовах. Навуковыя працы прысвечаны гісторыі літаратуры XVIII — XIX і беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзяў. Першая кніга «Ранние романтические веяния в русской литературе» надрукавана ў 1890 годзе ў Варшаве. У Мінску пабачылі свет працы «На переломе: Схема литературных исканий XIX — XX вв.», «Мастацкая літаратура ў школьным выкладанні. Вып. 1 — 2», «А. С. Пушкін: Нарыс жыцця і творчасці», а таксама некалькі метадычных распрацовак па пытаннях выкладання мовы і літаратуры. У 1991 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга І. Замоціна «Творы» (укладальнік Я. Гаварушка).

Важнае значэнне мела і яго педагагічная дзейнасць. Цудоўныя лекцыі прафесара, прачытаныя на літфаку Вышэйшага педагагічнага інстытута (цяпер Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка), запомніліся тагачасным студэнтам на ўсё жыццё. Вось што ўспамінаў, напрыклад, былы настаўнік, ветэран працы са Смалявіч Яфім Максімавіч Гаварушка: «Лекцыі Замоціна былі не толькі глыбокія, змястоўныя, але і вельмі цікавыя і захапляючыя. Выкладчык вучыў студэнтаў: «Майце свой падыход, сваю канцэпцыю па кожным літаратурным творы. Не займайцеся, паважаныя студэнты, плагіяцтвам *чужых* думак з крытычных артыкулаў, смялей выказвайце ўласныя меркаванні. Вы здольны самастойна зрабіць аналіз мастацкага твора. Рэкамендую крытычныя працы чытаць толькі пасля таго, як у вас складзецца свой погляд на тую ці іншую літаратурную прадукцыю любога пісьменніка».

І. Замоцін шчыра папрацаваў для культурнага адраджэння беларускага народа, разам з ім перажыў духоўны ўздым і разам з ім пацярпеў ад сталінскіх рэпрэсій. 4 красавіка 1938 года даследчык быў арыштаваны, 5 жніўня 1939 года асуджаны на 8 год выпраўленча-працоўных лагераў. Памёр у лагеры 25 мая 1942 года. Быў рэабілітаваны 18 красавіка 1956 года.

**Міхась СЛІВА**

# Караткевіч і цэнзура

**Першае сур'ёзнае сутыкненне Уладзіміра Караткевіча з цэнзурай адбылося ў красавіку 1961 г. Тады на кантроль у Галоўліт БССР прыйшлі гранкі часопіса «Полымя» (1961, № 4), дзе была змешчана адна з першых гістарычных аповесцей Уладзіміра Караткевіча — «Сівая легенда» (першапачатковая назва — «Раман Ракута»). Неўзабаве Л. В. Садоўскі накіраваў В. Ф. Шаўру дакладную, прысвечаную гэтаму твору.**

«У легендзе Уладзімір Караткевіч не раскрывае сутнасці сялянскага паўстання, амаль нічога не кажа пра жыццё сялян таго часу. Для чытача незразумелыя прычыны, што падштурхнулі сялянскія масы выступіць супраціў панства... У той жа час аўтар надае шмат увагі кіраўніку паўстання нобілю Раману Ракуце. Ён яго ідэалізуе, а разам з ім і тую частку магнацтва, да якой ён належыць. Больш за тое, у легендзе прама кажацца, што «нобілі — самыя знакамітыя і самыя паважаныя народам людзі на гэтай зямлі... Народ акаляе гэтых людзей асаблівай увагай і ласкай». Такая пастаноўка пытання, безумоўна, выклікае ў чытача законнае здзіўленне. Тым больш, што гістарычна гэта няслушна... У легендзе ідэалізуюцца і некаторыя прадстаўнікі судовых органаў таго часу, якія, па сцвярджэнню аўтара, не пазбаўлены пачуцця справядлівасці. Жыхароў горада Магілёва, дзе разгортваюцца заключныя падзеі легенды, аўтар паказае як бязвольных п'яніц. Час, калі выбухнула паўстанне, высвятліць цяжка. Патрэбна перапрацоўка».



*Фота з сайта archives.gov.by*

*Уладзімір Караткевіч, 1950 — 1960 гг.*

У ліпені 1961 г. цэнзарам Цэлуеўскім па палітычных меркаваннях выкідаліся цэлыя дыялогі з кнігі апавяданняў У. Караткевіча «Блакіт і золата дня».

Праз два гады, 16 красавіка 1963 г., В. Ф. Шаўра атрымаў дакладную ўжо новага начальніка Галоўліта БССР А. А. Маркевіча, цалкам прысвечаную аднаму твору. Гутарка ішла пра кніжную версію рамана У. Караткевіча «Нельга забыць» (першапачатковая назва — «Леаніды не вернуцца да зямлі»), рэдактарам якога быў В. Сёмуха. А. А. Маркевіч пісаў:

«У свой час гэты раман, надрукаваны ў часопісе «Полымя» пад назвай «Нельга забыць», быў крытыкаваны за тое, што яго героі паказваюцца ў адрыве ад жыцця, яго грамадскіх інтарэсаў. Аднак, пры падрыхтоўцы рамана для апублікавання яго асобным выданнем, гэтыя недахопы не толькі не выпраўлены, але значна пашыраны і паглыблены. Герой рамана — малады пісьменнік, які займаецца на літаратурных курсах у Маскве. Ад яго імя вядзецца аповед пра незвычайнае каханне, якое бывае раз у стагоддзе, пра нейкія асаблівыя адносіны, якіх пакуль што не існуе на зямлі. На старонках рамана паказаны чалавек у роспачы ад барацьбы... Лейтматыў рамана — адчай, песімізм, індывідуалізм: «Ці варта жыць?»

...Пра недалёкае мінулае герой рамана разважае з тугою, а пра нашу рэчаіснасць, пра людзей, з якімі ён сустракаецца, — са злой іроніяй і скептыцызмам. Яго замілоўваюць фрэскі на фасадах царкваў, абразы, гукі званоў (дарэчы, уся вучоба на літаратурных курсах уяўляецца як бясконцыя экскурсіі ў храмы), пра нашых жа людзей, пра рэчаіснасць ён мяркуе паіншаму. Сакратар універсітэта: «паленае няструганае, баязлівец, падлюга і аліпуйшчык». Прыехаўшы на канікулы ў вёску, піша пра яе: «Сухадол быў прыдатны хутчэй да таго, каб дажываць, чым жыць». І далей: «Цяжка стала друкавацца. Нейкі разлад паміж пакаленнямі». Кажучы аб сваім духоўным сталенні, ён падкрэслівае, што «за жыццё прайшоў тры прыступкі: артадаксальны патрыятызм, абражаны нацыянальны гонар... А цяпер я і не ведаю, чаму негрaднік-беларус [падкрэслена Маркевічам] павінен быць мне бліжэй за высакароднага негра». І далей: «На радзіме куча ворагаў, найлепшы друг — латыш».

Расчараваны ў жыцці не толькі галоўны герой, расчараваныя і ўсе персанажы рамана. Размовы герояў аб мастацтве, якое нібыта з'яўляецца другой лініяй рамана, цалкам накіраваны ў мінулае. Аб мастацтве сённяшняга дня яны мяркуюць у духу набалелай праблемы «бацькоў і дзяцей». Асяроддзе сучасных мастакоў, паэтаў і пісьменнікаў, у якое ўводзіць чытача аўтар, пакідае цяжкое ўражанне, нагадвае нейкую багему. Усе яны выглядаюць адарванымі ад жыцця, без пэўных ідэй і поглядаў, увесь час знаходзяцца ў стане бяздзейнасці.

Недазваляльныя змешчаныя ў рамане грубыя і крыўдныя выказванні ў адрас жанчыны: «Евіна племя, яно, брат, таксама не ўсё з сабачага хваста». Незразумела, што хацеў выразіць аўтар, перафразуючы вядомую песню наступным чынам: «Жыць нам стала лепей, стала весялей. Шыя стала тонкая, але ж — даўжэй». Варта звярнуць увагу і на тую частку рамана, у якой вядзецца размова аб кульце асобы Сталіна.

І, нарэшце, у заканчэнні герой рамана, у адчай ад усяго, блукае ўначы па Маскве, разважаючы: «Леаніды больш не вернуцца да зямлі». Сутышэнне ён зноў знаходзіць у царкве, у нейкага «круціцкага церамка». У гэтай сувязі выклікае сумнеў і сама назва рамана. Мяркуючы па развагах аўтара, ён хацеў сказаць аб тым, што «Леаніды» не вернуцца на зямлю да тых пор пакуль тут будуць заставацца дрэнныя людзі. У фармулёцы ж аўтара назва гучыць як сцвярджэнне, што «Леаніды» увогуле не вернуцца на зямлю, гэта значыць мы ніколі не пазбавімся ад дрэнных людзей.



*Фота з сайта archives.gov.by*

*Уладзімір Караткевіч, 1973 г.*

Фармалістычныя, адарваныя ад жыцця і вершы галоўнага героя, якія друкуюцца ў рамане».

Падобны жорсткі прысуд раману, вынесены А. А. Маркевічам, разам з рэцэнзіямі Я. Герцовіча ў Мінску і В. Чалмаева ў Маскве, паўплываў на яго далейшы лёс. Неўзабаве У. Караткевіч быў абвінавачаны ў «абстрактным гуманізме», а набор яго кнігі рассыпаны (асобным кніжным выданнем раман У. Караткевіча пад назвай «Нельга забыць» выйшаў толькі ў 1982 г. спачатку ў Чэхаславакіі, а потым, пад націскам літаратурнай грамадскасці, і ў БССР).

Трэба адзначыць, што няпросты шлях твораў У. Караткевіча да чытача быў абумоўлены таксама прэвентыўнай рэдактарскай цэнзурай. Рэцэнзіі многіх літаратурных рэдактараў і крытыкаў, з якімі аўтар адмаўляўся ісці на кампраміс, мелі заказны, палітычны, далёкі ад літаратурнай творчасці характар. Прыкладам гэтага можа быць цяжкая гісторыя асобнага выдання першай кнігі рамана «Каласы пад сярпом тваім», якая ў скарочаным выглядзе пабачыла свет у часопісе «Полымя» (1965, № 2 — 6). Мала чым адрознівалася па тоне і змесце ад галоўлітаўскай рэцэнзія на раман, напісаная Я. Герцовічам у верасні 1965 г.

Значна сапсаваны рэдактарскімі праўкамі быў таксама рукапіс 1964 г. аповесці У. Караткевіча «Ладдзя роспачы». На яго дваццаці трох старонках было зроблена 296 правак. Рэдактары-цэнзары крэслілі словы «Беларусь», «беларус», упэўнена пісалі «Ладдзя» з маленькай літары.

Напрыканцы хрушчоўскай адлігі У. Караткевіч як адзін з найбольш небяспечных парушальнікаў спакою на беларускім парнасе прыцягнуў да сябе ўвагу вышэйшага рэспубліканскага партыйнага кіраўніцтва ў асобе сакратара ЦК па ідэалогіі С. А. Пілатовіча. Гэта было вельмі небяспечна для Караткевіча-творцы, калі ўлічыць, што С. А. Пілатовіч па сваёй пасадзе з 1965 па 1971 гг. з'яўляўся куратарам Галоўліта БССР. Вядома, што партыйны ідэолаг быў супраць асобнага выдання «Каласоў...». Па яго загадзе крытыкавалі ў друку эсэ «Званы ў прадонням азёр». Прозвішча Караткевіча ўзгадвалася на разнастайных ідэалагічных нарадах як сімвал заганнасці.

*(Урывак з меркаванай да выдання кнігі «Чырвоны аловак. Нарысы па гісторыі цэнзуры ў БССР. 1944 — 1991 гг.». Частка 2.)*

**Аляксандр ГУЖАЛОЎСКІ**

# Замежны — бязмежны

**«Караткевіч international» — пад такой назвай прайшла вечарына, прысвечаная перакладам твораў Караткевіча на польскую і нямецкую мовы.**

Гэта ўжо чацвёртая імпрэза, зладжаная ў межах фестывалю «Лятучы стол Караткевіча». Так, раз на тыдзень увесь лістапад адбываліся вечары, прысвечаныя «нашаму ўсяму». Назва ж фестывалю звязаная з самым сапраўдным, адзіным і непаўторным пісьмовым сталом Уладзіміра Караткевіча. Стол гэты стала прапісаўся па праспекце Незалежнасці, 37 А.

Вядучы імпрэзы, распавёў, што некалі сярод нашых літаратараў было праведзена апытанне: хто самы вядомы ў свеце беларускі пісьменнік і хто — самы любімы ў Беларусі? Вынікі прадказальныя: першым стаўся Васіль Быкаў, другім — Уладзімір Караткевіч. Але ці магчыма перадаць гэтую любоў замежным чытачам? Ці перакладальны пісьменнік Караткевіч?

Адказы на гэтыя пытанні шукалі дырэктар інстытута Гётэ Франк Баўман, філолаг-германіст Вераніка Дзядок і польская перакладчыца Караткевіча Малгажата Бухалік.

Але перадусім арганізатары і госці імпрэзы аддалі даніну павагі легендарнаму нямецкаму перакладчыку Норберту Рандаў, які зусім нядаўна пайшоў з жыцця.

Вераніка Дзядок расказала пра тыя выданні твораў Караткевіча, якія ўжо існуюць на нямецкай мове. Так, адно з іх — пераклад аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» 1985 года — гледачы маглі ўбачыць і пагартаць: з гэтай кнігі спадар Баўман зачытаў урывак па-нямецку. Яшчэ існуе кніга «Краіна пад белымі крыламі», якая была перакладзеная і выдадзеная на нямецкай мове ў Беларусі (1983). У 2000-м выйшаў зборнік «Беларускае апавяданне», у які патрапіў пераклад аднаго з апавяданняў Караткевіча. Некаторыя яго творы выходзілі ў перакладзе Норберта Рандаў.

— Гэта чалавек, якога немагчыма абмінуць, кажучы пра беларускую літаратуру ў Германіі, — падкрэсліла спадарыня Вераніка. — Беларушчынай зацікавіўся выпадкова. Па першай адукацыі ён балгарыст. З 1962 па 1965 сядзеў у турме ў ГДР, а калі вызваліўся, даведаўся, што яго сястра выйшла замуж за беларуса, Уладзіміра Чапегу, які быў перакладчыкам. І між імі ўсталявалася вялікае сяброўства, у тым ліку творчае. Разам ці паасобку яны пераклалі шмат беларускіх твораў, сярод іх — «Абеліск», «Аблава» Васіля Быкава. Таксама Норберт Рандаў уклаў дзве анталогіі беларускага апавядання. З апошняга — яго пераклад аповесці «Дзве душы» Максіма Гарэцкага. На жаль, кніга не паспела выйсці.

Малгажата Бухалік, русіст, «прафесійны філосаф і класічны філолаг», пераклала на польскую мову два творы Уладзіміра Караткевіча: «Дзікае паляванне караля Стаха», якое пакуль не выйшла, і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

— Я лічу, што першым павінна было б выйсці «Дзікае паляванне...». Яно лепей прыжылося б у Польшчы, якая Караткевіча не ведае. Я перакладаю і сучасную беларускую літаратуру, але мне падалося, што палякам трэба паказаць нешта глыбейшае, тое, на што абапіраецца сучасная беларуская мова. Караткевіч для гэтага вельмі прыдатны. Сам ён папулярызатар чытання, і не школьнага, але такога, каб з ліхтарыкам і пад коўдрай. А яшчэ ён вельмі падобны да нашага Сянкевіча — стылістычна. І для польскага чытача ён будзе гучаць цалкам натуральна, так што не дзівіцеся, калі аднойчы пачуеце ад паляка, што Караткевіч — наш.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Моцарт, Шапэн, Радзівіл...

**Што мы ведаем пра музычныя прыхільнасці магнацкіх родаў і шляхты, якія жылі ў палацах ды сядзібах? Беларусь спакон веку была краінай замкаў: Гальшанскі, Мірскі, Нясвіжскі, Лідскі, Навагрудскі, каралеўскі замак у Гродне. Нямала на беларускай тэрыторыі налічвалася і сядзіб, у якіх фарміраваўся прыкметны пласт музычнай культуры.**



*Удзельнікі некамерцыйнага праекта «Маладыя галасы».*

Словазлучэнне «замкавая музыка» ў многіх выклікае асацыяцыі: гучанне аўтэнтычных інструментаў Сярэднявечча — рысталішчных фанфар і дуды. Такі стэрэатып склаўся ў апошні час у многім пад уплывам папулярных ралявых гульняў — рыцарскіх турніраў. На самай справе нават у часы змрочнага Сярэднявечча на беларускіх землях панавала значна больш свабодная атмасфера, і мастацтва было больш шматгранным. З надыходам эпохі Рэнесансу, а затым — Барока пачаўся сапраўдны росквіт замкавай і сядзібнай музыкі. Ён ахопліваў 5 стагоддзяў: з XV па XIX.

Многія прадстаўнікі нашых магнацкіх родаў атрымлівалі адукацыю і вандравалі за мяжой. У той час заканадаўцай музычнай моды была Італія. У заходнееўрапейскай музычнай культуры распаўсюджваўся жанр італьянскага мадрыгала — вакальнага твора, у якім услаўляліся прыгажосць і чалавечыя пачуцці. Адукаваная нацыянальная эліта прынесла мадрыгалы і на нашы землі. Аднак у той жа час развіваўся і ўласны музычны жанр — кант, аднагалосная ці шматгалосная песня. Канты маглі быць і духоўнага, і свецкага зместу. Як вядома, да нас дайшоў зборнік кантаў эпохі барока, запісаных на тэрыторыях Вялікага Княства Літоўскага, — знакаміты Полацкі сшытак.

Знатныя асобы, што вучыліся за мяжой, дасылалі і прывозілі на Радзіму ноты лепшых музычных твораў. Магнаты выпісвалі і куплялі высакаякасныя музычныя інструменты. Арыстакраты стваралі тэатры: згадаем славуты тэатр Уршулі Радзівіл, тэатры ў Слуцку і Пружанах. У замкавых тэатрах ставіліся невялікія па памеры класічныя оперы, пераважна Чымарозы, Пергалезі, Паізіелы, паколькі Італія лічылася эталонам у гэтым жанры. Пры замках адчыняліся шматфункцыянальныя капэлы, у склад якіх уваходзілі хор, аркестр, ансамблі, салісты. Музыка суправаджала ўсе значныя падзеі ў замках і палацах: прыёмы у гонар каранаваных асоб, паслоў, замежных гасцей, дні нараджэння, дні святых — заступнікаў роду пэўнай фаміліі. Кожны палац меў уласную капліцу, у якой адбываліся святочныя багаслужэнні падчас важных рэлігійных дат, аздобленыя музыкай. Гучаў арган, граў аркестр, пелі хары і салісты. Усё гэта злівалася ў непараўнальнай прыгажосці і пышнасці музычную карціну.

Заможныя людзі не шкадавалі сродкаў на развіццё музыкі — гэта было іх духоўнай патрэбай. І такая ўвага да музычнай культуры займела свае вынікі. Небывалы росквіт выканаўчага і кампазітарскага мастацтва на нашых землях. Некаторыя прадстаўнікі шляхетных родаў самі пісалі камерную і оперную музыку, складалі лібрэта для опер. Князь Генрык Радзівіл, напрыклад, стварыў оперу «Фауст» на тэкст Гётэ. Роля музыкі ў замках і палацах стала іншай, музыка ператварылася ў неад'емную частку паўсядзённага жыцця — балы, асамблеі… Выканаўцамі выступалі як айчынныя майстры, так і запрошаныя заходнееўрапейскія. Яны лічылі за гонар прыехаць на нашы землі: тут іх высока цанілі і даравалі вялікія прывілеі. Некаторыя заставаліся навучаць нацыянальных музыкантаў, складалі музыку, такім чынам адбывалася ўзаемапранікненне культур. Шырокую вядомасць, напрыклад, атрымаў Ян Давід Голанд, немец па нацыянальнасці, які доўга жыў на беларускіх землях і ствараў оперы, балеты, вакальныя творы.

Самыя вядомыя шляхетныя фаміліі, прадстаўнікі якіх шмат зрабілі для развіцця музычнага мастацтва на тэрыторыі Беларусі, — Радзівілы, Пуслоўскія, Чапскія, Чартарыйскія, Сапегі, Паскевічы.

У сядзібах, вядома, усё адбывалася значна больш сціпла. Існавалі музычныя салоны, дзе віравала жыццё. Распаўсюджанне тут атрымаў жанр музычнай мініяцюры, выконваліся таксама сцэны, арыі, дуэты з опер. Шляхцічы, а асабліва шляхцянкі, шмат музіцыравалі ў вольны час.



*Струнны квартэт у Мірскім замку.*

У сучаснай Беларусі прапаганда замкава-сядзібнай музыкі — адзін з напрамкаў дзейнасці ўдзельнікаў некамерцыйнага праекта «Маладыя галасы». Праект рэалізуецца ў рэспубліцы дзявяты год пад эгідай ЮНЕСКА. «Наша галоўная задача — захаванне ў жывым канцэртным выканальніцтве гістарычнай музычнай спадчыны, — падкрэслівае аўтар і творчы кіраўнік праекта, лаўрэат і дыпламант міжнародных конкурсаў, уладальніца ганаровых дыпломаў Міжнароднага музычнага форуму «Мастацтва. XXI стагоддзе» і ЮНЕСКА Тамара Астапенка. — Музыка павінна захоўвацца і ў друкаваных выданнях, і на дысках, але яна жыве, пакуль гучыць у канцэртах». Праект быў створаны на базе класа опернай падрыхтоўкі Беларускай акадэміі музыкі. Першае прадстаўленне ў рамках праекта адбылося ў Доме Ваньковічаў у Мінску. Спачатку ў ім удзельнічалі толькі вакалісты, якія выступалі на прэзентацыях, адкрыцці выставак. Потым межы пашырыліся, у яго склад увайшлі інструменталісты, у тым ліку тыя, хто выконвае музыку на рэдкіх інструментах — арфе, мандаліне. Гучаць на канцэртах «Маладых галасоў» і труба, і флейта, і струнны квартэт, і струнныя сольна. «Мы запрашаем у праект толькі лаўрэатаў і дыпламантаў міжнародных конкурсаў, — расказвае Тамара Астапенка. — Бо выконваць творы мінулых эпох надзвычай складана. Трэба быць вельмі адукаваным, ведаць увесь спектр мастацтваў эпохі, каб зрабіць гэта стылістычна дакладна».

Не так даўно «Маладыя галасы» ў канцэртнай зале «Верхні горад» ладзілі канцэрт пад назвай «Музыка ў беларускіх замках і сядзібах». Па словах Тамары Астапенка, мастацкай канцэпцыяй праграмы было супаставіць айчынную музыку таго часу з заходнееўрапейскай, каб даказаць: па ўзроўні і прыгажосці яна не саступае. І пры гэтым прадэманстраваць, што наша нацыянальная эліта была добра знаёмая з дасягненнямі сусветнай музычнай культуры. На канцэрце на псалом Шутца «адгукаўся» беларускі духоўны кант «Вітай, Марыя!», які стаў на землях Беларусі музычным сімвалам Прачыстай Дзевы. Італьянскі мадрыгал суседнічаў з трыпціхам з Полацкага сшытка. Гэта была прэм'ера трох кантаў у арыгінальнай канцэртнай транскрыпцыі, дапоўненых і аб'яднаных драматургіяй. «Мы выкарысталі багатыя магчымасці, закладзеныя ў кантах, і суправадзілі іх мізансцэнамі», — патлумачыла Тамара Мікалаеўна. На фоне знакамітага «Міланскага квартэта» Моцарта не згубіўся «Дывертысмент» Мацея Радзівіла. Бліснулі музычным жэмчугам мініяцюры «Жаданне» Шапэна і «Пастараль» Яна Тарасевіча — нашчадка беларускага шляхецкага роду, музыканта імператарскага двара ў Пецярбургу.

«Маладыя галасы» ладзілі грандыёзны канцэрт у Нясвіжскім замку, слухачамі якога былі нашчадкі шляхецкіх родаў. У Варшаве на прэзентацыі Мірскага і Нясвіжскага замкаў удзельнікі праекта рыхтавалі музычную частку. А наступнай вясной «Маладыя галасы» запрошаны з канцэртам у Варшаўскі Каралеўскі замак.

**Наталля КАНСТАНЦІНАВА,**
**фотаздымкі прадастаўлены ўдзельнікамі праекта**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2599.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 28.11.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4728.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686